Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№5 (4549) 5 лютага 2010 г.

## У нумары:





“Сёння шмат гаворыцца пра вяртанне спадчыны нашых землякоў на Радзіму. Можа, гэта і не сціпла прагучыць, але я лічу, што з дапамогай маёй кнігі амаль уся мастацкая спадчына Напалеона Орды, няхай не ў арыгінале, а ў выглядзе фотакопій, вярнулася ў Беларусь”, — з гонарам зазначае аўтар фаліянта “Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны” Леанід Несцярчук. І гэтае вяртанне не засталося без увагі. У мінулым годзе кніга атрымала “Гран-пры” на VI Міжнародным конкурсе краін-удзельніц СНД “Мастацтва кнігі”, а на Дні беларускага пісьменства ў Смаргоні была ўключана ў лік лепшых выданняў 2009 года ў Беларусі. Згадаем яшчэ раз адну з самых яркіх сёлетніх кніжных падзей.






# Яркае вяртанне

Альбомы, прысвечаныя творчасці мастака, педагога, музыканта Напалеона Орды, неаднойчы выходзілі ў розных выдавецтвах. Але гэтае выданне, складзенае кандыдатам гістарычных навук Леанідам Несцерчуком, сталася найбольш поўнай беларускамоўнай навуковай манаграфіяй пра выбітнага дзеяча нашай культуры. Берасцейшчына — раздолле для гісторыкаў, бо адсюль родам надзвычай шмат слынных людзей Беларусі. Леанід Міхайлавіч 16 гадоў таму пачаў вывучаць іх шляхі. Цікавілі такія асобы, як Адам Міцкевіч, Тадэвуш Касцюшка, Адам Нарушэвіч, Юзэф Крашэўскі, Юліян Нямцэвіч, Напалеон Орда ды многія іншыя. Плён гэтых даследаванняў выліўся ў даследаванні“Палацы, паркі, замкі Берасцейшчыны”, “Вяртанне героя на Радзіму” (прысвечана Тадэвушу Касцюшку) ды іншыя. Манаграфія Леаніда Несцерчука пра Напалеона Орду павінна была выйсці ў 2007 годзе, да 200-гадовага юбілею мастака. Але, як згадвае сам гісторык, тое выданне атрымалася б не такім прыгожым і змястоўным, як сённяшняе, бо на той час быў сабраны не ўвесь матэрыял. У 2008 годзе Леанід Несцярчук атрымаў дазволы Нацыянальных музеяў Кракава, Варшавы, Вільнюса, Львова, Ягелонскага універсітэта ды іншых для таго, каб апублікаваць фотакопіі прац беларускага мастака.

“Мне давялося гартаць сапраўдныя акварэлі Напалеона Орды, я адчуваў вялікае хваляванне ад таго, што магу дакрануцца да гісторыі, да знакамітых твораў мастацтва, — распавядае даследчык. — Сённяшнія сродкі фотафіксацыі дазваляюць перадаць усе тонкасці малюнкаў Орды, адлюстраваць колеры і адценні”.

У выданні змешчана 238 ордаўскіх выяў беларускіх гарадскіх аб’ектаў і пейзажаў, сістэматызаваных па абласцях і раёнах, а таксама 98 малюнкаў, прысвечаных гістарычным краявідам Еўропы – Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Расіі, Германіі, Францыі, Партугаліі, Іспаніі. “У кнізе прадстаўленыя практычна ўсе існуючыя малюнкі Напалеона Орды, выкананыя ім на сучаснай тэрыторыі Беларусі. Здаралася, што нейкая мясціна, як, напрыклад, Мерачоўшчына Тадэвуша Касцюшкі, не была паказаная на акварэлях Орды, але ён адлюстроўваў яе на літаграфічных малюнках. Таму ў кнігу ўвайшлі і фотаздымкі літаграфій мастака”, — распавядае аўтар выдання. Леанід Несцярчук, які сам з’яўляецца сакратаром каардынацыйнага савета Брэсцкага аблвыканкама па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, пераконвае, што пейзажы Орды маюць неацэннае значэнне для гісторыкаў, краязнаўцаў, архітэктараў. Яны адыгрываюць важную практычную ролю: дазваляюць вызначыць, дзе размяшчаліся тыя ці іншыя будынкі, убачыць аблічча радзімы XIX стагоддзя і павінны стаць асновай для рэстаўрацыі



многіх аб’ектаў архітэктуры. Каштоўнай гістарычнай даведкай сталі і ордаўскія подпісы пад кожным малюнкам, у кнізе яны змешчаныя ў перакладзе з польскай і французскай моў на беларускую.

Леанід Несцярчук зачытвае мне лісты ад чытачоў, якія дзякуюць за цудоўнае выданне. А на афіцыйным узроўні падзяка прыйшла ў выглядзе ганаровых дыпломаў, віншавальных тэлеграм не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы.

Кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Валерый Рагалевіч, які з’яўляецца членам аргкамітэта Міжнароднага конкурсу краін-удзельніц СНД “Мастацтва кнігі”, згадаў, як мінулай восенню вёз каштоўны фаліянт “Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны” на конкурс у Маскву. “Мы вагаліся, ці выстаўляць кнігу ў самай высокай намінацыі “Гран-пры”: па правілах конкурсу, калі выданне не бярэ гэты найвышэйшы прыз, то застаецца без узнагароды, бо ў астатніх намінацыях яно ўдзельнічаць ужо не можа. Вырашылі рызыкнуць — і не прагадалі. Журы прысудзіла “Гран-пры” адразу двум выданням: беларускаму “Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны”, выпушчанаму ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, і расійскаму трохтомніку “Великие сказки мира” выдавецтва “Эксмо”.

За ўвесь час існавання конкурсу беларускія кнігі бралі такую высокую ўзнагароду толькі аднойчы — у 2006 годзе выдавецтва “Рыфтур” атрымала яе за альбом “Чарнобыль”. “На Міжнародным конкурсе “Мастацтва кнігі” выданні вытрымліваюць сапраўды жорсткую канкурэнцыю, выстаўляецца шмат кніг надзвычай высокай паліграфічнай якасці. Сёлета ў конкурсе ўдзельнічалі 140 выданняў з 9 краін СНД і Эстоніі, прыемна, што кніга выдавецтва “Мастацкая літаратура” заняла сярод іх такое пачэснае месца”, — дадае В. Рагалевіч. Ён таксама адзначыў, што фаліянт стаў лаўрэатам і айчыннага конкурсу “Мастацтва кнігі” — “за ўклад у захаванне духоўнай спадчыны”.

Шлях да Бацькаўшчыны — часам няпросты і пакручасты, але ён мусіць адбыцца для ўсёй нашай згубленай спадчыны — праз цікавасць да яе і веданне сваёй гісторыі — да гэтага імкнуўся Напалеон Орда, намагаючыся сваімі малюнкамі захаваць для нашчадкаў прыгажосць беларускіх пейзажаў, паркаў, палацаў, сядзіб.

Саша ДОРСКАЯ

На здымках: На малюнку Напалеона Орды Саборная плошча ў Мінску; дыплом VI Міжнароднага конкурсу краін-удзельніц СНД “Мастацтва кнігі”; галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп дэманструе альбом “Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны”.

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

• У Мінску адбылася закладка новага будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Падобных аб'ектаў на тэрыторыі краін, якія змагаліся з фашызмам, да гэтага часу не ўзводзілі і не планавалі. Магчыма, на цырымоніі адкрыцця будуць прысутнічаць прадстаўнікі ўсіх дзяржаў-удзельніц барацьбы супраць фашызму. Як ужо паведамлялася, новы будынак музея размесціцца на ўзгорку, каля абеліска "Мінск — горад-герой". Побач будзе закладзена плошча Перахможцаў з фантанам, а з правага боку — закладзены парк Перамогі. Знешняе аблічча будынка, па задумцы архітэктараў, павінна гаварыць пра веліч, сілу і моц арміі і народа.

• «Слоўнік сучаснай беларускай мовы» пляне прадставіць на XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы выдавецтва «Народная асвета». Гэтае выданне падрыхтавана ў адпаведнасці з законам «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». У яго ўключана лексіка сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у тым ліку прафесійная і філасофска-рэлігійная тэрміналогія. Дадзены звесткі аб вымаўленні, націску і ўтварэнні граматычных форм. У якасці дадатку прапануюцца асабовыя імёны, словы і звароты ветлівасці. Слоўнік прызначаны для школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў і ўсіх, хто дбае пра чысціню і выразнасць роднай мовы.

• Міжнародная асацыяцыя пісьменнікаў-марыністаў і баталістаў узнагародзіла Леаніда Дайнеку прэміяй імя Валянціна Пікуля за серыю гістарычных раманаў. Такое рашэнне кіраўніцтва асацыяцыі прыняло на сваім пасяджэнні 28 студзеня, у дзень 70-годдзя Леаніда Марцінавіча. У бліжэйшы час пісьменнік атрымае адпаведны дыплом і залаты медаль, якім ганаруюцца ўсе лаўрэаты прэміі. Вядомасць Л. Дайнеку прынеслі раманы "След ваўкалака", "Меч князя Вячкі" і "Жалезныя жалуды".

• Выдавецтва "Кавалер" прадставіць на выстаўцы-кірмашы кнігу "На далонях вечнасці", у якую ўключаны выбраныя старонкі з сшыванай у 1999 годзе серыі "Сем цудаў Беларусі". Шчырае слова пра нашу родную і непаўторную зямлю прамовілі Анатоль Бутэвіч і Уладзімір Ягоўдзік. Зацікаўленны чытач знойдзе ў выданні матэрыялы пра найбольш памятныя і значныя падзеі, з'явы, помнікі прыроды, культуры і гісторыі, пра выбітных асоб, якімі адметна наша краіна і якім чынам зможа зазірнуць у чароўны і непаўторны свет мінулага.

• У перакладзе на літоўскую мову ў Вільні выйшла кніга краязнаўцы Сяргея Верамейчыка "Міхал Клеафас Агінскі". Выданне з'явілася па замове дырэктара музея Агінскага ў літоўскім горадзе Рэтавас Віталіса Руткаўскаса і пры падтрымцы Цэнтра рэгіянальных культурных ініцыятыў. Аўтар распавядае пра нашага земляка, аўтара славутага паланеза "Развітанне з Радзімай". Першапачаткова кніга ўжо выходзіла па-беларуску.

• Сярод твораў, якія прадставіць на выстаўцы-кірмашы беларускае выдавецтва "Папуры", увагу юных наведвальнікаў і іх бацькоў, безумоўна, прыцягне адна з яго новых кніжак — "Крынічка. Хрэстаматыя для дзяцей малодшага школьнага ўзросту". Тут сабраны найлепшыя ўзоры фальклору, творы айчынных і замежных пісьменнікаў. Гэтае выданне адрасуецца вучням, настаўнікам, выхавальнікам дзіцячых устаноў, навучэнцам педагагічных ВНУ і вучэлішчаў.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Бажэна СТРОК

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Праекты, што маюць розгалас

Як зазначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, беларускія творцы актыўна ўдзельнічаюць у XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Падрыхтаваны асобны стэнд, спланаваны прэзентацыі кніжных навінак. Серыя, якая мае вялікі рэзананс у свеце, — "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" атрымала ў 2009 годзе свой працяг.

У прыватнасці, летась убачылі свет збор твораў Івана Шамякіна, "Выбраныя творы" Івана Чыгрынава, камедыі Анатоля Дзялендзіка "Гиппопотам", раман Уладзіміра Федасеенкі "Мутныя росы", зборнік прозы і паэзіі Аляксандра Суслава "Малиновый набат", кніга Сяргея Трахімёнка "Родная крывинка", томік паэзіі Андрэя Скарынкіна "Черный аист", раман Анатоля Жука "Бульвар", кніга Васіля Ткачова "Снукер", кніга дыпламата Петка Ганчава "Между прошлым и будущим" ды іншыя выданні. Да таго ж, у 2009 годзе выйшлі ў свет 12 тамоў сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы. Яшчэ дзве кнігі ў дадатак да гэтага праекта выдрукаваныя ўжо сёлета.

Што да папулярызацыі новых твораў, то тут і Саюз пісьменнікаў Беларусі, і выдавецтвы, дзе працуюць члены саюза, праводзяць шэраг прэзентацый, аўтограф-сесій ды іншых літаратурных імпрэз.

Рыта СТАХ

## Падзея года

Урачыстае адкрыццё XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — 10 лютага 2010 года а 12-й гадзіне, на цэнтральнай пляцоўцы павільёна БелЭКСПА (вул. Янкі Купалы, 27). Прэзентацыя калектыўнай экспазіцыі Рэспублікі Францыя — ганаровага госця сёлетняй выстаўкі-кірмашу — чакаецца на стэндзе гэтай краіны. Між іншым, у гэты ж дзень, з 10 лютага, і аж но да 15 сакавіка Музей кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі арганізуе экспазіцыю "Французскі аўтограф".

# Гартаючы праграму выстаўкі-кірмашу

Зазвычай першы дзень на выстаўцы — аншлагавы. Па ім можна прагназаваць "надвор'е" і на наступныя дні. Але самыя адметныя і характэрныя мерапрыемствы анансуюцца адразу ж.

У рамках дзён, акрамя аўтограф-сесій і прэзентацый чакаюцца і своеасаблівыя акцыі. Найперш — прадаставіцца магчымасць азнаёміцца з лепшымі кнігамі XXXIX Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" — будуць пераможцы ў 20 асноўных намінацыях; з кнігамі-лаўрэатамі VI Міжнароднага конкурсу дзяржаў-удзельніц СНД — каля 30 кніжных фаліянтаў не толькі Беларусі, але і іншых краін.

У пераліку значных падзей раім звярнуць увагу і на наступнае.

"Мы таксама выдаём цікавыя кнігі" — такую прэзентацыю выданняў, якія выйшлі ў свет у выдавецтвах, "якія ў Беларусі ведаюць не ўсе", арганізуюць выдавецтвы "Летний сад", "Новый Акрополь", "Галарт".

Чакаюцца сустрэчы з Міхаілам Велерам, Аляксандрам Калецкім, Вольгай Грэг, вядомым ізраільскім журналістам, выдаўцом, пісьменнікам-сатырыкам, драматургам Маркам Галеснікам.

З ліку мерапрыемстваў для дзяцей увагу наведвальнікаў прыцягне адкрыццё выстаўкі сучаснай дзіцячай кніжнай ілюстрацыі з Беларусі, Германіі, Ізраіля і Польшчы "Жили-были" (яе арганізатар — Пасольства Германіі ў Рэспубліцы Беларусь), а таксама майстар-клас кіраўніка студыі дзіцячага малюнка ў рамках выстаўкі, прысвечанай 65-годдзю Вялікай Перамогі (арганізатар — выдавецтва "Пачатковая школа"). Чакаецца прэзентацыя "Энциклопедии для школьников и студентов", а таксама іншых дзіцячых выданняў выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" — "7 чудес", "Теремок сказок", "Волшебный сундучок", "7 битв белорусского воинства". І, нарэшце, на кніжным стэндзе Германіі будзе арганізаваны асобны дзіцячы стэнд.

Для спецыялістаў будуць цікавыя форум для выдаўцоў "Супрацоўніцтва ў галіне выдавецкай справы і кніжнага рынку" з удзелам Акселя Дзільмана (кіраўнік нямецкага выдавецтва "Axel Dilmann") і Монікі Кольб-Клауш, дырэктара Нямецкай кнігагандлёвай школы, а таксама — семінар работнікаў выдавецтваў і кнігагандлёвых прадпрыемстваў пра сучасны стан кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання ў Расіі. Адбудзецца яшчэ адзін семінар з удзелам нямецкіх спецыялістаў — "Ад вытворчасці кніг — да бітаў і байтаў: тэхнічныя ноу-хау ў вытворчасці". Уручэннем дыпломаў "Лепшая кнігарня" будуць адзначаны кнігагандлёвыя арганізацыі Беларусі.

І, бясспрэчна, выстаўка-кірмаш — гэта магчымасць абмену кнігамі. Плануецца перадача нямецкай літаратуры ў дар шэрагу універсітэтаў і абласных бібліятэк Беларусі; спецыяльнай калекцыі кніг ад імя Урада Масквы — Дому Масквы ў Мінску; кніг экспазіцыі Саратаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі — Міністэрству інфармацыі Беларусі; новых кніг расійскіх выдавецтваў — Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.

Але для кожнага самай запамінальнай падзеяй выстаўкі стане тая, відавочцам якой ён зможа быць сам.

Ірына ТУЛУПАВА

## Памяць

# Будзе створана «Партызанская вёска»

9 мая 2010 года Беларусь адзначыць 65-годдзе з дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Падрыхтоўка да гэтага вялікага свята ўжо вядзецца.



"Перамога… У гэтым слове і мужнасць, і кроў, і спадзяванне… Дзень Перамогі — галоўнае свята нашага народа. Мы павінны гучна казаць пра гэта, каб ніхто не змог перапісаць гісторыю Вялікай Айчыннай вайны на свой лад", — з болем у сэрцы гаварыў падчас "круглага стала" "Аб падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прымеркаваных да 65-годдзя Вялікай Перамогі" пісьменнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі.

Колькасць ветэранаў штогод скарачаецца і сёння складае менш як 45 тысяч чалавек. У рэспубліцы пражывае каля 50 тысяч грамадзян, якія пацярпелі ад наступстваў вайны. Клопат пра ветэранаў — адзін з галоўных прыярытэтаў дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі, адзначыў старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Анатоль Новікаў.

Як падкрэсліў начальнік упраўлення дзяржаўнай сацыяльнай падтрымкі насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Іван Нагібін, ужо ў красавіку ветэраны атрымаюць аднаразовыя выплаты. На гэтыя мэты плануецца выдзеліць 17,3 мільярда рублёў. Агульная колькасць атрымальнікаў грашовай дапамогі складзе каля 90 тысяч чалавек.

9 мая ў Мінску парад войск пачнецца з праходжання рэтракалоны, якая будзе сімвалізаваць Парад Перамогі 1945 года, адзначыў начальнік прэс-службы Міністэрства абароны Беларусі Вячаслаў Раменчык. Па словах намесніка дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Вячаслава Казачонка, да Дня Перамогі будзе адкрыты новы філіял музея пад назвай "Партызанская вёска", аналагаў якой няма ў свеце.

Уладзімір ПАДАЛЯК

## Юбілей

# У вучня Якуба Коласа — свае вучні

Мікола Аўрамчык, без перабольшвання, легендарная постаць у айчыннай літаратуры, нядаўна адзначыў 90-годдзе. 3 гэтай нагоды адбылася святочная імпрэза ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа з удзелам юбіляра.



Рэй, як прынята казаць у такіх выпадках, вёў Генрых Далідовіч. І невыпадкова. Яго пакаленню дапамагаў адольваць літаратурныя сцежкі і шляхі Мікола Якаўлевіч, які і сам ведаў важнасць такой падтрымкі. Бо ў свой час ветлы водгук Якуба Коласа паспрыяў станаўленню маладога паэта. Працярэбліўшы сваю дарогу ў літаратуры, заняўшы свой пачэсны пасад у якасці рэдактара аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", Мікола Аўрамчык, як мог, "сплачваў доўг". Але ўжо не настаўніку, а сваім вучням і наступнікам, якіх за шматгадовую працу з'явілася вельмі шмат. Многія з іх сталі сапраўдным гонарам беларускага прыгожага пісьменства: Уладзімір Дамашэвіч, Мікола Мятліцкі, Казімір Камейша, Віктар Гардзей, той жа Генрых Далідовіч… Тры апошнія з іх у сваёй працоўнай біяграфіі таксама сталі маладосцеўцамі, у чым бачыцца пераемнасць традыцый. Яны і многія іншыя прыйшлі і ў гэты вечар ушанаваць патрыярха літаратуры.

Закругляў вечарыну сваім нязменна бадзёрым голасам сам юбіляр, які нібыта валодае эліксірам маладосці і выглядае, па вобразным выказванні М. Мятліцкага, ледзь не пачатковым. Мікола Якаўлевіч расказаў, з якім душэўным трымценнем больш шасцідзесяці гадоў таму ўпершыню пераступаў парог Колясавай хаты, і прызнаўся, што тыя глыбокія пачуцці заўжды суправаджалі яго пры наведванні гэтага дома і такімі ж перажываннямі ён перапоўнены на працягу ўсяго святочнага вечара.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Фота Андрэя Давыдчыка

## З нагоды

# Дзівосы ў мініяцюры

Выстава мініяцюрных выданняў "Дзівосы на далонях" з калекцыі Яўгена Ксеневіча і фондаў музея адкрылася ўчора ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Пачатак збіральніцтва рукапісаў і кніг у нашай краіне адносяць да XVI ст. У другой палове XX ст. узнікла новая галіна збіральніцтва, якая пазней стала шырока вядома як рух аматараў мініяцюрнай кнігі. Дарэчы, яна мае ў Беларусі сваю гісторыю. Першыя такія выданні ўбачылі свет у XVII — XVIII стст.: Малітваслоў (Магілёў, 1695), Святцы (Супрасль, 1786). Прыкладна толькі адна са 100 000 кніг выдаецца ў мініяцюрным фармаце. Такія кнігі вельмі рэдкія. І таму падобныя выданні заўсёды выклікаюць цікавасць сваім памерам, зручнасцю ў карыстанні і змястоўнасцю.

На выставе прадстаўлены кнігі самай рознай тэматыкі: зборнікі сусветна вядомых паэтаў і празаікаў розных часоў, пачынаючы з эпохі Сярэднявечча, шматлікія даведнікі і энцыклапедыі, якія змяшчаюцца ў кішэні, гумарыстычныя выданні. У асобным раздзеле дэманструюцца мініяцюры пра Беларусь, зборнікі твораў класікаў нашай літаратуры, каштоўнасці духоўнай спадчыны, а таксама эксклюзіўная калекцыя мініяцюрных выданняў твораў Сяргея Ясеніна. Прысвячаецца ж выстава 520-годдзю з дня нараджэння першадрукара і асветніка Францыска Скарыны.

Раіса МАРЧУК

## Літ-абсягі

# І паэзія, і творцы асоба

Літаратурны вечар Анатоля Зэкава ў бібліятэцы № 5 г. Мінска з нагоды яго 55-годдзя выпучаўся з шэрага падобных мерапрыемстваў тым, што праходзіў пад дыктоўку самога юбіляра. І гэта жаданне паэта не выглядала з боку нейкім дыктатам, проста, як адзначыла, прадстаўляючы госця, пісьменніца Наталля Касцючэнка: "Анатоля Зэкава нельга загнаць у пэўныя рамкі сцэнарыя, бо ён першнаперш імправізатар, сам сабе і сцэнарыст, і рэжысёр, і выканаўца". Таму вядучая адразу ж склала свае паўнамоцтвы і цалкам перадала іх юбіляру, перад гэтым, праўда, даўшы слова старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасю Пазнякову. Кіраўнік сталічнай пісьменніцкай арганізацыі павіншаваў паэта з "дзвюхпяцёрачным" юбілеем і ўручыў яму Ганаровую грамату за шматгадовую плённую літаратурную працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.



Далей Анатоль Зэкаў — дзе ўсур'ёз, а дзе і з уласцівым яму гумарам — распавядаў пра свой жыццёвы і творчы шлях, ілюструючы сказанае паэтычнымі радкамі пра родную вёску Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна, пра сваіх бацькоў, землякоў і сяброў. Аповед гэты арганічна дапаўнялі выступоўцы, якія на пэўных этапах жыцця юбіляра адыгралі прыкметную ролю ў яго станаўленні як пісьменніка. Так, Мікола Чарняўскі, працуючы ў рэдакцыі часопіса "Бярозка", бласлаўляў у друк першыя вершы свайго юнага земляка, калі той быў яшчэ школьнікам, Уладзімір Ліпскі далучыў яго да часопіса "Вясёлка" і Усебеларускага фестывалю народнага гумару ў Аўцюках, загадчык рэдакцыйна-выдавецкага аддзела выдавецтва "Красико-Принт" Людміла Несцяровіч "раскруціла" паэта ў чытацкіх аўдыторыях рэспублікі, вядучы бібліятэкар Фундаментальнай бібліятэкі БДУ Ірына Шкіронак, пастаянна арганізоўваючы сустрэчы Анатоля Зэкава, наблізіла да яго шматгранчай творчасці студэнтаў і выкладчыкаў многіх факультэтаў. Сваім стаў паэт і сярод членаў літаратурнага клуба "Натхненне" пры Доме ветэранаў, ад імя якіх юбіляра павіншавала яго кіраўнік Вольга Сакалова. Супрацоўніца часопіса "Вясёлка" Анастасія Радзіевіч узнёсла прачытала некалькі вершаў паэта для дзяцей, а Мікола Шабовіч і Аляксандр Бykaў — пароды на свайго калегу.

На вечары ў запісе прагучалі таксама і песні на вершы Анатоля Зэкава ў выкананні Якава Навуменкі, Аляксандра Балотніка і ансамбля "Сябры". Напрыканцы мерапрыемства паэт прачытаў некалькі пародый і адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

Сустрэчы з паэтам у гэтыя дні наладзілі таксама Мінская цэнтральная гарадская дзіцячая бібліятэка імя М. Астроўскага, сталічная дзіцячая бібліятэка № 4, прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 155.

Лізавета ШЫЛАЙ

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Усмешка Флоры

**Наведнікі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь маюць прыемную магчымасць падзівіцца на "Кветкавыя імпрэсіі" Марыі Ісаёнак. Персанальная выстаўка нашай знанай самабытнай мастачкі працуе тут да 22 лютага.**



Пра тое, наколькі вядомае ў свеце імя Марыі Ісаёнак, сведчыць просты пералік і персанальных выставак, і тых калектыўных экспазіцый, у якіх яна ўдзельнічае з 1992 года. Вось толькі некаторыя адрасы замежных сустрэч з творчасцю мастачкі: "Trend-Gallery" ў Германіі, універсітэцкая галерэя ў штаце Пенсільванія (ЗША), выставачныя павільёны і галерэі чатырох гарадоў Італіі, Вільнюская бібліятэка імя А. Міцкевіча (Літва), галерэя "Пітэр Брэйгель" (Нідэрланды), выніковая экспазіцыя на міжнародным пленэры ў Польшчы, міжнародны паказ "Цэнтральны дом мастака" ў Расіі, арт-галерэя Анкары (Турцыя). Можна было б назваць і залы Мінска, Віцебска, Светлагорска, дзе неаднойчы панавала дзівоснае святло карцін Марыі Ісаёнак. І пералічыць публічныя мастацкія калекцыі ды прыватныя зборы, айчынныя і замежныя, у якіх захоўваюцца яе палотны, але...

Але салідны пералік проста пацвярджае факт шырокага прызнання, ніяк не характарызуючы аўтарскую індывідуальнасць творцы. А Марыя Ісаёнак, якая выйшла ў вялікі свет з маляўнічай вёсачкі на Віцебшчыне, уражвае менавіта сваёй індывідуальнасцю, што раскрываецца і спраўджвае сябе праз магутны прафесійны досвед. Яе жывапіс прыраўноўваюць да "цуду, сатканага з паветра і святла". Яе вызначаюць як "першага беларускага імпрэсіяніста". Калі Марыя разам са сваім не менш вядомым (і вельмі блізкім ёй па духу, па ўспрыманні наваколля, па поглядах на творчасць) мужам-жывапісцам, Міколам Ісаёнкам, вандравала па Італіі, тамтэйшыя знаўцы мастацтва назвалі яе "каралевай нацюрморта".

Зрэшты, ля карцін Марыі Ісаёнак пачынаеш адчуваць умоўнасць і прыблізнасць самых, здавалася б, яркіх і трапных характарыстык ды ўстойлівых жанравых вызначэнняў. Назва цяперашняй экспазіцыі "Кветкавыя імпрэсіі" мне падаецца надзвычай удалай: яна зусім арганічна спалучаецца з тым святам багіні Флоры, якое і захапляе гледача, і міжволі ўлучае ў сваю атмасферу. І я, глядач, усё больш адчуваю да смешнага неправадольную ўнутраную нязгоду — нежаданне называць нацюрмортам гэтую жыццярадасную феерыю кветак, адцененую амаль няўлоўнай светлай ігрой летуценных настрояў і залацістых мрой у гарманічным суседстве з жыццядайнай, аптымістычна-сонечнай, грунтоўнай сакавітасцю спелых зямных пладоў...

Аднойчы мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская, вылучаючы нацюрморты, а сярод іх — кампазіцыі з кветкамі як значную частку багатай і шматпланавай творчасці выбітнай, існа беларускай мастачкі Марыі Ісаёнак, заўважыла: "Яе творы — нібы карабель цеплыні, прасветленага светаадчування ў прасторы "лядовага перыяду" жыцця чалавецтва".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

## Повязі

**Цяжка знайсці ў сусветнай літаратуры пісьменніка, уплыў на грамадскую думку якога быў бы больш значным, чым уплыў Антона Чэхава. Героі яго апавяданняў "Чалавек у футарале", "Хамелеон", "Дама з сабачкам", "Унтэр Прышыбееў", "Іоныч" і драматычных твораў "Чайка", "Тры сястры", "Вішнёвы сад", "Дзядзька Ваня" сталі не толькі літаратурна-тэатральнай з'явай, але ўвайшлі ў само жыццё. Чэхаўская "чайка" стала эмблемай МХАТа, які цяпер носіць імя драматурга.**



# Адарыць Чэхавым

Напярэдадні 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніка ў сталічным Доме дружбы прайшла літаратурная вечарына. Адкрыла яе дырэктар Дома дружбы Ніна Іванова, а правяла — старшыня таварыства "Беларусь — Расія", галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" паэтэса Раіса Баравікова.

Драматург Алена Папова зрабіла разгорнуты экскурс у жыццё і творчасць, адзначыла выключнасць асобы Чэхава, які "ўспрымаў жыццё, як працу", асаблівасць высокай інтэлігентнасці, якая прымушала "па кроплі выціскаць з сябе раба". Пра што сведчыць і паказальны факт біяграфіі: у 1902 годзе цар адмяніў выбранне Максіма Горкага ганаровым акадэмікам і Чэхаў разам з Караленкам у знак пратэсту адмовіліся ад сваіх званняў, якія былі ім прысуджаны ў 1900 годзе. "Я да Чэхава адношуся не толькі з вызначаным піетэтам, як да аўтара, але лічу яго самай уплывовай асобай у рускай літаратуры", — зазначыла Алена Папова, прыгадаўшы, што адначасова з Чэхавым у Расійскай імперыі працавала каля шасцісот драматургаў, п'есы якіх шырока ставіліся тэатрамі. Цяпер жа па запатрабаванасці тэатрамі Чэхава ставяць на другое месца пасля Шэкспіра.

Дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Наталля Чуева прачытала апавяданне Чэхава "Шуточка", а пісьменнік Анатоль Сульянаў падрыхтаваў невялікі даклад "А. П. Чэхаў і яго жанчыны", у якім пісьменнік паказаны не ў літаратурным, а звычайным чалавечым ракурсе.

Глыбокай душэўнай цеплынёй, далікатнасцю і любоўю да пісьменніка ўразіла выступленне настаўніцы рускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны Людмілы Кушнеравай, якая адзначыла, што сам Чэхаў не вельмі любіў юбілеі. "Мы, настаўнікі, па-асабліваму ўспрымаем Чэхава, — сказала Людміла Кушнерава, — для нас ён не проста любімы пісьменнік, мы павінны рабіць штосьці такое, каб апраменіць дзяцей Чэхавым. Адчуць на плячы лёгкую руку Чэхава — гэта, напэўна, галоўнае, што хоча настаўнік, заходзячы ў клас да сваіх вучняў: не проста быць добрым, а быць спачувальным, не проста любіць, а адчуваць чужы боль, як свой уласны".

Многія творы пісьменніка экранізаваны, увайшлі ў рэпертуары сусветных тэатраў. На беларускую мову асобныя творы пераклалі Кандрат Крапіва, Янка Брыль, Максім Лужанін, Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Іван Шамякін і многія іншыя.

На заканчэнне Людміла Гурко (старшыня Міжнароднага жаночага клуба і прадстаўніца дыпмісіі Расіі) праспявала некалькі рускіх рамансаў.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымку: дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Наталля Чуева.

Фота Кастуся Дробава

## 3-пад пяра

**У 2010 годзе** ў структуры Міністэрства культуры Беларусі працягнецца рэфармаванне. Пра гэта заявіў міністр Павел Латушка. Сёлета будзе праведзена аптымізацыя штатнага раскладу цэнтральнага апарату міністэрства, павышэнне кольккасці супрацоўнікаў, адказных непасрэдна за культуру і мастацтва. Плануецца аднавіць дзейнасць Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Міністэрстве культуры. Адна з галоўных задач міністэрства на 2010 год — аднаўленне дзейнасці Інстытута праблем культуры Беларусі, што павінен заняцца навукова-метадычным забеспячэннем сферы культуры, распрацоўкай стратэгіі яе развіцця. Сярод буйнейшых культурных мерапрыемстваў года Павел Латушка назваў 80-годдзе Уладзіміра Караткевіча, 600-годдзе Грунвальдскай бітвы, а таксама праект "Культурная сталіца Беларусі".

Сяргей МАКАРЭВІЧ

**Пасольства Францыі** разыграе два білеты на канцэрт Патрысіі Каас у рамках XVII Міжнароднай мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Французская спявачка выступіць з адзіным канцэртам у беларускай сталіцы 13 лютага. Для ўдзелу ў розыгрышы трэба набыць любую кніжку на стэндзе ганаровага госця выстаўкі-кірмашу Францыі. Вынікі будуць падведзены ў дзень канцэрта а 12 гадзіне.

Ул. інф.

**Кніжна-ілюстрацыйная** выстаўка "Вялікі талент, вялікая работа, вялікае сэрца" адкрылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У экспазіцыі прадстаўлены шматлікія матэрыялы з розных калекцый бібліятэкі пра ўсіх лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за 2009 год, якія сваёй плённай працай славяць родную краіну. Гэта кнігі, плакаты, фота, перыядычныя выданні. У межах мерапрыемства адбылася літаратурна-творчая сустрэча з лаўрэатамі. Гасцям прадэманстравалі фрагменты дакументальнага серыяла "Зямля беларуская", мастацкія работы юных талентаў — вучняў Горацкай дзіцячай школы мастацкіх рамёстваў. Сваімі выступленнямі парадавалі прысутных фальклорны калектыў Цэнтра культуры і народнай творчасці вёскі Вулька-1 Лунінецкага раёна, навучэнцы кафедры баяна і акардэона Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Раіса МАРЧУК

**Газета "Звязда"** падвяла вынікі конкурсу апавяданняў за 2009 год. Многія яго ўдзельнікі ўжо атрымалі вельмі важную ўзнагароду — публікацыю на старонках выдання. З больш як 50 твораў, дасланых у рэдакцыю цягам года, у газеце было змешчана 21 апавяданне. Але прызавых месцаў вядучы конкурсу пісьменнік Віктар Казько вызначыў чатыры: першую грашовую прэмію ад "Звязды" атрымаў сталы празаік Віктар Супрунчук, другую — малады аўтар, пісьменнік і перакладчык Віталь Воранаў, які прыехаў за ўзнагародай з Чэхіі. Трэцяй прэміяй былі адзначаныя апавяданні двух аўтараў — студэнткі Валерыі Саротнік і прафесара Барыса Стральцова, які, на жаль, летась пайшоў з жыцця. Ганаровы дыплом быў уручаны Васілю Шабалтасу. Адначасова з падвядзеннем вынікаў, рэдакцыя абвясціла пра новы конкурс апавяданняў — на 2010 год.

Саша ДОРСКАЯ

# Мінск — Парыж: на шляху да збліжэння



**На пытанні карэспандэнта "ЛіМа" адказвае дарадца Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Беларусі па пытаннях культуры і супрацоўніцтва Людовік РУАЙЕ.**

— Спадар Людовік, Францыя — ганаровы госць на XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Якая літаратура будзе прадстаўляць кніжны рынак вашай краіны?

– Галоўным чынам гэта будзе сучасная літаратура для ўсіх узростаў, ад 7 да 77, як кажуць у нас, у Францыі. Класічная літаратура добра вядома ў Беларусі ў перакладах. Кожны беларус прачытаў хаця б адну кнігу французскага аўтара. Напрыклад, знакамітых "Трох мушкецёраў" Аляксандра Дзюма ці выдатныя творы Віктора Гюго. І вас немагчыма ўжо здзівіць класікай. Таму мы прадставім сучасных аўтараў. Ведаеце, аддзел культуры і супрацоўніцтва Пасольства Францыі — гэта маладая і дынамічная каманда. І мы ўпэўнены, што неабходна рухацца наперад ды ісці ў нагу са сваім часам. Вядома ж, гаворка не ідзе пра тое, каб забываць мінулае, аднак трэба ўвесь час абнаўляцца і ўдасканальвацца.

— Ці чакаюцца падчас кірмашу прэзэнтацыі з удзелам французскіх аўтараў?

— Так, мы запрасілі некалькіх французскіх пісьменнікаў. Некаторыя з іх ужо наведвалі Мінск. Гэта Ан-Мары Поль, якая прымала ўдзел у "Свяце чытання-2008" (дарэчы, сёлета яна падрыхтавала сюрпрыз для вучняў адзінаццатых класаў двухмоўных франкафонных секцый). Давід Фанкінос таксама прыязджаў у беларускую сталіцу для ўдзелу ў "Свяце чытання", але толькі ў 2006 годзе. Яшчэ чакаюцца Катрын Міле, якая піша галоўным чынам пра сучаснае мастацтва і аўтабіяграфічныя творы, гісторык Цьеры Ленц, дырэктар "Фонду Напалеона" і аўтар шматлікіх твораў, прысвечаных гэтаму перыяду французскай гісторыі. Акрамя літаратараў мы запрасілі ілюстратара Пьера Карнюэля, які прадставіць некалькі сваіх прац на нашым стэндзе. І паколькі кніжная выстава звязана не толькі з пісьменнікамі і іх творамі, але і з выдаўцамі, то ў беларусаў будзе магчымасць пазнаёміцца з Эрыкам Вінем, кіраўніком аддзела "Эсэ" ў выдавецкім доме "Галімар". Будзе прысутнічаць таксама Жан-Поль Кале, дырэктар вельмі прыгожай кнігарні Парыжа, які распавядзе пра свет кніг і пра кнігарні ў Францыі і за яе межамі.

— Што ўвогуле ўяўляе сёння сучасная французская літаратура?

— Сучасная французская літаратура вылучаецца сваім зваротам да чалавечых адносін і пачуццяў, да таго, што людзі адчуваюць адзін да аднаго ў такім няпростым свеце. Самыя папулярныя французскія пісьменнікі-сучаснікі – гэта, як правіла, аўтары, што апісваюць чалавечыя пачуцці і адносіны ва ўсёй іх складанасці. Гавальда, Бегбедэр, Натомб, Леві, — спіс пісьменнікаў тут можна доўжыць. Напрыклад, запрошаныя намі аўтары падымаюць і іншыя праблемы, маральныя і грамадскія.

— А якім жанрам французскі чытач аддае перавагу?

— Ён найчасцей аддае перавагу таму, што мы грэбліва называем "вакзальным чтывом", бо гаворка ідзе пра кнігі, якія часта прадаюцца на вакзалах і ў аэрапортах. Сёння ў месцах, дзе збіраецца вялікая колькасць людзей, месцах, прызначаных для працяглага чакання, можна знайсці кнігі розных літаратурных стыляў і жанраў. Калі б гэта літаратура была нізкаякаснай, то яна не значылася б у спісах, адзначаных самымі прэстыжнымі прэміямі, а мы знаходзілі б забытыя кнігі ў цягніках ці, яшчэ горш, у сметніцах. Але такога няма, а значыць літаратура застаецца важным атрыбутам адпачынку і спробай уцячы ад жыццёвай мітусні. Я лічу, французам пашанцавала ў тым, што яны маюць доступ да шырокага спектру літаратуры, нягледзячы на тое, што чытаюць яны менш, чым беларусы.

Поспехам карыстаюцца кнігі, звязаныя з гісторыяй і даследаваннямі. Дарэчы, гэта мой любімы жанр, аднак мне неверагодна складана чытаць падобную літаратуру без пазнак, а рабіць пазнакі — не лепшы спосаб расслабіцца.

— Ці ўдзельнічае Пасольства Францыі ў якіх-небудзь кніжных праектах сумесна з беларускім бокам?

— Правядзенне XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу і ёсць лепшым таму пацвярджэннем. Пачынаючы з сярэдзіны 1990 гадоў мы абвясцілі праграму дапамогі публікацыям "Максім Багдановіч", накіраваную на падтрымку выдання французскай літаратуры ў перакладзе на рускую і беларускую мовы. На сёння ўжо больш за 60 выданняў пабачылі свет у межах гэтай праграмы. Такі вынік быў бы немагчымы без адносін даверу, якія ўсталяваліся паміж Пасольствам Францыі і шматлікімі беларускімі выдавецтвамі. Дарэчы, большасць гэтых твораў будзе прадстаўлена на нашым стэндзе, а таксама на стэндах беларускіх выдавецтваў.

— А ўвогуле праграма супрацоўніцтва ў галіне культуры паміж нашымі краінамі ёсць?

— Канкрэтнай праграмы супрацоўніцтва паміж Францыяй і Беларуссю няма, аднак гэта не замінае нам плённа працаваць. 20 студзеня ў Парыжы прадстаўнікі нашых краін падпісалі дамову аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, адукацыі, навукі і тэхнікі, сродкаў масавай інфармацыі. Я расцэньваю гэты факт як вялікі крок на шляху збліжэння ў супрацоўніцтве паміж Парыжам і Мінскам. Ад усяго сэрца спадзяюся, што гэты этап стане толькі пачаткам вялікага сумеснага шляху. І мы здолеем увасобіць гэтую дамову ў жыццё, памнажаючы кантакты паміж нашымі краінамі.

Гутарыў
Сяргей МАКАРЭВІЧ

На здымку: Людовік Руайе.

# Кніжнаму рынку патрэбна ўсё!..




**Вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Макбел" вядома найперш па спецыялізаваным кніжным кірмашы "Мир книг". У Мінску, на Янкі Купалы, 27, ён працуе з 2000 года. Дзесяць год ужо ў пошуках неабходнай літаратуры сюды завітваюць і мінчане, якія без кніжнага кірмашу горада не ўяўляюць, і госці сталіцы. Такога асартыменту, як тут, бадай, не сустрэнеш больш нідзе.**

**Само аптова-рознічнае і кнігагандлёвае прадпрыемства "Макбел" арганізавана ў снежні 1991 года. А з 1994 года яно з'яўляецца арганізатарам Мінскіх міжнародных кніжных выставак-кірмашоў, якія традыцыйна праходзяць на пачатку года. Генеральны дырэктар ПК ААТ "Макбел", выканаўчы дырэктар Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу Дзмітрый МАКАРАЎ распавядае:**

— У нас, у выставачнікаў, значнасць мерапрыемства вымяраецца колькасцю дзяржаў-удзельніц, колькасцю экспанентаў, прэзентацый кніг, прысутнасцю вядомых пісьменнікаў. Год таму мы перажывалі: крызіс узмацняецца, што будзе далей? Але менавіта папярэдняя выстаўка была рэкордная. Хаця парадокс у тым, што ўсе наступныя міжнародныя кніжныя выстаўкі-кірмашы года, якія праходзілі пасля нашай, па колькасці экспанентаў і наведвальнікаў мінусавалі. Трэба прызнаць, што 2009 год у міжнародным кніжным выставачным руху быў не такі насычаны, як 2008-ы.

У сувязі з гэтым і ў нас былі сумненні на 2010 год. Але, напэўна, і сёлета мы ідзём на чарговы рэкорд. Чакаецца ўдзел не менш як 25 дзяржаў і больш як 600 экспанентаў. Экспазіцыйная плошча павялічваецца нязначна, працэнтаў на пяць. Але мы абмежаваныя памерамі павільёна, кожны метр квадратны якога будзе запоўнены. Вялікія экспазіцыі ў ганаровага госця, Францыі — 204 кв. метры. Вялікая плошча аддадзена Германіі — плануецца, што гэтая краіна ў 2011 годзе будзе нашым ганаровым госцем. Першы раз на выстаўцы — вялікі стэнд Ірана. Традыцыйна вялікія стэнды Азербайджана, ЗША, Кітая, Кубы, Польшчы. Сёлета першы раз удзельнічае ў кірмашы Туркменія.

— Якія ўсё ж прычыны таго, што нават ва ўмовах крызісу колькасць экспанентаў і краін-удзельніц на Мінскіх кірмашах павялічваецца?

— Праца, штодзённая праца. Заканчваецца папярэдняя выстаўка — мы адразу ж пачынаем рыхтавацца да наступнай. Вопыт і міжнародныя кантакты, удзел у замежных кніжных кірмашах таму спрыяюць таксама. Між іншым, Мінскі міжнародны кірмаш неаднаразова станавіўся пераможцам рэйтынгаў і апытанняў часопіса "Книжный рынок" як лепшы кніжны кірмаш у СНД.

— Дзмітрый Генадзьевіч, Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш распачынала сваю дзейнасць, калі праводзіліся вядомыя ўжо буйныя кніжныя форумы: Франкфурцкі, Варшаўскі. Пачынаць свой — значыла ісці на пэўную рызыку. На што разлічвалі арганізатары? І ці апраўдалася рызыка?

— Кожная дзяржава мае свае традыцыі кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання. У Беларусі яны заўсёды былі досыць багатыя з гістарычных часоў. Аднак з развалам СССР разваліліся і эканамічныя кантакты ў кнігараспаўсюджванні. З пачатку 90-х гадоў пачалі арганізоўвацца камерцыйныя кніжныя кірмашы на тэрыторыі былога СССР. Не маглі застаца ўбаку ад гэтага гістарычнага працэсу і мы. У 1994-м ВК ТАА "Макбел" выступіла ініцыятарам і арганізатарам І Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, і справа пайшла… Цяпер нашы кірмашы досыць вядомыя ў свеце. А што да рызыкі, то яна, бясспрэчна, была. З тых, хто пачынаў разам з намі (прыкладам, кніжныя кірмашы ў рэгіёнах Расіі), не выжыў ніхто. Рынак усё расставіў па сваіх месцах.

— Гэта агульнасусветная тэндэнцыя — кніжныя кірмашы губляюць не толькі сваіх экспанентаў, але і наведвальнікаў. Дастаткова згадаць той жа Варшаўскі кніжны кірмаш, на ўваход у які, асабліва пры адкрыцці, існавалі вялікія чэргі. Цяпер і яны паменшыліся. У нас жа колькасць наведвальнікаў павялічваецца. Мы не страцілі цікавасць да кніг? Альбо бясплатны ўваход на выстаўку таму прычынай?

— Прычын шмат. Па-першае, Янкі Купалы, 27, — гэта своеасаблівая кніжная "мека" Рэспублікі Беларусь. Нагадаю, з 2000 года тут працуе кніжная выстаўка-кірмаш "Мир книг", і ўсе кнігалюбы добра ведаюць гэты адрас. Плюс мы праводзім магутную рэкламную кампанію. За гады дзейнасці ВК ТАА «Макбел» назапасіла вялікі вопыт у працы з наведвальнікамі. А бясплатны ўваход, бясспрэчна, адна з прычын, толькі не галоўная. Галоўнае — зацікавіць кнігалюба.

— Якую кнігу цяпер купляе беларускі чытач? Што ўплывае на яго выбар?

— Кніжнаму рынку патрэбна ўсё. Купляюць, на вялікі жаль, літаральна ўсё. Але пакупніцкая здольнасць насельніцтва змяншаецца.

Вось, беларускія выдаўцы павялічылі выпуск кніг. Але што датычыць купілі-продажу, то пакупнік тут галасуе рублём. У часы крызісу кніга трапляе пад удар у першую чаргу. Калі правадзіць сацыялагічныя апытанні, кнігі змяшчаюць у тым жа раздзеле, дзе і паходы ў кіно, тэатр, там жа і чытанне газет, часопісаў. На жаль, у працэнтах з сямейнага бюджэту мы выдаткоўваем вельмі мала на набыццё літаратуры. Шмат забірае на сябе і Інтэрнэт.

— У якім стане сёння знаходзіцца кніжны бізнес краіны? У чым яго моцныя і слабыя бакі?

— Кніжны рынак Беларусі на фоне іншых дзяржаў годна перажывае крызіс. Падзенне назіраецца, але не крытычнае. Больш за ўсё перашкаджаюць праблемы заканадаўства ў адносінах Расіі і Беларусі. З 1 студзеня 2005 года з-за праблемы падатку на дабаўленую вартасць мы практычна згубілі экспартны патэнцыял расійскага рынку. Таму з надзеяй чакаем паляпшэння ў заканадаўчай базе.

— Хто нашы асноўныя дзелавыя партнёры ў кніжным бізнесе?

— Пералічваць усіх не хопіць старонак газеты. За гады працы з 1991 года іх назбіралася багата, маюцца партнёры, з якімі мы працуем з першага дня існавання ВК ТАА "Макбел".

— А што прэзентуе на выстаўцы выдавецтва "Макбел"?

— Як выдавецтва ВК ТАА "Макбел" выдала больш як 100 найменняў кніг для дзяцей, а таксама з'яўляецца эксклюзіўным выдаўцом амерыканскага пісьменніка Аляксандра Калецкага (раманы "Метро", "Темнота света", "Воровка любви", зборнік вершаў "Падший ангел"). З 2000 года мы выдаём сумесна з Пасольствам Францыі ў Рэспубліцы Беларусь у межах праграмы "Максім Багдановіч" серыю кніг "Бібліятэка французскай літаратуры". Усяго выйшла ў свет 21 кніга лепшых французскіх аўтараў на рускай мове. Сярод іх — "Закат семьи Брабанов" Патрыка Бессона, "Сага" Таніна Бенаквіста, "Плоды страсти" Даніэля Пенака, "Грустные клоуны" Рамэна Гары, "Полет почтового голубя" Крысціяна Гарсена, "Проблема с Джейн" Катрын Кюсэ, "Сёстры" Суфана Дэні ды іншыя. З 2006 года выдаецца серыя кніг "Надо прочитать", лепшыя творы беларускіх аўтараў. У рамках выстаўкі будуць прадстаўлены некалькі навінак. Да прыкладу, 10 лютага ў 13 гадзін адбудзецца прэзентацыя унікальнага даведачнага выдання "Русские в Беларуси" на стэндзе выдавецтва "Макбел".

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава



# Магія малюнка



Усе чытачы, асабліва дзеці, любяць, каб кніжка была прыгожая, у прывабнай вокладцы, з яркімі цікавымі малюнкамі. Ды не проста малюнкамі, а трапнымі дапаўненнямі да тэксту, у якіх адлюстроўваюцца дух, падтэкст, сюжэт. На рэспубліканскай выстаўцы "Мастак і кніга-2009" у мінскім Палацы мастацтва суседнічалі работы прадстаўнікоў розных генерацый нашых графікаў. Творцы-профі не проста захапляюцца пошукамі го-



жых ліній і колеравых спалучэнняў, а імкнуцца абагульніць у кніжным малюнку адмысловы вобразны свет, не парушаючы мяжу, што аддзяляе сапраўдную ілюстрацыю ад звычайнага станковага твора. І маляўнічы выставачны аркуш абуджае фантазію, радуе вока не менш за яркія старонкі кніг...

С. Б.

На здымках: ілюстрацыі К. Блохіна ("Запіскі звар'яцелага" М. Гогаля), В. Валынца ("Казкі Братоў Грым"), У. Даўгялы (кніга "Магічнае правіла").

Фота Віктара Кавалёва

## Алег Праляскоўскі:

# «Кніга павінна быць запатрабаванай...»

**Напярэдадні XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу газета "Літаратура і мастацтва" звярнулася да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алега Праляскоўскага з просьбай адказаць на шэраг пытанняў, звязаных найперш з развіццём айчыннай галіны кнігавыдання.**

— Алег Вітольдавіч, якім бы складаным з пункта гледжання эканамічнага не падаваўся мінулы год, кнігавыданне ў Беларусі не стаіць на месцы, развіваецца, адказвае на запатрабаванні грамадства… Калі гаварыць пра лічбавыя характарыстыкі, то як бы вы падсумавалі мінулы, 2009, год?

— Статыстыка — свайго роду люстэрка многіх памкненняў па рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання. Таму і назаву спярша лічбы. Летась выдадзена 12 885 назваў кніг і брашур. Агульны тыраж — 52,8 млн. экз. У дадатак да статыстыкі хацеў бы заўважыць наступнае. Лічбы не самамэта, важна ведаць рэакцыю чытача, спажыўца на дзейнасць выдаўца, адапаведна — і пісьменніка. У агульным і шматаблічным, багатым на розныя праявы кнігавыдавецкім працэсе, мы ўсё ж павінны болей займацца аналізам і даследаваннем грамадскай думкі, быць дзеяздольнымі ў рэагаванні на павевы часу і адукацыйны ўзровень сучасніка. І разам з тым, рэчаіснасць у гэтым пераконвае, імкнуцца павесці сучасніка наперад, да новых інфармацыйных прастораў. Кніга — гэта ўсё ж такі новыя веды. І варта пра гэта помніць. Іначай уся работа і немалыя сродкі, у тым ліку бюджэтныя, — гэта марнатраўства.

— Калі паспрабаваць зазірнуць да вытокаў Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая ўпершыню прайшла ў 1994 годзе, то згадваецца, што тады да нас прыехалі госці ўсяго з 8 краін СНД і Балтыі…

— Сёлета краін-гасцей — 25. Таксама лічба — з катэгорыі ўражлівых. Ды і яна не самамэта. Міністэрства, кіраўнікі і спецыялісты кнігавыдавецкіх прадпрыемстваў Беларусі ў сваю чаргу прымаюць удзел у многіх выставах у розных краінах свету. Мы пераймаем вопыт, наладжваем стасункі, якіх сёння беларускаму кнігавыданню не хапае. Так, у нечым мы знаходзімся ў болей выгадных умовах, чым краіны па супольным доме СНД. Але ж раўняцца заўжды варта на лепшае, на тыя вышыні, якія дасягнуць няхай сабе і не проста, але патрэбна. Таму колькасць краін-гасцей выстаўкі-кірмашу павінна быць і паказчыкам пагадненняў у галіне знешнеэканамічнай дзейнасці, у прыцягненні заказаў для паліграфічнага комплексу Беларусі.

Мы вельмі рэдка згадваем пра факты продажу правоў на нашы кнігі. А быў жа такі вопыт, калі ў Мінску друкавалі кнігі беларускіх аўтараў, народныя казкі на самых розных мовах свету. Колішняя "Міжнародная кніга" выпраўляла прадукцыю мінскіх кніжных выдавецтваў за тысячы і тысячы кіламетраў, зарабляючы на гэтым валюту.

— Безумоўна, кніжныя выдавецтвы краіны па традыцыі прадстаўляць і сёлета на выстаўцы свае навінкі. На што вы асабіста параілі б звярнуць увагу?

— Па сваёй пасадзе я зацікаўлены ў развіцці літаральна ўсіх выдавецтваў. Яны добра вядомыя айчыннаму пакупніку, айчынным бібліятэкарам. Не буду наўмысна некага і чыюсьці прадукцыю вылучаць. Для прафесійных ацэнак існуюць адпаведныя конкурсы. У 2009 годзе многія з кніг дзяржаўных беларускіх выдавецтваў уразілі, захапілі і, як вынік, атрымалі высокія ўзнагароды на Міжнародным конкурсе краін СНД "Мастацтва кнігі". За гэта нельга не выказаць падзяку аўтарам, мастакам, выдавецкім работнікам, паліграфістам. Былі ў мінулым годзе і кнігі-падзеі, да стварэння якіх выдавецтвы падштурхнулі важкія даты ў гісторыі краіны — 65 гадоў з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 600-годдзе ўстанялявання запаведнага рэжыму ў Белавежскай пушчы. Па традыцыі выдаўцы рыхтуюць свае падарункі да свята "Дажынак" і Дня беларускага пісьменства.



Варта помніць, што святочныя і юбілейныя падзеі — усё ж не аснова для паўсядзённай работы. І ў галіне кнігавыдання — таксама. Таму праекты і спалучаюцца з шматпланавай і, магчыма, традыцыйнай работай. Яна вельмі напружаная і ў галіне адукацыйнай, вучэбнай літаратуры. Мне асабіста здаецца, што прыярытэты — за навуковай кнігай, даведнікамі, слоўнікамі, за выданнямі, што ўплываюць на развіццё і выхаванне зусім юнага чытача, за тэхналагічнымі навінкамі, якія спалучаюць друкаваную і электронную версіі выкладання пэўнага аб'ёму ведаў. Такая літаратура, пагадзіцеся, запатрабаваная рознымі сацыяльнымі групамі чытачоў.

— Алег Вітольдавіч, а якімі найболей важкімі кнігамі парадуюць кнігавыдаўцы чытача ў 2010 годзе?

— Спадзяюся, што паказчыкі па лічбах, тыражах будуць і сёлета не меншыя, чым у мінулым годзе. Ведаю, што працягнецца работа над выданнем збораў твораў народных паэтаў Беларусі Якуба Коласа і Максіма Танка. Шэраг выдавецтваў у сувязі з 80-годдзем Уладзіміра Караткевіча перавыдасць найбольш вядомыя яго творы. "Мастацкая літаратура" па традыцыі будзе працаваць над засваеннем сучаснай арыгінальнай літаратуры. Пагаджаючыся з тым, што сам працэс кнігавыдання — работа спланаваная, у нечым станоўча-кансерватыўная, як кіраўнік і як чытач чакаю ад выдавецтваў больш хуткага рэагавання на зацікаўленні чытацкай аўдыторыі.

Часам складваецца ўражанне, што прадукцыя беларускіх кнігавыдаўцоў займае вельмі неістотнае месца ў маштабах продажу айчыннага кнігагандлю. Наіўна параўноўваць кніжныя рынкі і выдавецкі патэнцыял Расіі і Беларусі ці тым болей Беларусі і ўсяго свету. І ўсё ж нельга аддаваць ініцыятыву, не дбаць пра засваенне самай шырокай чытацкай прасторы. Але гэта працэс няпросты, звязаны з цэлым шэрагам як вытворчых, так і заканадаўчых ініцыятыў. Мяркую, што беларускія кніжнікі ў стане іх вылучыць і рэалізаваць, уважліва пры гэтым рэагуючы не толькі на рыначныя падыходы, але і зважаючы на дзяржаўныя патрабаванні ў выхаванні гарманічнай і развітай асобы чытача.

— Дзякуй, Алег Вітольдавіч, за размову напярэдадні адкрыцця выставы-кірмашу. Будзем спадзявацца, што ўжо і ў гэтыя лютаўскія дні многія кніжныя праекты будуць абазначаны…

— І абавязкова — рэалізаваны.

Гутарыў Сяргей ПАЎЛАЎ



# Бліжэй да Францыі

## можна апынуцца, наведаўшы… бібліятэку

**Супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Францыяй паглыбляецца з кожным годам. Наладжваюцца і ўмацоўваюцца дзелавыя і творчыя кантакты ў сферы культуры, літаратуры, мастацтва, сродкаў масавай інфармацыі. Значны ўклад у гэтую справу ўносіць франка-беларуская зала інфармацыі, якая з'яўляецца часткай грунтоўнай працы аддзела супрацоўніцтва і культуры Пасольства Францыі ў Беларусі і працуе пры Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна.**

Як паведаміла карэспандэнту "ЛіМа" загадчыца аддзела замежнай літаратуры Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна Наталля Баброва, ідэя стварэння гэтай залы належыць дарадцу па культуры і супрацоўніцтве Пасольства Францыі ў Беларусі Франсуа Лараню. Каб бліжэй пазнаёміць Беларусь з творчым жыццём краіны, з яе велізарнай культурнай і гістарычнай спадчынай, у 1995 годзе ў Мінскай абласной бібліятэцы паступова пачала ствараца зала інфармацыі пра сучасную Францыю. Спачатку існаваў звычайны кіёск, дзе была прадстаўлена галоўная прэса краіны (каля 35 найменняў).

З часам пачалі закупляцца кнігі, з'яўляліся мастацкія творы сучасных французскіх пісьменнікаў, класічная літаратура. У 1996 годзе паміж аддзелам супрацоўніцтва і культуры Пасольства Францыі і Мінскай абласной бібліятэкай імя Пушкіна было падпісана афіцыйнае пагадненне аб супрацоўніцтве і стварэнні франка-беларускай залы інфармацыі пра сучасную Францыю.

Сёння франка-беларуская зала складаецца з медыятэкі, кіёска французскай прэсы і інфармацыйнага цэнтра. У апошнім прадстаўлена літаратура для дзяцей і дарослых, відэатэка, аўдыятэка, аддзел французскай мовы. У відэатэцы можна паглядзець мастацкія фільмы французскіх рэжысёраў і дакументальныя фільмы пра сучасную Францыю. Аўдыятэка прадстаўляе класічную і сучасную музыку французскіх кампазітараў і выканаўцаў, перадачы радыё, аўдыёверсіі розных літаратурных твораў.

Для чытацкага карыстання прадстаўлены 2 камп'ютэры з бясплатным выхадам у Інтэрнет, тры тэлевізары. Праглядзець французскія тэлеперадачы ў прамым эфіры можна дзякуючы спадарожнікаваму тэлебачанню.

Франка-беларуская зала адчынена для ўсіх жадаючых, а карыстанне ўсімі друкаванымі перыядычнымі выданнямі свабоднае і бясплатнае. Тут прадстаўлена больш як 10 000 кніг на французскай мове, шматлікія пераклады на рускую і беларускую мовы, значная колькасць мультымедыйных дакументаў, больш як 50 перыядычных выданняў сацыяльнага, палітычнага, эканамічнага, літаратурнага, культурнага і навуковага кірункаў. Кожны дзень залу наведваюць студэнты, школьнікі, педагогі і выкладчыкі, звычайныя зацікаўленыя культурай Францыі людзі.

Пачынаючы з 2002 года, у рамках франка-беларускага праекта "Рухомая бібліятэка" былі адчынены 8 французскіх куткоў інфармацыі ў аддзелах замежнай літаратуры беларускіх бібліятэк: у пяці абласных, Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы, Бабруйскай і Полацкай гарадскіх бібліятэках. Французскае пасольства прэзентавала гэтым бібліятэкам шмат французскай і перакладной літаратуры. Сёння гэтыя французскія куткі ўяўляюць сабой маленькія цэнтры інфармацыі аб сучаснай Францыі.

Пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Беларусі кожны год набываюцца новыя творы, папаўняецца медыятэка. Франка-беларуская зала інфармацыі шмат часу супрацоўнічала з Нацыянальнай бібліятэкай Францыі, з публічнай бібліятэкай цэнтра Жоржа Пампіду, муніцыпальнай бібліятэкай горада Ганган. Дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву, у бібліятэцы з'яўляюцца новыя выданні, прыязджаюць французскія спецыялісты, праводзяцца семінары, канферэнцыі, літаратурныя конкурсы сярод моладзі. У французскай зале інфармацыі ладзяцца літаратурныя вечарыны з удзелам сучасных французскіх пісьменнікаў. Нашу краіну ўжо наведвалі такія французскія літаратары як Давід Фаенкінос, Кім Лефеўр, Шан Са, Ан Мары Поль, Андрэй Макін, Жызэль Піно, Лэйла Себар.

Штогод праводзіцца акцыя — дні франкафоніі ў Мінску. Існуе спецыяльная праграма дапамогі публікацыі перакладаў "Максім Багдановіч". Яна арганізавана Міністэрствам замежных і еўрапейскіх спраў Францыі. Аказваецца дапамога беларускім выдаўцам у перакладзе і публікацыі твораў сучасных французскіх аўтараў у галіне літаратуры, філасофіі, культуры і мастацтва, навукі.

Амаль што кожны тыдзень у зале праводзяцца розныя літаратурныя мерапрыемствы. Напрыклад, кожную сераду ў першы і трэці тыдзень месяца запрашаюцца ўсе ахвотныя прымаць удзел у дыскусіях і дэбатах на французскай мове, удзел у якіх прымаюць выкладчыкі французскай мовы, што прыязджаюць з Францыі ў ВНУ Мінска. З 2005 года пры зале працуе франкафонны кінаклуб. Цудоўныя фільмы на французскай мове цікава паглядзець і малым, і даросым.

Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота аўтара

№ 5 5 лютага 2010 г. ЛіМ



Сёлета — 130-гадовы юбілей вялікага французскага пісьменніка Гіёма Апалінэра (сапр. Вільгельм Альбэр Уладзімір Аляксандр Апалінарый Кастравіцкі), продкі якога па мацярынскай лініі паходзілі з Беларусі, паводле найбольш распаўсюджанай версіі — з Навагрудчыны. У 1863 г. браты Кастравіцкія ўзялі ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні, пасля паражэння якога ўлады канфіскавалі іх маёмасць, а саміх выслалі. Толькі аднаму з братоў, Міхалу, удалося эмігрыраваць у Італію, на радзіму жонкі Джульеты Фларыяні. У Рыме ён уладкаваўся на службу ў гвардыю; магчыма, яму паспрыялі ў гэтым сваякі, былыя віленцы, якія ў свой час служылі ў напалеонаўскім войску, а пасля апынуліся на чужыне.

# «Смутак адной зоркі»

Гіём Апалінэр, унук Міхала Кастравіцкага, нарадзіўся 26 жніўня 1880 г. у Рыме. Хлопчык быў зарэгістраваны мэрыяй пад прозвішчам Дульчыні — як дзіця бацькоў, што не былі ўстаноўлены або не хацелі назвацца; толькі пазней ён атрымае сапраўднае прозвішча. У 1889 г. Анжаліка Кастравіцкая з дзецьмі (Гіём меў малодшага брата Альбэра) трапляе ў Францыю. Гіём вучыцца ў каледжах Манака і Каннаў, у ліцэі Ніццы, спрабуе пісаць і перакладаць з італьянскай. У 1899 г. сям'я пераязджае ў Парыж. Тут Гіём, апроч іншай працы, дзеля заробку піша шэраг раманаў на папулярныя тэмы. Нарэшце, ён прымае прапанову выкладаць французскую мову дачцэ графіні Мільгау і з гэтай мэтай накіроўваецца ў Германію. Асноўнай прычынай таго, што Апалінэр пагадзіўся стаць хатнім настаўнікам, было каханне да Анні Плейдэн, якая працавала ў доме Мільгау гувернанткай і з якой ён пазнаёміўся ў Парыжы.

У 1902 г. Апалінэр вяртаецца ў Парыж, працуе ў банку, у вольны час працягвае пісаць. Тады ж ён упершыню ставіць пад адным сваім апавяданнем подпіс “Гіём Апалінэр” (“Guillaume Apollinaire”), утвораны ад французскай формы імёнаў Вільгельм Апалінарый. З 1903 г. Апалінэр друкуецца вельмі актыўна. Ён знаёміцца з маладымі мастакамі і паэтамі, якія складалі своеасаблівае багемнае брацтва. Апалінэр для ўсіх быў надзвычай прыцягальнай асобай. Будучы славуты пісьменнік і кінематаграфіст Жан Кокто ўзгадваў дзіўнае ўражанне, якое заўсёды перажываў пры сустрэчы з Апалінэрам: нібы гэты чалавек валодаў здольнасцю чуць нячутнае для іншых, меў стасункі з загадкавымі светамі, адкуль атрымліваў таемныя пасланні. Сапраўды эрудыт, абаяльны і чулы, даверлівы і ранімы, Апалінэр вельмі любіў дасціпныя жарты; мог, напрыклад, на званы вечар з'явіцца з намаляваным на бялюткай сарочцы чорным матыльком замест сапраўднага гальштука. У яго быў адметны голас, іранічны і самотны адначасна. Элегантны, ветлівы, ён хутка сыходзіўся з людзьмі. Нягледзячы на моцны целасклад, ён у многіх пакідаў уражанне дзіцячай непасрэднасці. Нездарма Кокто пасля пахавання Апалінэра напіша: “Смерць павяла яго за руку, нібы дзіця”.

Вызначальную ролю ў станаўленні Апалінэра як мастака слова адыграў Парыж; яго паэт ведаў так, як рэдкі парыжанін ведаў свой родны горад. Між тым Апалінэр быў выхаваны ў павазе да радзімы продкаў і ніколі не забываўся на свае славянскія карані. Як каштоўныя рэліквіі захоўваліся ў сям'і нешматлікія рэчы, вывезеныя ў свой час з Дарашковічаў.

Некаторыя біёграфы славянскім паходжаннем тлумачаць абвостранае пачуццё гонару і заўсёдную маркоту паэта. “Смутак адной зоркі” — так ён сказаў пра сябе самога. З асаблівай прыязнасцю ён ставіўся да Марка Шагала – выхадца, як і маці паэта, з Беларусі. Жывапіс Шагала захапляў Апалінэра смелай вобразнасцю, тонкім лірызмам, непаўторнасцю фантастычнага, казачнай згодай мінуўшчыны і сучаснасці, памяці і ўяўлення.

Самая трагічная старонка ў нядоўгім жыцці Апалінэра — удзел у Першай сусветнай вайне. Паэт пайшоў на фронт добраахвотнікам: адыгралі ролю і рамантыка вайны, і жаданне даказаць адданасць Францыі, грамадзянства якой ён так доўга чакаў, і роспач ад непадзеленага кахання. У снежні 1914 г. ён быў залічаны ў артылерыйскі полк і пасля трох месяцаў казарменнай муштры апынуўся на перадавой. 17 сакавіка 1916 г. паэт быў цяжка паранены: асколак снарада прабіў шлем і ўвайшоў у галаву дакладна ў тым месцы, якое ў свой час абвёў кружочкам на “прароцкім” партрэце Апалінэра “Чалавек-мішэнь” яго мастак і сябар Джорджо дэ Кірыко. Па жорсткай іроніі лёсу, літаральна за тыдзень да ранення Апалінэру паведамілі, што яго прашэнне аб французскім грамадзянстве нарэшце задаволена.

Чым кроў паможа?
Мусіць, што нічым,
Адно што здзейсніць
даўнія намеры
Мець грамадзянства,
каб сысці затым
З французскім пашпартам
да Люцыфера… —

з горычу скажа Леанід Дранько-Майсюк у вершы “Гіём Апалінэр”.

Некалькі складаных аперацый па трэпанацыі чэрапа выратавалі паэта. Ён зноў у Парыжы, удзельнічае ў яго культурным жыцці. Здзейснілася і мара пра асабістае шчасце — 2 мая 1918 г. Апалінэр узяў шлюб з рыжавалосай прыгажуняй Жаклін Кольб. Сведкам з яго боку быў Пікасо. Між тым жыць паэту заставалася каля паўгода. Яго здароўе было настолькі падарвана, што не ўдалося адужаць грып (іспанку, як тады казалі). 9 лістапада 1918 г. Апалінэр памёр. У апошні раз лёс пасмяяўся з яго: пахаванне паэта, чыё жыццё забрала вайна, прыпала якраз на дзень падпісання міру.

Творчасць Апалінэра надзвычай разнастайная ў жанравых адносінах. Ён пісаў апавяданні і аповесці (кнігі “Згнілы чараўнік”, 1909; “Ерэсіярх і К”, 1910; “Забіты паэт”, 1916; “Жанчына ў крэсле”, апубл. 1920, і інш.), казкі, нататкі, рэцэнзіі, артыкулы, літаратурныя партрэты, мастацтвазнаўчыя працы. У 1917 г. у Парыжы паставілі яго п'есу “Грудзі Тырэсія”, у аўтарскай прадмове да якой упершыню прагучала слова “сюррэалізм”, што стане вызначэннем слыннага мастацкага кірунку.

І ўсё ж найважнейшае месца ў творчасці Апалінэра займае паэзія, у якой ён асабліва выразна рэалізаваў свае эстэтычныя адкрыцці, абумоўленыя прыродай яго таленту і самім часам — перыядам інтэнсіўных сацыяльна-палітычных і агульнакультурных змен і вельмі супярэчлівых тэндэнцый.

Апалінэра вабіла новая рэчаіснасць, прыцягвала “проза жыцця” вялікага горада, які акунаў чалавека ў бязмежную адзіноту і адначасова ўсяляў у яго адчуванне далучанасці да сусвету. Мастак не шукае экзотыкі, сцвярджае паэтычнасць самых звычайных, знаёмых рэчаў, пераконвае, што і падарожжа ў будні можа быць чароўна-захапляльным і поўным дзіўных адкрыццяў. Са спалучэння-збліжэння рэальных, звыклых прадметаў, з'яў, слоў стварае Апалінэр ашаламляльна-нечаканыя вобразы і метафары: “адвечны аэраплан сонца”, “мокры твар Рэйна”, “канат, сплецены з крыкаў”, “чалавек, пакрыты попелам далёкіх продкаў”, “статак пейзажаў”, “артэрыі чыгунак”, “скокі дамоў у нябёсах”, “крыкі полымя”, “людзі-машыны”, “рукі спяваючых вежаў”… Пры ўсёй незвычайнасці гэтыя вобразы зразумелыя нават тады, калі не прачытваюцца аднасэнсава. Той жа славуты вобраз “сонца з перарэзаным горлам” з паэмы “Зона” — гэта і прароцкі сімвал XX ст., у якім чалавецтва апынецца на мяжы існавання, і прадбачанне паэтам уласнага трагічнага лёсу: “Бывай, бывай, / Сонца з перарэзаным горлам!”

Апалінэр часта выкарыстоўвае назоўныя сказы і пералічальныя рады, нібы робіць своеасаблівую інвентарызацыю сучаснасці з усімі яе старымі



і новымі прыкметамі. У выніку напісанае пакідае ўражанне фрагментарнасці быцця, але і максімальнай аўтарскай аб'ектыўнасці. Жыццё малюецца паэтам ва ўсёй шматграннасці і настолькі пластычна, што яго хада адчуваецца амаль фізічна, быццам не лірычны герой, а ты сам то задуменна блукаеш па парыжскай вулцы, то імчышся што ёсць моцы — не па Парыжы нават, а па ўсім белым свеце, праз дзіўна падатлівую прастору, у якой раптоўна сышліся-зляцеліся Бог, чалавек, аэрапланы, Эйфелева вежа… Вялікая роля ў стварэнні такога эфекту надаецца сімультаннай тэхніцы і мантажу — прыёму, прынесенаму ў літаратуру XX ст. кінематографам. Вобразны рад манціруецца “з усяго, што ёсць”, — фактаў, думак, эмоцый, раптоўных здымкаў-уражанняў; з мазаікі ж складваецца цэласная панарама жыцця чалавека і чалавецтва. Паэзія набывае ўласцівасць своеасаблівага мастацкага агляду, летапісу эпохі.

Асаблівую ўвагу Апалінэр надае рытмічнай арганізацыі вершаў. Іх рытм “жывы”, часта нагадвае рытміку размоўную; радок, паводле трапнага выразу Віцэслава Нэзвала, “спружыніць”. Дамінуе свабодны верш, вольны ад строгай рыфмы, страфікі, памеру; адсюль адчуванне непасрэднасці перажывання. Рытм становіцца сэнсаўтваральнай рэакцыяй на змены ў рэчаіснасці, на страту гармоніі і парушэнне прапорцый. У працяг традыцый XIX ст. Апалінэр сінтэзуе слова, музыку, жывапіс, кіно, бо паэты мусяць “падрыхтаваць сябе да новага мастацтва (больш ёмістага ў параўнанні з чыста славесным), калі на чале нечуванага па маштабах аркестра яны атрымаюць у сваё ведама ўвесь свет, яго галасы і з'явы, думку і мову чалавечую, песню і танец, усе мастацтвы, усе сродкі… каб стварыць бачную і чутную кнігу будучыні”.

Між тым паэт памяркоўна ставіўся да спадчыны, лічачы сябе “не разбуральнікам, а толькі будаўніком”. Ён звяртаўся да вобразаў і матываў з фальклору розных народаў, да міфаў і сярэднявечных легенд, эстэтыкі рамантыкаў і сімвалістаў, але найперш сцвярджаў значэнне нацыянальнай традыцыі: “Нельга забываць, што для нацыі, можа, небяспечней паддацца духоўнаму заваяванню, чым заваяванню сілай зброі”.

Самыя значныя прыжыццёвыя кнігі паэзіі Апалінэра — “Бестыярый, або Картэж Арфея”, “Алкаголі”, “Каліграмы. Вершы міру і вайны”.

“Бестыярый”, зборнік анімалістычных чатырох- і пяцірадкоўяў, выйшаў у 1911 г. накладам у 120 асобнікаў, кожны з якіх меў пергаментную вокладку, быў пранумараваны і падпісаны аўтарам. Жанр бестыярыяў, казачных гісторый пра жывёл, быў вельмі пашыраны ў сярэднявечнай літаратуры і меў пераважна рэлігійна-дыдактычныя мэты: у апісаннях звяроў сімвалічна ўвасабляліся хрысціянскія пастулаты.

У красавіку 1913 г. накладам у 600 асобнікаў выйшла кніга Апалінэра “Алкаголі” з партрэтам аўтара работы Пікасо. Назва кнігі, паводле самога Апалінэра, месціла ў сабе думку пра палаючае, нібы спірт, XX стагоддзе, пра хмель існавання чалавека ў паяднанасці з сусветам. У працэсе падрыхтоўкі “Алкаголяў” да выдання паэт адмовіўся ад пунктуацыі. Яму давялося неаднойчы тлумачыць сэнс свайго эксперыменту, у прыватнасці тым, што “рытм і разбіўка вершаў паўзамі і ёсць сапраўдная пунктуацыя, ва ўсім астатнім ніякай неабходнасці няма”. Да таго ж самі словы нясуць у сабе не толькі сэнс, але і рытм, музыку і патрабуюць максімальнага вызвалення з-пад дыктату правілаў і норм. Больш за тое, чытач мае права на ўласнае разуменне зместу прачытанага, на ўласныя інтанацыі. Так давала аб сабе знаць адна з характэрных якасцяў багатай на навацыі авангардысцкай літаратуры: апошняя патрабуе ад чытача своеасаблівага сааўтарства, сатворчасці. Варта заўважыць, што ў шэрагу пасмяротных выданняў зборніка пунктуацыя ўзнаўлялася ў адпаведнасці з першымі — часопіснымі — публікацыямі асобных вершаў, якія затым увайшлі ў “Алкаголі”. Узнавіла яе і Эдзі Агняцвет, перакладчыца твораў Апалінэра на беларускую мову.

Апошняй прыжыццёвай кнігай Апалінэра стаў зборнік “Каліграмы” (1918), у кожнай з шасці частак якога знайшлі адлюстраванне падзеі з жыцця аўтара ад пярэдадня Першай сусветнай вайны да ранення і вяртання ў парыжскую рэчаіснасць. У гэтай, паводле аўтарскага вызначэння, “кнізе ваеннага часу” нямала вершаў пра каханне. Аднак захопленасць жыццём і жанчынай у ёй суправаджаюцца смуткам, паступова ўсё настойлівей гучаць развітальныя матывы, усё часцей рамантычныя настроі змяняюцца разважліва-мудрым поглядам на свет і чалавека.

Агульную назву зборніку даў змешчаны ў першым раздзеле цыкл вершаў-каліграм, або, інакш, лірычных ідэаграм. Каліграмы — гэта вершы-малюнкі, радкамі і словамі ў якіх утвараюцца абрысы пэўнага прадмета. Заснаваныя на спалучэнні слоўных вобразаў і іх графічных выяў, яны ў значнай ступені разлічаны на візуальнае ўспрыманне. Спробы паэтыка-графічных эксперыментаў вядомыя яшчэ ў антычнай літаратуры, пазней яны мелі месца ў творчасці Франсуа Рабле, Сімяона Полацкага (“фігурныя” вершы ў форме сэрца, крыжа, лабірынта) і інш.; у XX ст. гэтая традыцыя наогул вельмі пашырыцца, у тым ліку ў беларускай паэзіі.

Па сутнасці, Апалінэр вызначыў асноўныя літаратурныя тэндэнцыі ўсяго XX стагоддзя: апошняму ў пэўным сэнсе заставалася працягваць і развіваць распачатае паэтам абнаўленне жанраў і стыляў.

Асоба і творчасць Апалінэра добра вядомыя ў Беларусі. У 1973 г. выйшла кніга пераствораных па-беларуску Э. Агняцвет яго вершаў “Зямны акіян”. Яго вершы перакладалі таксама пісьменнікі наступных пакаленняў. Творчасць Апалінэра даследавалі Б. Міцкевіч, У. Івашка, К. Міхееў і інш. Артыкулы пра Апалінэра і яго дачыненні да беларускай зямлі змешчаны ў 5-томнай “Беларускай энцыклапедыі літаратуры і мастацтва”, у 18-томнай “Беларускай энцыклапедыі”.

Дастаткова выразна паўплываў Апалінэр на беларускую літаратуру. Яго эстэтычныя адкрыцці пазнаюцца ў творах А. Разанава, Л. Дранько-Майсюка і іншых паэтаў. Многія нашы паэты прысвяцілі яму вершы. Роздум пра абставіны жыцця Апалінэра, тэмы і матывы яго паэзіі скрозь прасякаюць эсэ Л. Дранько-Майсюка “Стомленасць Парыжам”.

Ева ЛЯВОНАВА

Кацярына Калодачкіна — вядомая перакладчыца французскай літаратуры. Дзякуючы ёй да рускамоўнага чытача дайшлі творы Эрвэ Базэна, Феліс'ена Марса, Крысціны дэ Рывуара, Франсуа Нурысье, Жэнеўевы Дорман і іншых класікаў. У РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў перакладзе Кацярыны Калодачкінай выходзіць раман Мішэля Дэона "Вышэйшае кола". У сувязі з гэтым наш карэспандэнт папрасіў яе адказаць на некаторыя пытанні.

# Раманіст шчасця




— Чаму вы сталі перакладаць французскую літаратуру і як даўно вы гэта робіце? Колькі перакладзеных раманаў на вашым рахунку?

— Французскую мову я пачала вывучаць з васьмі гадоў. Ужо ў школе я цвёрда ведала, што стану перакладчыкам, прычым менавіта мастацкай літаратуры. Пасля заканчэння перакладчыцкага факультэта Маскоўскага інстытута замежных моў імя М. Тарэза ў 1993 годзе ў мяне адбылася лёсавызначальная сустрэча з выдатным перакладчыкам і літаратуразнаўцам Юрыем Уваравым, які ў свой час адкрыў нашаму чытачу Жоржа Сіменона. На жаль, Юрый Пятровіч ужо пайшоў з жыцця. Ён тады каардынаваў выданнем поўнага збору твораў Дзюма-бацькі. Маёй "спробай пяра" стаў раман "Бадзянні і прыгоды аднаго акцёра", які раней не выдаваўся. Гэты твор стаўся адзіным узорам літаратуры XIX стагоддзя ў маёй "скарбонцы" перакладаў, паколькі з таго часу я перакладаю ў асноўным сучасных аўтараў. На гэта паўплывала іншая важная для мяне сустрэча — з яшчэ адным выбітным перакладчыкам, Валерыем Нікіціным. Яго выдавецтва "Палімпсест" супрацоўнічае з французскім міністэрствам культуры ў мэтах папулярызацыі сучаснай французскай літаратуры ў Расіі. Праз мае рукі прайшлі прыкладна два дзесяткі раманаў, а таксама творы іншых жанраў, у тым ліку і біяграфіі.

— Чаму вы зацікавіліся Мішэлем Дэонам і, у прыватнасці, яго раманам "Вышэйшае кола"?

— Мішэль Дэон, які летась адзначыў сваё дзевяностагоддзе, вядомы ў Францыі пісьменнік і драматург, якога амаль не ведаюць у нашай краіне. Ён член Французскай акадэміі, што само па сабе выклікае павагу, але галоўнае не гэта. Літаратурныя крытыкі называюць яго "раманістам шчасця", спеваком натуральнасці, а ў сучаснай літаратуры часам так бракуе светлых адценняў, мажорных нот.

У рамане "Вышэйшае кола" прысутнічаюць пэўныя аўтабіяграфічныя моманты: дзяцінства Дэона прайшло ў мяцовасці паміж 16-й акругай (самым прэстыжным раёнам Парыжа) і Блакітным берагам, гэта значыць, у тым самым "вышэйшым коле", як і ў галоўнага героя рамана. Ён вывучаў права, атрымліваў стыпендыю ад фонду Рокфелера і аб'ездзіў ЗША на цягніку і на аўтобусе. Такім чынам, гэты раман спалучае ў сабе погляд знутры і звонку, паколькі галоўны герой усё ж застаецца чужым, як у новым для сябе сацыяльным асяродку, так і геаграфічна — ў Амерыцы.

— Быў час, калі Мішэль Дэон уваходзіў у нефармальнае аб'яднанне так званых "гусараў" — насуперак камуністам і экзістэнцыялістам. Да якой літаратурнай школы Вы аднеслі б яго сёння? Ды і ці ёсць яны, гэтыя школы, цяпер у Францыі?

— Сам Дэон адмаўляў сваю прыналежнасць да "гусараў". Трэба сказаць, што гэты рух быў даволі разнастайным; тых, каго да яго залічвалі, аб'ядноўвала ўвага да стылю, імкненне зрабіць сваю мову простай і выразнай, а таксама нонканфармізм, нежаданне прытрымлівацца павеваў моды. Што тычыцца літаратурных школ, то Мішэль Дэон (ён чытае мноства опусаў, якія аўтары аддаюць на яго суд), лічыць, што французскі раман "ходзіць па коле", не ўмеючы выбіцца з каляіны экзістэнцыялізму і "новага рамана", хаця творы заснавальнікаў гэтых літаратурных плыняў цяпер ніхто не чытае. Раманаў, у іх класічным разуменні, дзе ёсць фабула, інтрыга, цяпер мала. З іншага боку, чытачы і тэлегледачы ў Францыі сёння аддаюць перавагу дакументалістыцы — біяграфіям, навукова-папулярнай літаратуры, таму што ім цікава тое, што сапраўды было. Мішэль Дэон укладвае ў свае раманы ўласнае жыццё, творча яго пераасэнсоўваючы. Ён шмат падарожнічаў, пабываў у Швейцарыі, Італіі, Канадзе, Партугаліі, Грэцыі, а ў апошні час стала жыве ў Ірландыі, што, паводле яговых слоў, прымушае яго яшчэ больш любіць Францыю. Дзеянне яго раманаў, як правіла, адбываецца ў розных краінах: гэта калейдаскоп ландшафтаў, падзей, гісторый. Практычна ва ўсіх яго творах выдуманы сюжэт засноўваецца на перажытым, таму яго кнігі носяць характар споведзі. Па прызнанні самога Дэона, прыкладам для яго служыць творчасць мастака-класіцыста Нікала Пусэна, які жыў у XVII стагоддзі: "там усё праўда і ўсё выдумка", як і ў шэдэўрах французскай класічнай драматургіі. Дарэчы, у Дэона надзвычай шырокі кругагляд: у сваёй апошняй кнізе "Лісты з замка" ён распавядае пра мастакоў і пісьменнікаў самых розных творчых почыркаў; паказвае сябе тонкім знаўцам музыкі.

— Наогул гісторыя небагатага маладога чалавека, які едзе ў Амерыку, каб там зрабіць кар'еру і зарабіць грошы, даволі часта трапляецца ў сусветнай літаратуры. Чаму Мішэль Дэон не пабаяўся пайсці па пракладзеных слядах і як яму ўдалося напісаць арыгінальны твор, які прыцягвае чытача з першых старонак і не адпускае да канца?

— Гісторыю Папялушкі таксама ведаюць усе, але гэты сюжэт яшчэ доўга застанецца запатрабаваным. Праблема ў тым, як паднесці гісторыю, што на першы погляд падаецца банальнай, як расставіць акцэнты. "Вышэйшае кола" — гэтае не чарговае ажыццяўленне "амерыканскай мары". Гэта аповед пра стэрэатыпы і ілюзіі. Маці галоўнага героя, якая марыць аб тым, каб яе сын "круціўся ў вышэйшым коле", на апошнія грошы шые яму добры гарнітур для вечарынкі, на якую яго запрасілі, а дзеці багатых бацькоў з'яўляюцца туды ў джынсах і "вадалазках". Па меркаванні амерыканскіх клеркаў, замежны студэнт усімі праўдамі і няпраўдамі паспрабуе ўчапіцца ў Нью-Йорку, каб там застацца, аднак француз Артур проста жадае атрымаць веды, каб прымяніць іх у сябе на радзіме. Банальная ісціна — "не ў грашах шчасце" — падносіцца аўтарам спакваля, без маралізатарства. І яшчэ адзін нечаканы ракурс: разлік у каханні. Не, не фінансавы. Я кахаю гэтую дзяўчыну, але ці змагу я пайсці на ўсё, каб яе ўтрымаць? І ці гатовы я заўсёды быць з ёй побач? Каханне-кактэйль з разважлівасці і жарсці… Што ж, у жыцці і такое бывае.

— Як Франсуа Нурысье, Жан Дзютур, Жан д'Армесон, Жэнеўева Дорман, так і Мішэль Дэон уваходзіць у лік класікаў, творы якіх Францыя «прасоўвае» за мяжу, выдаткоўваючы для гэтага значныя сродкі па лініі МЗС і Міністэрства культуры. Значыць, праблемы аўтарскіх правоў не існуе? Ці збіраецеся вы перакладаць іншыя рэчы Дэона?

— Эканамічныя праблемы для мяне занадта складаныя, таму вычарпальны адказ, баюся, я даць не змагу. Зразумела, выдавецтвы, якія абавязаны набываць правы на пераклад і публікацыю твораў, і французскія культурныя ведамствы толькі аказваюць дапамогу ў іх набыцці, а таксама ва ўсталяванні кантактаў паміж аўтарамі і выдавецтвамі, дапамагаюць і ў падборы твораў. Апошні момант таксама вельмі важны, паколькі, напрыклад, прысуджэнне таму або іншаму раману прэміі, хай нават прэстыжнай, зусім не азначае, што ён будзе карыстацца поспехам у чытачоў. Перакладзеныя мной раманы Паскаля Ленэ і Жэнеўевы Дорман першыдаваліся, а тыраж аб'ёмістага "Сілаама" Палі Гадэна разышоўся з вялікай цяжкасцю. Важна зразумець, ці гатовая наша публіка чытаць Дэона, і калі так, дык для мяне было б задавальненнем ізноў звярнуцца да яго. Пакуль жа даводзіцца, як гавораць французы, рабіць стаўку на "цвёрдыя каштоўнасці": я перакладаю кнігі з серыі "Паўсядзённае жыццё" для выдавецтва "Молодая гвардия". Жыццё чалавечае заўсёды цікавае, нават у дробязях.

Гутарыў
Юрый САПАЖКОЎ

# Гучнасць безлічы вясёлак



Кніга паэзіі "...W dłoniach czasu… Liryki podlaskie" ("...У далонях часу... Падляскія вершы"), напісаная ўраджэнкай Беларусі Гэленай Рамашэўскай (цяпер жыве ў Бялай Падлясцы, Польшча), створана наскрозь з любові. Не важна нават, якой тэматыцы прысвечаны той ці іншы верш — ці гэта інтымная лірыка, ці твор філасофскай або грамадзянскай лірыкі. Галоўнае, што крыніцаю іх стварэння стала любоў — як выбар, а не выключна пачуццё.

Кіруючыся той паэтычнаю моваю, на якой "перажывае" свой лёс лірычная гераіня Г. Рамашэўскай, духоўны свет зборніка можна ўмоўна апісаць як лучнасць безлічы мастоў-"вясёлак". На адным канцы кожнага з іх ёсць рэальнасць ва ўсёй яе празаічнай натуральнасці. На другім... таксама рэальнасць, але тая сапраўдная, якая адзіная вартая перажывання і існавання ў ёй. Гераіня заўсёды без ваганняў ступае на гэтую «вясёлку», імкнучыся на другі бераг, але нярэдка менавіта ў дарозе яе ахоплівае наймацнейшае сумненне, страх бездані пад сабою... Аж да вар'яцтва! "Jestem jak wrzeciono rozkręcone // we właściwą stronę // w przeciwną stronę // kto mną tak wiruje // nie wiem nie znam siebie // wiruję wiruję // przestań! — mowię sobie // nie kręć się tak // — bo zwariuję?" ("Я нібы верацяно раскручанае // ў патрэбным кірунку // ў супрацьлеглым кірунку // хто мною гэтак віруе // не ведаю не ведаю сябе // вірую вірую // перастань! — кажу сабе // не круціся так // — бо звар'яцею?" — тут і далей пераклад з польскай мовы — наш Г.С.), — піша Г. Рамашэўская ў вершы "Czytanie ze zrozumieniem?" ("Чытанне з разуменнем?").

З напружаным станам вагання лірычнай гераіні на «moście z tkczy» ("мосце з вясёлкі") мяжуе іншы, больш стабільны, хоць і больш пакутны стан — цярплівасці і цярпення. "W przyrodzie nic nie ginie..." ("У прыродзе нішто не гіне...") — здавалася б, гэта ўжо ні для кога з сучаснікаў не з'яўляецца адкрыццём. Але калі даўно адкрыты закон захавання энергіі перанесці з плоскасці дакладных навук у плоскасць... пачуцця, то ўзнікае пытанне: што тут з'яўляецца «захавальнікам»? Гераіня Г. Рамашэўскай упэўнена, што гэта цярплівасць, бо пачуццё, "czasem w łzę przemienione // czasem w pocisk skupione // zbite słowo // słowo oświecone // zanim miłością spłynie // nim stanie się ciałem // musi być cierpliwe" ("часам перайначанае ў слёзы // часам пераўтворанае ў поціск // збітае слова // слова асвячонае // перш чым стане любоўю // перш чым станецца целам // мусіць быць цярплівае"), як сказана ў вершы "Nim słowo stanie sik" ("Перш чым слова станецца"). Цярплівасць — гэта тое, што дае сілы ісці па мосце далей, няхай нават па «ходніку» са стаптаных мараў ("Nie deptać marzec?" / "Не таптаць мараў?"). Аказваецца, няма нічога страшнага, наадварот, ёсць свой сэнс у падаўжэнні такога "ходніка": "cierpienie powinno być // cierpliwe // niewyczerpane // zapomnij krzywdy // zrób miejsce następnym" ("цярпенне павінна быць // цярплівае // невычарпальнае // забудзь крыўды // вызвалі месца для наступных"), — піша паэтка ўжо ў іншым вершы пад назваю "Bezczas" ("Бязчассе").

Нярэдка ў гэтай незгасальнай жыццёвай «вясёлцы» ўзнікае і цалкам усё засланяе чорны колер, неўласцівы небу... Як жа лірычная гераіня ратуе ад яго свой небасхіл? Ёсць вершы, якія прапануюць выйсце: "Skiadanie śladyw" ("Складанне слядоў"), "Nadzieja" ("Надзея"), "Catharsis" ("Катарсіс"), "Ulecieć" ("Паляцець") і інш. Гэтыя шляхі Г. Рамашэўская шукае не ў вонкавай рэчаіснасці, а ў сабе, як, напрыклад, гэта адлюстравана ў вершы "Catharsis": "szczotką od rdzy // nie oczyścisz świata // ale możesz zdemaskować siebie" ("шчоткаю ад іржы // не ачысціш свету // але можаш адкрыць сябе").

Менавіта тонкае выяўленне адзначаных духоўных станаў — вагання, цярплівасці, пошуку выйсця — надае зборніку "...W dłoniach czasu…" мастацкую напружанасць і драматызм. Але ёсць у ім і такія вершы, у якіх душа можа прыпыніцца і, як кажуць палякі, "zapatrzyć sie", або са шчырым здзіўленнем заслухацца, заглядзецца, замілавацца... Да найцікавейшых з іх я аднесла б твор "Konwaliowe ogrody" ("Сады канваліяў").

Што датычыць кампазіцыйнай пабудовы кнігі "...W dłoniach czasu…", то вершы ў ёй размеркаваны ў тры раздзелы паводле храналагічнага прынцыпу. Апошні раздзел, аднайменны з назваю самой кнігі, складае амаль палову зборніка і змяшчае вершы 2008 — 2009 гадоў. Тут усё часцей, нават дзе-нідзе паўтараючыся, аўтарка разважае над катэгорыяй праўды. У адным з інтэрв'ю польскаму часопісу "Podlaski Kwartalnik Kulturalny" (№ 4 / 1998) Г. Рамашэўская катэгарычна запэўніла: "Я пастанавіла даць сведчанне праўдзе. <…> На жаль, Расчараваныя Чытачы, пішацца толькі пра тое, што ёсць вакол нас (і ў нас), а вакол відаць тое, што ёсць у вершах". Гэтыя словы самі па сабе выяўляюць стаўленне Г. Рамашэўскай да паэзіі ў прыватнасці і да мастацтва наогул. Але ў дадзеным выпадку звернем увагу на той спосаб, якім яна дае абяцанае "сведчанне праўды". Лірычная гераіня Г. Рамашэўскай мэтанакіравана паказвае зноў жа два светы, якія маюць вельмі рэзкую і выразную мяжу: свет выгоднай і замкнёнай штучнасці і свет праўды. Апошняя не мае тых ці іншых варыянтаў у залежнасці ад сітуацыі і патрабуе "натуральнага", "унутранага", "нябеснага" святла, якое ўвасоблена ў вобразе "krzewu gorejącego" ("палаючага куста") з верша "Przebudzenie" ("Абуджэнне"). Калі чалавек не мае ў сабе таго, што сімвалізуе гэты біблейскі вобраз, то ўсё яго жыццё ў штучным святле спаўняецца ў найлепшым выпадку "dookolnie", як піша Г. Рамашэўская ў іншым сваім вершы. А "ў далонях часу" застаюцца толькі ўбачаныя праз заслону штучнасці і "схопленыя" думкаю, сэрцам часцінкі праўды, усё астатняе мінае, нібы працякаючы скрозь пальцы таго ж гаспадарлівага часу. Менавіта такой мне бачыцца канцэпцыя ўсяго зборніка.

Іншымі словамі, без любові і праўды — што амаль сінонімы — усё ў свеце становіцца лішнім, не вартым пазнавання, прачытання і... пяра. А калі сказаць выслоўем самой Г. Рамашэўскай, усё становіцца "nie na temat", або проста "не па тэме".

Ганна СЕРЭХАН

# Класікі французскай паэзіі



Франсуа ВІЁН
(Fransois Villon)
каля 1431 — пасля 1463

## Эпітафія Віёна

Пачцівыя, спагадлівыя людзі,
Браты, што нас перажылі, нябог,
Хто да няшчасных літасцівым будзе,
З таго калісьці злітуецца Бог!
Вось мы ў пятлі ўпяцёх альбо ўшасцёх,
А цела хорам, колісь дагляданы,
Дазвання зруйнаваны, пажыраны
І жменькай пылу зробіцца ў свой час.
Тут недарэчы здзек і гумар танны:
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Няўжо з пагардаю ці ў перапудзе
Забудзеце аб ветраных братох?
Няхай нас пакарала Правасуддзе,
Ды хто з людзей спакусу перамог?
Пусціце міласэрнасць на парог,
Каб справядлівы Сын Марыі Панны
Нам дараваў правіны і заганы
І ўратаванне душаў нам прыпас.
Спакой памерлых варты вашай шаны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Мы парахнеем у брыдзе і брудзе
На ростанях усіх зямных дарог,
Нам злівы да касцей прамылі грудзі,
Птах выдзеўб нашы вочы, як гарох,
Бароды й бровы скуб, як толькі мог.
Нас не чакае супакой жаданы:
Туды-сюды вятрыска несціханы
Нас гойдае, астатнім напаказ.
Дык пашкадуйце, людзі, нашы раны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Ісусе, Збаўца, ўсімі шанаваны,
Хай лёс пякельны, нам наканаваны,
Ахвяраў абміне на гэты раз!
Хто з нас смяецца, будзе пакараны!
Маліцеся Ўсявышняму за нас!



П'ер дэ РАНСАР
(Pierre de Ronsard)
1524 — 1585

* * *

Калі бывае, што ўбаку, адна,
Сядзіш ты, задуменная такая,
Ва ўладзе мар, куды не дападае
Ні навакольны тлум, ні гамана, —

Як прагну я твой смутак разагнаць,
Загаварыць з табою, дарагая! —
Ды хваляванне горла зацінае,
І я нямею, ўзрушаны да дна.

Бо твой пагляд, праменны і журлівы,
Раптоўнай хваляй слодычы шчымлівай
Захліствае істоту ўсю маю.

І толькі ўздых, і толькі твар збялелы,
І толькі смутак мой і выдаюць,
Як я кахаю, як душа збалела.



Шарль БАДЛЕР
(Charles Baudelaire)
1821 — 1867

## Адпаведнікі

Прырода — гэта храм, дзе шмат таемных слоў
Часамі льга пачуць ад кожнае калоны;
Ты йдзеш праз сімвалаў гушчар адушаўлёны,
Што сочаць за табой з увагаю сяброў.

Як быццам далячынь злівае рэхі ў еднасць,
Адзінства цёмнае, бы крумкача крыло,
І велічэзнае, як цемра і святло, —
Так водар, колер, гук ствараюць адпаведнасць.

Ёсць водары: адзін зялёны, быццам луг,
Салодкі, як габой, як плоць дзіцяці, свежы, —
Другі, разбэшчаны, раскошай вабіць дух

* * *

І неабсяжнага нам пашырае межы:
Так мускус, ладан, нард смак надаюць жыццю,
Шаленствы — розуму, парывы — пачуццю.

## Мінаючы

Вакол гудзеў натоўп, нібы пчаліны рой.
І раптам паўз мяне — маўклівасць у гамонцы,
Журба і прыгажосць, засмужанае сонца! —
Яна, прыбраная ў жалобны й пекны строй.

Шляхетная хада і таямнічы вэлюм,
І бездань у вачах, няўмольнасць у красе,
Што з асалодаю й загубу прынясе:
У несмяротным — смерць, жыццё — у знежывелым.
Маланка… потым змрок. Пакорны харству,
На міг я твой пагляд сустрэў — і зноў жыву!
Мо хоць у вечнасці шчэ стрэнемся вачыма?

Хоць немавед калі? Запозна. Немагчыма,
Бо ты не там, дзе я; дзе я — цябе няма.
А мог цябе кахаць — ты ведаеш сама!



Поль ВЕРЛЕН
(Paul Verlaine)
1844 — 1896

## Мастацтва паэзіі

Спачатку — музыка між хаосу,
Тады і ўчуеш рытм-памер:
Бязважкі й лёткі, як сам этэр,
Няцот лаві, дык ня мецьме зносу.

І хай, можа, песенька твая
Хістае словы, нібы з капрызу:
Пад хмелем расхростанага брызу
Дакладнасць пякнейшая ўдвая.

Гэта як позіркі праз вялёны,
Гэта скрозь лісце вырай святла,
Гэта ў затокі цёмнага шкла
Гармідар зораў глядзіць шалёны!

Цяпер Адценне хай возьме лейцы:
Не Колер пэўны — адно Нюанс
Павабіць мары на кантраданс,
Ражок павядзе насустрач флейце!

Але адцурайся Вастрыні —
Падступны Досціп ці Смех забойчы
Імгліць ня смее Даверу вочы,
Ні потых нізкае варыўні!

Красамоўству шыю скруці набок!
І добра, каб не вагаўся густ
Наводзіць Рыфму штораз на глузд,
Бо дасца ў знакі нам ейны скок!

О Рыфма, споўненая пракудства!
Які глушэц, а які лайдак
Бразготку тую цаной мядзяк
Пусціў па свеце назноньваць глупства?

Яшчэ раз — музыкі! І чуцця!
І верш твой, быццам уздых нярoўны,
З-пад сэрца вымкне, любасці поўны,
Да вышаў, поўных жыцця.

Хай верш нясецца ў вір авантуры,
Як загулялы ў палях віхор,
І мяту ўблытае, і чабор…
А іншае ўсё — з літаратуры.



Арцюр РЭМБО
(Arthur Rimbaud)
1854 — 1891

## Баль шыбенікаў

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.

Вялебны Вельзевул валадаром на балі,
Крыўлякаў, што ў пятлі блюзнераць задарма,
Б'е туфлею па лбах, каб весялей скакалі
Пад акампанемент каляднага псалма.

І кожны ачмурэў, страсае ў танцы косці,
Аб грудзі б'е грудзьмі, бы грукае ў тамтам,
Прыпадачна хрыпіць у вычварнай мілосці,
Хоць колісь прыпадаў да вытанчаных дам.

Агромністы памост дае танцорам шанец —
Гоп! — весела скакаць без мяса і вантроб!
І ўжо не зразумець, ці гэта бой, ці танец!
Рве струны Вельзевул, вядомы філантроп!

Кашуляў скураных пазбыліся амаль што,
Абутак не псуе ім лёгкае ступы,
Не муляе даўно шляхетных шыяў гальштук,
А снег капелюшы напнуў на чарапы.

Крумкач, нібы султан, сядае на галовы,
Вісіць на барадзе шматок былой шчакі.
Здаецца, ваярам, расцятым да паловы,
Картоннага мяча ня выпусціць з рукі.

Ад гойсаньня ўвачу хістаюцца нябёсы,
Ліловыя лясы працяў ваўчыны сквіл,
Вісельня, як арган, скавыча шматгалоса
Й пякельнай чырванню палае небасхіл.

А ну хутчэй скакаць, здыхляціна старая,
Што лашчыць неўпрыкмет ружанец пазванкоў,
Нібыта пацеркі манах перабірае:
Тут вам не манастыр, а кодла мерцвякоў!

Ах! вунь сапселы ўшчэнт ад замагільных скокаў,
Вялізарны шкілет узняўся на дыбкі,
Узвіўся ў вышыню, шчасліва загалёкаў,
Ды раптам зноў адчуў пятлі прыгнёт цяжкі,

І з енкамі, што так падобныя да кпінаў,
Сціскаючы ў кулак нявыслаўлены жаль,
Як блазен, што на міг свой балаган пакінуў,
Пад музыку касцей вяртаецца на баль.

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.



Гіём АПАЛІНЭР
(Guillaume Apollinaire)
1880 — 1918

## Ларэлея

У Бахараху смерць мужчынаў напаткала
Прынесла згубу ім красы вядзьмарскай джала

Да біскупа вядуць шукаюць страшных кар
Ды ўбачыўшы яе пра ўсё забыў святар

О Ларэлея як гарачь сапфірам вочы
Хто змог зачараваць прыўкрасны стан дзявочы

Стамілася я жыць на мне праклён стары
Хто ў вочы мне зірне той тоне ў іх віры

Бо полымем гараць а не сапфірам вочы
Хай знішчыць вогнішча вядзьмарскі стан дзявочы

Гару ў агні вачэй і не пазбыцца пут
О Ларэлея хай хтось іншы правіць суд

Які жахлівы жарт Малітвы ўзносьце Панне
Наблізьце смерць маю наблізьце ратаванне

Каханы з'ехаў след ягоны растае
Наблізьце смерць хутчэй няма душы мае

А сэрца ліхадзей і лепей мне памерці
Зірнуць бы на сябе і ўбачыць прывід смерці

А сэрца ліхадзей з тых дзён як з'ехаў ён
А сэрца вораг мой пякучы боль здавён

Трох рыцараў тады трох вояў для апекі
Адправіў біскуп з той чые трымцяць павекі

Вяр'ятка ў манастыр цябе хай адвядуць
Свой новы строй надзень пакорнай мнішкай будзь

Ідуць учатырох і плача Ларэлея
І ад яе вачэй наўкола дзень святлее

О дайце мне ўзысці на строму над ракой
На замак паглядзець махнуць яму рукой

Пасля ў раку зірнуць а там без лішніх словаў
Я ў манастыр сыду да дзеваў і да ўдоваў

А ў валасах вятры гуляюць з пекнатой
І рыцары крычаць О Ларэлея стой

Вунь човен Рэйн нясе сягнуць яго здалею
Каханы ў ім плыве ён кліча Ларэлею

Каханы зноў са мной мне больш не ўсё адно
І кінуўшыся ў Рэйн яна ідзе на дно

На Ларэлею ёй глядзець у люстры плёсаў
На Рэйн яе вачэй і сонца светлых косаў



Поль ЭЛЮАР
(Paul Eluard)
1895 — 1952

Я сказаў табе гэта для хмарак,
Я сказаў табе гэта для дрэва на беразе мора,
Для кожнай хвалі, для птушак у лісці,
Для перастуквання каменьчыкаў,
Для блізкіх рук,
Для вока, якое становіцца тварам і краявідам,
Бо сон яму вяртае неба яго колеру.
Я сказаў табе гэта для выпітай ночы,
Для агароджы прыдарожнай,
Для расчыненых вокнаў, для ілба адкрытага,
Я сказаў табе гэта для думак тваіх і для слоў тваіх,
Бо давер і пяшчота застаюцца заўсёды ў жывых.

Пераклады з французскай ажыццявілі: Эдзі Агняцвет, Галіна Дубянецкая, Алег Лойка, Ніна Мацяш, Андрэй Стэфановіч, Андрэй Хадановіч

# Кахаць стала надта лёгка



Жан д'Армесон

## Эсэ

Жан д'Армесон (н. 1925) — шырокавядомы французскі раманіст, які сёння лічыцца на радзіме жывым класікам. Першы свой раман ён напісаў у 1956 годзе. З таго часу выйшла ўжо некалькі дзесяткаў кніг д'Армесона, што нязменна выклікалі ўвагу чытача. Практычна ўсе яны заснаваныя на аўтабіяграфічным матэрыяле. Прызнаннем заслуг пісьменніка стала абранне яго ў Французскую акадэмію. Таксама Жан д'Армесон з'яўляецца кавалерам ордэна Ганаровага Легіёна.

Мы жывём у свеце, дзе стала лёгка перааддольваць самыя вялікія адлегласці, дзе ўсё большая колькасць людзей страхуецца, па ўласным жаданні ці прымусова, ад рознага кшталту небяспекі ў нашым існаванні і дзе ранейшыя забароны і табу знікаюць пад ціскам нашага крытычнага розуму. Усё гэта не спрые інтымным пачуццям.

Возьмем, напрыклад, абароненасць нашага жыцця. Мне могуць запярэчыць, вядома, што сучасная навука — гэта, наадварот, уцялесненая небяспека штодзённага існавання. Усё насамрэч больш складана. Навука забяспечвае абароненасць нашага існавання на бліжэйшы час, але якраз яна пагражае ёй з пазіцый больш аддаленай перспектывы. Усё адбываецца так, быццам мы абмянялі ўсе свае паўсядзённыя, хранічныя хваробы — на адзін велізарны небяспечны нарыў, які цалкам можа прарвацца калі-небудзь; нібыта ўсе страхі і перашкоды нашага існавання, знесеныя прагрэсам, замяніліся адзіным Страхам — палітычным, навуковым, эсхаталагічным; гэты велізарны нарыў, гэты Страх — Бомба.

Уплыў гэтай гіпатэтычнай бомбы з будучыні на наша сённяшняе паўсядзённае жыццё заслугоўвае бы асобнай гаворкі. Фільмам "Хірасіма, любоў мая" ўжо быў як бы зададзены статус кахання ў атамную эпоху — кахання, аддаджанага ў заклад; кахання, афарбаванага ў колеры будучага канца свету.

Перад абліччам гэтай канчатковай вусцішы ўсё ў нашым паўсядзённым існаванні робіцца прасцейшым і больш зразумелым. Калі зацяганае параўнанне навукова-тэхнічнага прагрэсу з д'яблавай дамовай можа адкрыць нам сёння яшчэ адзін свой бок, то вось ён: выгоды сучаснасці прыдбаныя намі за кошт будучай катастрофы. Сёння, пакуль што, у нашым існаванні багата камфорту і нямала задавальненняў — калі, вядома, не прымаць у разлік трывогі, якая ўсё нарастае. Бясспрэчна, здараюцца і банкруцтвы і самагубствы, мы часам дазваляем сабе нават трохі папакутаваць, але розныя асабістыя драмы, прынамсі на Захадзе, яўна прайграюць замглёнай далёкай перспектыве катастрофы ўсеагульнай, універсальнай (ад якой можна, праўда што, пакуль адвесці позірк).

Сутнасць гэтага стагоддзя і палягае, напэўна, ў добраахвотным прыманні чалавецтвам будучай самаліквідацыі ў абмен на сённяшнюю ліквідацыю адзінкавых небяспечных выпадковасцей — і нават часу і адлегласці. Хутчэй, далей, з меншымі выдаткамі, з меншай рызыкай: пакліканне сучаснай тэхнікі — пазбавіць чалавека ад абмежаванняў, якія накладаюцца на яго месцам нараджэння, часам, прыроднымі стыхіямі – агнём, вадой, – рознымі выпадковасцямі.

У гэтым свеце, застрахаваным і уніфікаваным, мы не жадаем больш рызыкаваць. Каханне, верагодна, можна аднесці да задавальненняў (асабіста я так не лічу), але моцнае пачуццё, у кожным разе, — гэта небяспечная авантура. Яно можа парушыць агульнапрынятыя і зладжаныя рытмы жыцця. Усе сёння дастаткова заможныя, каб не памерці з голаду, але не настолькі, каб не залежаць ад чыноўніка, працы, раскладу. Жыццё — не цяжкае, але да жудаснага прадказальнае; мы нават можам паехаць куды пажадаем, але толькі на 15 дзён адпачынку; паездка на Таіці сёння не больш далёкае падарожжа, чым у даліну Шэўрэз усяго толькі стагоддзе таму. У нашым свеце, дзе бегчы няма куды, дзе ўсё загадзя распісанае, дзе вам аплачваюць выдаткі, калі ідзе дождж, — у гэткім свеце ўсёпаглынальнае пачуццё выглядае недарэчна. Усё занадта пралічана, усё ідзе надта хутка і ўсё побач.

"Каханне, — даваў цудоўную фармулёўку Пруст, — гэта калі сэрца востра ўспрымае час і адлегласць". Я не ведаю лепшага азначэння жарсці і пачуцця. Яно робіць відавочным тое, што зрабілі б "боінгі" з Трышчанам і Ізотай, Элаізай і Абелярам, даўшы ім магчымасць абляцець зямны шар — праз палюсы і на адпаведнай хуткасці — за некалькі гадзін. Гэткія тэмпы і шыроты не даюць магчымасці праявіць і сцвердзіць моц свайго пачуцця. Вось спадар Нарпуа ў "Пошуках страчанага часу" здзіўляе ўсіх і становіцца нам амаль сімпатычны, калі мы даведваемся, што ўжо некалькі гадоў ён ездзіць у Рым адзін-два разы на месяц, каб пабачыцца з каханай жанчынай. Сёння адлегласць не ўяўляе перашкоды для самых трывіяльных пачуццяў. Сучасная ідэя — адправіць у падарожжа дзяўчыну, каб дапамагчы ёй вылекавацца ад жарсці — гэта замена (на жаль) моцы ейнай цнатлівасці энергіяй рэактыўнага рухавіка.

Дыстанцыі фізічныя, дыстанцыі сацыяльныя... І ў адным, і ў іншым выпадку моц кахання прапарцыянальная тым перашкодам, якія трэба пераадолець. Дэні дэ Ружмон вельмі правільна ўказаў у сваёй працы "Каханне і Захад" на дзве характэрныя яго рысы ў нашай цывілізацыі: каханне мусіць быць раздзеленым і яно мусіць быць няшчасным. Калі яму замінае не фізічная перашкода (адлегласць, турэмныя муры, Гелеспонт — для Леандра і Геры), то абавязкова маральная: ён ці яна святар альбо манахіня; іх сем'і варагуюць (Рамэа і Джульета); сацыяльнае становішча закаханых занадта розніцца (улюбёная раманная антытэза індустрыяльных часоў: ён — рабочы, яна — з сям'і буржуа, альбо ён — з сям'і буржуа, а яна — дачка герцага). Кожнай жарсці спадарожнічае барацьба, кроў, бездань, што падзяляе, напрыклад, Хімену і забойцу ейнага бацькі. Што засталося ад усяго гэтага ў наш час? Свецкія фатографы, шматтыражныя часопісы з прыгажунямі на вокладках, занапад старых фамілій — і вось, нарэшце, ланцугі разарваныя, муры разбураныя. Тое, што рэактыўны самалёт зрабіў з фізічнымі адлегласцямі, эвалюцыя нораваў зрабіла з дыстанцыямі сацыяльнымі. Перашкоды ліквідаваныя — каб ураткаваць каханне, але разам з імі сышло і каханне. Англічане ў такіх выпадках кажуць, што "з вадою выплюхнулі і дзіця".

Пра тое ж сведчыць нам і кіно. Прыгожы фільм Брэсона "Дамы Булонскага леса", пастаўлены паводле апавядання Дзідро, здзівіў нас наступнай неадпаведнасцю: тагачасныя рэаліі (напрыклад, адзенне) замененыя на сучасныя, а пачуцці засталіся тымі ж. Адгэтуль і наша здзіўленне людзьмі ў сучасных куртках, чыіх учынкаў мы аднак ужо не разумеем. Тое, што агаломшвала тады — г.зн. спараджала эмоцыі, у наш час зводзіцца да матэрыяльных праблем. Вось жа, перашкоды перасталі быць нечым сур'ёзным, і — о цуд дыялектыкі душы! — пачуцці таксама перасталі быць нечым сур'ёзным.

Праўда палягае ў тым, што сучаснае каханне занадта камфортна пачувае сябе ў сціснутым свеце, аблеплены этыкеткамі і гарантыямі з усіх бакоў. Кахаць стала надта лёгка. У Амерыцы наогул няма ніякіх праблем: тут проста разводзяцца са з'яўленнем чарговага палюбоўніка. І ўсе ведаюць, што каханне ў сям'і — гэта ўсяго толькі юрыдычнае пытанне. А вось у рамане мадам дэ Лафает прынцэса Клеўская кахае спадара дэ Немура, ён таксама кахае яе, і муж яе памірае якраз, калі тое трэба. Не, яна яго не атруціла, і спадар дэ Немур не пракалоў яго стылетам, ён не скончыў жыццё самагубствам, і прынцэса нават не здрадзіла яму. Але, у пэўным сэнсе, трохі складаным для сучаснага разумення, — у сэнсе, непрыкметным на першы погляд, усё-ткі прычынай яго смерці было іх каханне. І гэтага дастаткова для дваіх закаханых, якіх нічога больш не раздзяляе — ні іх ранг, ні асабістыя варункі, ні нават свецкія ўмоўнасці, — каб ніколі не злучыцца, і нават не жадаць гэтага.

Оскар Уайльд казаў, што адзіная магчымасць пазбавіцца ад спакусы — саступіць ёй. І вось мы, навучыўшыся саступаць сваім спакусам, сапраўды ад іх пазбавіліся. Абараняючы ў літаратуры, кіно, асабістым жыцці веліч пачуцця кахання, мы пераварылі яго ў штодзённую дробязь, якая не ўражвае нас і не патрабуе ад нас зухаватасці; мы зрабілі з кахання прыхамаць.

Каханне, якое сталася такім павярхоўным, згасае сёння не толькі ў найвышэйшых сваіх праявах, але — парадаксальным чынам — у самых нізкіх, г.зн. у прастытуцыі. Гэтая паспяховая індустрыя, "абаротны капітал" якой штогод складаў у Францыі, па вельмі сціплых разліках, салідную суму у 150 мільярдаў, знаходзіцца сёння пад сур'ёзнай пагрозай. Прычына тут не ў прававым пераследзе, які ніколі не быў надта суровым (тысячы тонкіх, але моцных ніцей звязваюць закон і яго выканаўцу, паліцыю, з аднаго боку, — сутэнёраў і іх жанчын, якія з'яўляюцца іх каштоўнымі памагатымі, — з другога боку). Прычына тут у іншым — у той лёгкасці, з якой сёння задавальняюцца цялесныя патрэбы. Я не хачу сказаць, вядома, што ўсе без разбору ўступаюць у сувязь. Часта нават здараецца так, што ў нас не ўступаюць у сувязь з чалавекам менавіта таму, што кахаюць яго, ці, наадварот, кахаюць яго таму, што не знаходзяцца з ім у сувязі, — гэткі наш "апошні стрэл" у абарону годнасці кахання. Але што да платнага візіту жанчыны, то гэта, часцей за ўсё, проста блудная прыхамаць, а ніяк не фізіялагічная неабходнасць — ні для каго. Хто заўгодна — багаты і бедны, разумны і дурны – мае безліч магчымасцей задаволіць свае жаданні. Значна цяжэйшая праблема паўстае перад нашымі самотнымі — і, кажуць, шматлікімі — абяздоленымі жанчынамі. І як вырашаць гэтую праблему — мужчынскай прастытуцыяй?..

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што пераважная большасць кліентаў нашых "працаўніц панелі" — людзі з псіхічнымі адхіленнямі ці спецыфічнымі запытамі. Але я кажу гэта не дзеля таго, каб іх асуджаць. Канстатуем толькі, што, паколькі прадажнае "каханне" працягвае карыстацца вялікім попытам, то ёсць небяспека, што развіццё сітуацыі паўплывае на агульную эвалюцыю нораваў. Сёння свецкія дамы складаюць сур'ёзную канкурэнцыю "паўсвецкім дамам", а гэтыя, у сваю чаргу, "дамам панелі".

Праўду кажучы, у мяне ёсць вялікія сумневы, што куртызанкі наогул могуць знікнуць. У даўнія часы гэта лічылася жаночай прафесіяй, як вайна — мужчынскай. Я моцна не ўпэўнены, што (насуперак гэтаму ўзвышанаму маралізму, моду на які ўвяла мадам дэ Бавуар) прадажных жанчын болей не будзе. У гісторыі не раз былі перыяды ўсеагульнай разбэшчанасці, але прадажныя жанчыны іх перажылі. Я хутчэй магу сабе ўявіць, што эвалюцыя нораваў не прамовіла яшчэ свайго апошняга слова: бо, паводле вядомага закона попыту і прапановы, танны тавар імкнуцца зноў павысіць у цане. Можа адбыцца магутнейшая зваротная рэакцыя, якая верне стрыманасць сапраўднаму каханню і цану — "прадажнаму".

Улічваючы магчымыя выгіны чалавечай гісторыі, мне не падаецца неверагодным і яшчэ адзін рэзкі яе штуршок — зварот да звычайнай чысціні нораваў і ўзвышэнне цноты і ўстрымання. У будучыні можа стацца, што нашы 16-гадовыя ўнучкі, спрактыкаваныя ў граху, якія падаюць усё ніжэй і ніжэй, адчуюць раптам, што жыццё становіцца бессэнсоўным. Мажліва, яны заўважаць, што фізічнае каханне — тая самая мода, як і мода на ўсё астатняе, і што не варта было б надаваць яму столькі значэння, калі б вакол яго не ўсчыналі такі вэрхал. І тады ўласны досвед падштурхне іх, дзеля наступнага пакалення, да поўнага перавароту ў сферы ўзаемаадносін. Тады наблізяцца часы, калі каханне нанова набудзе сваю вартасць, і зноў узнікнуць перашкоды перад тымі, хто наважыцца кахаць, нягледзячы на цяжкасці і небяспеку. І няхай вернуцца ў наша жыццё гэтыя ланцугі, вераванні, прымхі і пакутнікі — каб вярнуць нам каханне!

І яшчэ — вярніце нам святую слепату! Каханне заўжды было дзіцем з завязанымі вачыма. Навучанае, сталае, цікаўнае ці перанасычанае, — гэтае дзіця заўсёды было бескампрамісным. Зашмат кніг, фільмаў, псіхалагічных даследаванняў — карацей, зашмат распаведзеных нам гісторый зводзілася да таго, што каханне кепска завяршаецца і таму мусіць хутка заканчвацца. Кожны ведае сёння, што каханне прыходзіць і адыходзіць; што Рамэа нездарма хацеў памерці маладым — інакш ён здрадзіў бы Джульеце; што Трышчан і Ізота абавязкова забыліся б адно на аднаго.

І тут мяне наведвае раптоўная думка: ці не перапісаць мне нанова ўсё тое, што я сказаў ужо тут? Я сцвярджаў, што каханне знікае таму, што мы зашмат займаемся ім фізічна, а ці не наадварот: мы робім так, бо ведаем, што каханне хуткаплыннае і жадаем хоць на момант забыцца пра гэта? Мы ўсё ж такі верым у каханне, але ведаем, што яно хутка праходзіць. І тады — усё дазволена.

У наш час, калі маладыя людзі называюць сябе разбэшчанымі і нават трохі ненармальнымі, яны падаюцца мне, наадварот, безнадзейна разумнымі, абцяжаранымі здаровым сэнсам. Яны маюць і пяшчоту, і сур'ёзнасць, і пачуццё адказнасці — шлюб, як ніколі раней, бярэцца вельмі абдумана. Гульня слоў: паколькі шлюб па разліку сыходзіць у мінулае, то цяпер шлюб па каханні разлічваецца да дробязей. Жарсці цела наталяюцца сустрэчамі, але нашы раззлаваныя маладыя людзі пры гэтым не забываюцца чарговы раз застрахаваць сваё жыццё. Яны часцей за ўсё да жудаснага сур'ёзныя, а тыя няшчасныя, якіх лічаць абсалютна несвядомымі, насамрэч пакутуюць ад перанасычанасці свядомым: яны палохаюцца, што моцнае пачуццё парушыць іх спакой, яны ўладкоўваюць сваё жыццё так, каб яно выраджалася ў цынізм і выпадковыя сувязі. Яны ведаюць, што ў кожным разе каханне –штука непрацяглая. Яны могуць быць выдатнымі мужамі, бо яны адчуваюць сябе нармальнымі чальцамі грамадства, у іх сур'ёзны характар, яны здольныя да пяшчоты — у глыбіні душы, і дух часу навучыў іх адказнасці. Махляры і добрасумленныя грамадзяне, "бітнікі" і бацькі сямействаў з грузам абавязку — усе яны маюць агульную рысу: яны мысляць занадта цвяроза. І ўсё пачуццё, на якое яны здольныя, будзе таму заглушанае імі ў выпадковых матэлях — пад цяжарам цвярозага розуму.

Каханне пакідае нас, бо кахаць стала надта лёгка. А мы пакідаем яго, таму што бачым яго ў занадта зыркім святле.

О маленькія мармуровыя Эроты, забаўныя Амуры з лукам і стрэламі, завяжыце нам вочы, каб мы маглі менш бачыць і больш кахаць.

Пераклад
Кацярыны КАЛОДАЧКІНАЙ
і Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА

## Першае ўражанне

Рэжысёры могуць усё: сапсаваць добрую п'есу і "выцягнуць" слабую, асучасніць старажытнага аўтара, перайначыць сэнс твора і многае іншае. Той, хто абяцаў паставіць тэлефонны даведнік, мабыць, збіраўся пісаць паводле яго інсцэніроўку. Рэжысёры вельмі ахвотна і смела бяруцца за інсцэніроўкі. Гэтыя вылазкі ў іншую прафесію ў большасці выпадкаў не вытрымліваюць крытыкі, аднак шчодра аплачваюцца Міністэрствам культуры.



# Бальзак ні ў чым не вінаваты

Да разгорнутай інсцэніроўкі падобная п'еса Анарэ дэ Бальзака "Мачаха", пастаўленая Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатрам імя М. Горкага (пад назвай "Пакінутая жанчына"). У тэкст, аказваецца, упліշчаны фрагмент вядомых празаічных твораў французскага класіка. У якасці аўтараў інсцэніроўкі выступаюць рэжысёр-пастаноўшчык Барыс Луцэнка і перакладчыца Алена Мінчукова.

Перад намі спектакль-споведзь, як зазначыў у інтэрв'ю "ЛіМу" Барыс Іванавіч напярэдадні прэм'еры (гл. нумар за 18.12.09 г., "Луцэнка звярнуўся да "Мачахі". — Рэд.). Яго зачапілі неўтаймаваныя пачуцці герояў бальзакаўскага твора, якія забілі ў іх, героях, прыкметы чалавечнасці.

Напачатку мы бачым ідэальную сям'ю старога бравага генерала. Маладая прыгажуня-жонка не толькі выхавала падчарку, але і агульнага сына нарадзіла, якога апранулі ў напалеонаўскі касцюмчык і "ляпяць" з яго яшчэ аднаго палкаводца. Адразу ўзнікае адчуванне эклектыкі: што ні сцэна, то разгортваецца нейкі іншы — і зместам, і стылем — спектакль. Эпізоды і эпізодзікі нанізваюцца на нітку дзеі, як пацеркі, але ўсё распаўзаецца, літаральна разлазіцца па швах, не змацаванае скразной задумай рэжысёра ці хаця б добра скроенай драматургіяй.

Мы то "раптам" даведваемся, што падчарка Паліна кахае ўпраўляючага Фердынанда, то сочым за пластычным увасабленнем ранейшага бурнага рамана Фердынанда і мачахі (бліскучая, між іншым, сцэна!). Аказваецца, ён таленавіты паэт, і жанчына ведае ўсе яго творы на памяць. Разам яны прагулялі выйграныя ім у казіно грошы, а потым Гертруда пайшла ў служанкі да генерала і стала маці для ягонай дачкі-сіроткі. Гэта яна выклікала ў маёнтак збяднелага паэта і зрабіла яго ўпраўляючым на фабрыцы. Навідавоку любоўны трохкутнік. Нават два: Паліна — Фердынанд — Гертруда і Гертруда — Фердынанд — генерал. І тут закіпелі жарсці. Падчарка даведалася пра амуры мачахі і пачынае яе шантажаваць скрадзенымі любоўнымі пісьмамі. (Спадзяюся, перапісваліся палюбоўнікі не ў маёнтку?) Фердынанд просіць свабоды, ён задыхаецца без плошчаў і апладысментаў, вершы не пішуцца. Мачаха двойчы спрабуе атруціць Паліну, прычым другі раз — ужо тады, калі каханак ад усяго гэтага збег у Амерыку, а гаротніца Паліна вянчаецца са сваім даўнім залётнікам (някепская акцёрская работа І. Труса). І толькі генерал, як нічога й не было, "балабоніць" са сваімі сябрамі, намагаецца выдаць дачку замуж і патурае малому сыну ў яго напалеонаўскіх забаўках.

"Замес" увогуле густы. А ёсць жа, акрамя названых, і некалькі пабочных сюжэтных ліній, разлічаных на выключна наіўнага гледача, якія толькі з'ядаюць сцэнічны час. І хоць у фінале герой застрэліў і сваю дачку, і ўпраўляючага, але сама любоўная гісторыя, мякка кажучы, не стрэліла. Спектакль не толькі абцяжараны падрабязнасцямі і кампазіцыйна "не выстраены", але і жанрава няпэўны: тут табе і фарс, і налёт рамантыкі, меладрама раз-пораз пераходзіць у драму, што якраз апраўдана: там, дзе нянавісць, злачынства і смерць, прыстаўка "мела-" выглядае недарэчнай. Нянавісць цяжэй перадаць, чым любоў. Яна скажае рысы твару і змяняе тэмбр голасу. Зусім не абавязкова жанчынам біцца-тузацца на сцэне, каб мы адчулі напал іх супрацьстаяння.

Увасабленне твора, напісанага ў 1848 годзе, на сучаснай сцэне вымагала, на мой погляд, больш строгага адбору матэрыялу. Цяжка зразумець, для чаго "абсмоктваюцца" палітычныя прыхільнасці неўтаймоўнага ваякі, фаната Напалеона; што дадае спектаклю парадыйная сюжэтная ўстаўка пра мыш'як; навошта столькі размоў з доктарам. Статычнай, хоць і самавітай фігурай выглядае паэт-упраўляючы (і як тая фабрыка пры ім не прагарэла?!). І толькі з'яўленне на сцэне следчага (А. Душачкін) надае дзеі пэўнае злавеснае, сапраўды драматычнае гучанне.

Удалы выбар выканаўцы галоўнай ролі (А. Унукава) не здатны "выцягнуць" спектакль, пазбаўлены псіхалагічнай перакананальнасці. Урэшце, незразумела галоўнае: для чаго гародзіцца плот? Для чаго прыгоствы на экране (ён адыгрывае ў пастаноўцы немалаважную ролю), з густам падабраная музыка, бездакорная пластыка, стылізаваныя касцюмы, эфектныя мізансцэны, калі з XIX стагоддзя няма выхаду на цяперашні час? Можа, таму ніводная "фібра" і не адгукаецца на знешне прывабнае відовішча...

Так, рэжысёры любяць класіку. Яна лічыцца бяспройгрышным варыянтам. У каго могуць быць прэтэнзіі да Чэхава альбо Шэкспіра? З іх твораў можна "выцягваць сэнсы" да бясконцасці, як павуцінку шаўкапрада. У Маскве ідзе мо пяць спектакляў паводле "Дзядзькі Вані" на розных сцэнічных пляцоўках. Нашы тэатральныя дзеячы стараюцца не адставаць. І толькі Барыс Луцэнка вырашыў стаць арыгінальным і ўзяўся... за Бальзака. Глыба ёсць глыба. Так што я — для падстрахоўкі — абвяшчаю: Бальзак ні ў чым не вінаваты! Ён праславіўся як празаік.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



На здымку: сцэны са спектакля.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

# «Шагал сучаснасці»

Хто спадобіўся такога дзёрзкага параўнання з нашым славутым земляком? Таксама знаны ў шырокім свеце мастак. Ён таксама нарадзіўся ў Беларусі, а цяпер — без малога 30 гадоў — парыжанін: Барыс Забораў.



Мінулай восенню сусветна вядомы графік, жывапісец і сцэнограф Барыс Забораў зноў (трэці раз за гады эміграцыі) прыязджаў у родны Мінск. І ўпершыню такі візіт стаўся ўжо не толькі фактам прыватнага жыцця мастака, а і значнай падзеяй для культурнай грамадскасці нашай краіны. Нагадаю, што леташні прыезд Б. Заборава быў звязаны з удзелам у афіцыйнай цырымоніі перадачы яго карціны "Тумно", створанай у 2008 годзе (а таксама двух жывапісных палотнаў Мікалая Дучыца), у фонд Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Тады ж нашым журналістам паведамілі, што Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь разам з НММ запланавала наладзіць у Мінску выстаўку работ Б. Заборава, і падкрэслілі, што падрыхтоўка экспазіцыі можа расцягнуцца не на адзін год, бо аўтар хацеў бы паказаць на радзіме лепшыя работы парыжскага перыяду, якія даўно пакінулі сцены майстэрні ды раз'ехаліся па свеце... Але напярэдадні новага года з Парыжа прыйшла навіна: мінскую выстаўку знакамітага земляка вырашана правесці ў 2010-м, ідзе падрыхтоўка.

Збылася яго мара: жыць і працаваць у культурнай сталіцы свету. Тут ён авалодаў майстэрствам станковага жывапісу. Тут прыйшла да яго сусветная слава. Аднак у асяроддзі



мінскіх калег і прыхільнікаў Барыс Абрамавіч прызнаўся, што застаецца беларускім мастаком, бо перакананы: чалавек, нават у імкненні да свабоды выбару месца жыхарства, ніколі не павінен адсякаць свае карані. Дарэчы, яго бацька, мастак Абрам Забораў, быў земляком М. Шагала — нарадзіўся на Віцебшчыне, у мястэчку Лёзна, вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. У 2011 г. з дня нараджэння А. Заборава спаўняецца сто гадоў. Яго таленавіты сын адзначыць сёлета сваё 75-годдзе.

Выхаванец Мінскага мастацкага вучылішча, выпускнік двух расійскіх акадэмій, стваральнік ілюстрацый да беларускіх выданняў У. Шэкспіра і О. Уайльда, касцюмаў да пастановак у тэатры "Камедзі Франсэз", выбітных станковых работ, прадстаўленых у многіх скарбніцах — знакамітай фларэнтыйскай галерэі Уфіцы... Правядзенне ў Мінску персанальнай выстаўкі Барыса Заборава — першай на яго радзіме! — парадуе і суайчыннікаў, і самога мастака. І паспрыяе далейшаму развіццю беларуска-французскага культурнага супрацоўніцтва.

С.Б.

На здымку: мастак Барыс Забораў і яго творы.



# Заслаўская сюіта

Да 10-годдзя асветніцкіх святаў у старажытным Заслаўі, якія ладзіць Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга, гэты музычны калектыў пры падтрымцы Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Мінскага райвыканкама і Заслаўскага гарвыканкама папоўніў серыю сваіх навуковых выданняў кнігай "У сядзібе Рагнеды".

Сціплая звонку, кампактная, у някідкай вокладцы, кніга багатая сваім духоўным зместам і эксклюзіўнай інфармацыяй. Складальнік — доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава ва ўласных артыкулах, уключаных у новую кнігу, нагадала пра значэнне фэстаў, запачаткаваных калектывам аркестра ў малых гарадах і стварыла абагульнены малюнак гістарычнага развіцця прафесійнай музычнай культуры на беларускіх землях, яе існавання ў еўрапейскім кантэксце, яе сучасных набыткаў.

Даследчыца паказала вытокі, якімі сілкуецца традыцыя штогадовых студзеньскіх заслаўскіх імпрэз і канцэпцыя кожнай з іх. Кароткія біяграфіі кампазітараў XVI — XIX стагоддзяў, чыя музыка гучала ў Заслаўі; парыжскія стасункі Напалеона Орды; сувязь паміж двума вялікімі імёнамі: Моцарт і Радзівіл; знаёмства з выканаўцамі фестывальных праграм — камернымі калектывамі Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі... Цікава ўсё.

Чытачы могуць звярнуць увагу і на тое, што амаль палову выдання займаюць два раздзелы, складзеныя паводле публікацый "ЛіМа". Гэта "Летапіс друку: з фестывальных замалёвак Святланы Берасцень" і "Як гэта было: заслаўскія імпрэзы ў фотаздымках Віктара Кавалёва".

Арцём КУМЕЛЬСКІХ



На здымку: доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава ў час прэзентацыі новай кнігі на юбілейным свяце "Заслаўе-2010".

Фота Віктара Кавалёва




Як развіваўся беларускі экслібрыс у XVI — XX стагоддзях? Спярша гэта быў толькі знак уладальніка кніжных збораў. У 1920-я пачаў выпрацоўвацца маштабны наватарскі погляд на беларускія першавыткі, што выявілася і ў "адраджэнні" экслібрыса. Потым, калі адпаведна рэгламентаваным ідэалагічным узорам зварот да нацыянальнай спадчыны часам абмяжоўваўся, назіраліся "прылівы" і "адлівы" ў сувязях гэтага мастацтва з фальклорам, этнаграфіяй, міфалогіяй. "Адлівы" — у 1930 — 1950-я гг., "прылівы" — у 1960-я і да нашых часоў.

# Калі мастакі стваралі міфы...

Першапраходцамі ў асваенні міфалагічнай тэматыкі сталі Я.Мінін, С.Юдовін, А.Тычына, П.Гуткоўскі, А.Ахола-Вало, Г.Змудзін-скі, Я.Загароўскі ды іншыя вядомыя майстры эстампа. Ім належаць першыя эксперыменты ў распрацоўцы новых метадаў мастацкай паэтызацыі, цытавання і творчых інтэрпрэтацый здабыткаў народнай культуры: казак, эпаса, міфаў, святаў, абрадаў. У гэтым сэнсе графіка 1920-х — неацэнная спадчына XX стагоддзя. Беларускія мастакі 1920-х упершыню ў гісторыі нашай культуры ўсвядомілі сябе мастакамі новай нацыянальнай дзяржавы і пачалі не толькі ладзіць у тагачасным Менску свае персанальныя выстаўкі, але і ўдзельнічаць ва ўсебеларускіх, усесаюзных і нават міжнародных: у Лейпцыгу, Лос-Анджэлесе, Нью-Йорку, Неапалі.

У часы г.зв. "культурнай рэвалюцыі" менавіта графікам было наканавана стаць інтэлектуальнай элітай грамадства, у задачы якой уваходзіла ўзняць маральны і духоўны прэстыж нацыі, ускалыхнуць гістарычную праўду, адлюстраваць сучаснасць праз мову сімвалаў. Адметнасць айчыннага мастацтва экслібрыса 1920-х была абумоўлена інтэлектуальнай сувяззю творцы з уладальнікам экслібрыса, шчыльным творча-навукова-культурным асяроддзем Менска, якое яднала ўсіх актыўных і аўтарытэтных асоб, і высокім узроўнем гравёрнага мастацтва (а менавіта — дрэварыту, медзярыту, лінарыту).

Сімвалізм агню — тэма твора С.Юдовіна ў экслібрысе віцебскага краязнаўцы І.Фурмана (1924). У яго аснове — клопат пра захаванне традыцый продкаў, адраджэнне культуры, найвышэйшае вызнанне веры. У кампазіцыю ўвайшло некалькі сімвалаў: агонь, паходня, расліны, аголеныя мужчына і жанчына з паходняй у руках — як сімвалы жыцця, жаданняў, святла, праўды, розуму і духоўнасці. "Несці паходню" — фразеалагізм, які азначае пачуццё любові. Паходня сімвалізуе таксама пераемнасць традыцый. Расліны з доўгім лісцем складаюць своеасаблівы арнаментальны ўзор, а кош, адкуль пачынаецца рост раслін, азначае ў міфалогіі надзею. Экслібрыс І.Фурмана, створаны тым жа аўтарам у 1928 г.,




уключае рытуальную арку з пераходам як сімвал заканчэння пэўнага этапа жыцця і пачатак новага. Скульптурная выява егіпецкага сфінкса — сімвал улады. На сцяне гістарычнай трыумфальнай аркі Пецярбурга — выява арханёла Гаўрыіла з кветкай лілеі — Божага пасланца Дабравесця. Мяркую, што ў гэтым творы С.Юдовін пасылаў прывітанне свайму сябру-мастацтвазнаўцу Івану Фурману, аўтару шэрага артыкулаў пра віцебскіх гравёраў. А ў сюжэт свайго паслання ён, напэўна, укладаў наступны сэнс: у Петраградзе пачалося новае мастацкае жыццё з новымі ідэямі і планамі.

Сувязі з невычэрпнай крыніцай нацыянальных ідэалаў шукаў Я.Мінін, скарыстаўшы для гэтага экслібрыс А.Шлюбскага (1926). Ён перадаў ідэю курганнага ўзвышэння як своеасаблівага "Алімпа", як найвышэйшай рады, дзе сабралася група народных музыкаў. Уваход у новы храм сімвалізуюць слупкі па абодвух баках у выглядзе дрэва і геаметрычных рысаў. У аўтаэкслібрысе, прысвечаным Віцебску, Я.Мінін выкарыстаў шмат сімвалаў. Скажам, кропка, прыкметная ў гэтай выяве — цэнтр і крыніца жыцця, — шырока выкарыстоўвалася ў містычнай літаратуры і вельмі блізкая да сучасных фізічнай і астранамічнай тэорый пра паходжанне Сусвету. Сімвалы птушкі і змея на жазле — эмблема асабістай улады альбо дару здзяйсняць прароцтвы, выносіць рашэнні, адганяць злых духаў і да т.п.. Птушка і змей — канфлікт паміж святлом і цемрай, духам і плоццю. Малюнак паўмесяца — сімвал пастаяннага адраджэння, а вобраз сокала (ястраба) — сонечны сімвал перамогі, дух... На малюнку, зробленым Я.Мініным для выдання пра віцебскіх гравёраў, прысутнічаюць вобразы-сімвалы міфалогій розных краін. Напрыклад, малюнак быка (сімвал улады), які набліжаецца да сімвалаў егіпецкай, іранскай рэлігій, міфалогіі Грэцыі і Рымскай імперыі, — сведчанне таго, што аўтар шчодра карыстаўся кніжнымі ве-




дамі. Вядома, што мастак Я.Мінін меў вялікую ўласную бібліятэку, якая пасля яго арышту і расстрэлу пад Віцебскам у 1937 годзе перайшла да мясцовых збіральнікаў.

Для бібліятэкі І.Цвікевіча мастак Г.Змудзінскі распрацаваў сюжэт на тэму навукі. На пярэднім плане — сімвалічная фігура багіні мудрасці Афіны з вянком на галаве. Адной рукой яна абапіраецца на чэрап, другая накіраваная ў бок маскі сфінкса. Чэрап трактуецца і як сімвал бессмяротнасці чалавека, і як сувязь паміж жывымі і памерлымі, як умяшчальня для пераўтварэнняў. Экслібрыс латвійскага мастака П.Галаўне для вядомага калекцыянера беларускіх выданняў В.Біржышкі скампанаваны з выявы чэрапа на разгорнутай кнізе, што, бясспрэчна, увасабляе інтэлект, духоўнае жыццё. У кампазіцыю ўведзены крыж, птушынае пяро. Цікава адзначыць, што В.Біржышка (разам з Я.Райнісам) актыўна ўдзельнічаў у рабоце латвійскага аддзела Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рызе.

Алегарычны знак скарпіёна, што абвівае торс Венеры Мілоскай у экслібрысе, створаным А.Тычынам у 1926 г. для М.Шчакаціхіна, — дамінанта сюжэта. Шмат чаго можна сказаць пра гэты сімвал, легенды ж сцвярджаюць, што скарпіён забівае сам сябе, інакш ён жыў бы вечна. А пытанне: "Скарпіён — гэта вораг?" застаецца адкрытым. Ірацыянальнае спалучэннне багіні і атрутнага драпежнага стварэння ў выяве — як сутыкненне паняццяў дабра і зла, прыгажосці і пачварнасці. Ёсць у экслібрысе намёк на Мінск: выява кабінета М.Шчакаціхіна, дзе праз фіранку праглядае знаёмы абрыс.

П.Гуткоўскі — аўтар экслібрысаў, зробленых для конкурсу знака Інбелкульта ў 1926 годзе. Адзін з іх уключае папяровы скрутак — эмблему старажытных ведаў, мудрасці, прароцтва. Другі — шчыт і сонечныя промні, новыя знакі часоў беларускага адраджэння. У сімволіцы экслібрысаў В.Залуцкага і В.Вольскага работы А.Тычыны прачыт-




ваецца ідэя збірання матэрыялаў пра старажытнае дойлідства, узоры народнага мастацтва, арнамент.

У экслібрысе мастака А.Грубэ да кніг А.Бараноўскага аўтар звярнуўся да вобраза ваяра-вершніка як чарадзейнага рыцара з дзідай, што "ідзе" на турэмныя краты падземнага свету, дзе знаходзіцца асуджаны раб. Вобраз вершніка пададзены дынамічна, як нябесная сіла, што ў аблоках рухаецца магутнай віхурай (воблакі — фізічнае і духоўнае абнаўленне). Пяць колаў паўтараюцца ў арбіце сонечнага дыска. Усё гэта сімвалізуе ідэю: "Толькі наперад!", і ваяр на белым кані здабудзе перамогу.

Графікі-"адраджэнцы" імкнуліся да своеасаблівага сімвалізму і ў галіне алфавіта, маючы на ўвазе выкарыстанне літар паводле прынцыпу падабенства з рознымі прадметамі. Гуткоўскі, Тычына, Ахола-Вало імкнуліся вывучаць сімволіку літар дзеля вызначэння сувязей, што ляжалі ў аснове іерогліфаў, свяшчэнных паданняў, касмагоніі. Вярнуць містычны бляск XVI ст., выкарыстоўваючы сімвалізм Скарынавай азбукі, — задача, якую ставілі перад сабой мінскія графікі-авангардысты. Цікавымі распрацоўкамі прываблiваюць экслібрысы А.Тычыны, дзе ў ніжняй часткі, нібыта арнамент на ручніках, змяшчаецца прозвішча бібліяфіла, пазначаны год, аўтар і г.д. Паводле задумы аўтара экслібрыс, як адроджаны з былых стагоддзяў від графічнага мастацтва, у новых гістарычных умовах уключае ў сябе цэлы свет, дзе сімвалы сусветнай міфалогіі ўваходзяць у кантэкст беларускай культуры. Выпрацоўваецца новы шрыфт, падобны да "скарынаўскага", што сведчыць пра зварот да глыбінных традыцый. Задачу стварэння новых графічных знакаў для сваёй сістэмы пад назвай "Эвахамалогія" ставіў А.Ахола-Вало, вынаходнік, які стварыў свой "ідэаграфічны слоўнік" для ўсталявання новых камунікатыўных сувязей. Яго табліца сістэмы знакаў уключала ў 1920-я гады каля пяці тысяч сімвалаў...

У 1930-х гадах, падчас барацьбы з нацыяналізмам, беларускія навука і мастацтва зведалі вялікія страты: былі расстраляныя М.Каспяровіч — першы даследчык беларускага экслібрыса, І.Цвікевіч — заснавальнік творчага аб'яднання "Прыхільнікі выяўленчага мастацтва"(1927), мастакі Я.Мінін, Г.Змудзінскі, браты Я. і С.Даркевічы. Рэпрэсіі не абмінулі першага беларускага мастацтвазнаўцу, старшыню Усебеларускага таварыства бібліяфілаў М.Шчакаціхіна, краязнаўцу А.Шлюбскага... У архівах КДБ знаходзяцца асабістыя справы многіх дзеячаў Інбелкульта.

Але не забываюцца рамантычныя 1920-я, калі мастакі крочылі поруч з тагачаснай беларускай навукай, якая займалася вывучэннем этнаграфіі, фальклору, матэрыяльнай і духоўнай культуры, прыроднымі з'явамі, узорамі пісьменства на кірыліцы, лацініцы ды іўрыце, і складалі свае непаўторныя міфы ў маленькім кніжным знаку. Народная творчасць, этнаграфія, міфалогія адыгралі ролю сапраўднай асновы для маштабнага творчага самасцвярджэння беларускага мастацтва.

Людміла НАЛІВАЙКА

На здымках: П.Гуткоўскі "З кніг ЦБК" (1926); Г.Змудзінскі "Экслібрыс І.Цвікевіча" (1927); Я.Мінін "З кніг А.Шлюбскага" (1926); А.Тычына "З кнігазбору М.Шчакаціхіна" (1926).

Фота аўтара

## Нотная паліца

Энцыклапедыя беларускай гітары можа не толькі зрабіцца настольнай кнігай музыканта пэўнай спецыялізацыі, але і знайсці для сябе пачэснае месца ў бібліятэцы кожнага нашага суайчынніка, які цікавіцца айчыннай культурай, яе повязямі з гістарычным мінулым. "Але ж такой энцыклапедыі няма!" — слушна заўважаць людзі дасведчаныя. Сапраўды: няма... Але можна і паспрачацца. Бо выдатны музыкант, артыст і кампазітар, педагог і даследчык Валерый Жывалеўскі, працуючы над кнігай, статус якой фармальна вызначаецца як вучэбны дапаможнік, стварыў сапраўдную энцыклапедыю жыцця гітары і яе старэйшай сваячкі лютні на абсягах Беларусі.

# Усё пра нашу гітару






Унікальнае выданне "Лютня і гітара на беларускіх землях" (Мінск, УА "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", 2008) трапна і ёміста характарызуе ва ўступным артыкуле Кірыла Успенскі — гітарыст, педагог, вучань В. Жывалеўскага. Прынамсі, нагадвае, што гадоў 20 таму айчынныя гітарысты жылі з непазбыўным адчуваннем свайго існавання на перыферыі, у глыбокай правінцыі адносна тэрыторый, дзе стваралася гітарная гісторыя. Іх рэпертуар амаль цалкам складалі іспана-лацінаамерыканскія творы з дадаткам п'ес савецкіх кампазітараў. Толькі пры канцы 1980-х "адчыніліся дзверы да неверагоднага аб'ёму гістарычнай інфармацыі, дзякуючы якой мы пачалі больш выразна бачыць магутную карнявую сістэму нашай нацыянальнай культуры". І першаадкрывальнікам спадчыннай беларускай гітарнай скарбонкі стаў В. Жывалеўскі. Дарэчы, сталыя чытачы "ЛіМа" — сведкі яго першых крокаў у гэтым напрамку: плённыя пошукі музыканта-даследчыка знаходзілі водгалас і ў яго публікацыях, і ў нататках пра сенсацыйныя на той час канцэртныя праграмы, якія адбываліся дзякуючы энтузіязму В. Жывалеўскага і яго спадзвіжнікаў. Падсумаваннем карпатлівых даследаванняў і назіранняў, вынікам вывучэння дакументаў, архіўных матэрыялаў і асэнсавання сучаснай педагагічнай і канцэртнай практыкі сталася гэтая праца, зробленая з навуковай грунтоўнасцю ў адмысловым жанры, аналагі якога знойдзеш, бадай, толькі ў музычнай творчасці. Кнігу чытаеш з асалодай і захапленнем. Два першыя раздзелы — бліскучыя эсэ (фрагменты друкаваліся некалі ў "ЛіМе") прадстаўляюць гісторыю бытавання лютні ды гітары на беларускіх землях у люстэрку літаратуры. Пазнаваўчымі гістарычнымі звесткамі ды імёнамі насычаныя раздзелы "Забытае аматарскае музіцыраванне" (гурткі, аркестры, вайсковая самадзейнасць, сямейнае музіцыраванне, беларускія цыганскія ансамблі ды інш.), "Ля вытокаў прафесійнай гітарнай адукацыі і выканальніцтва ў Беларусі". Вызначана роля гітары ў жыцці і творчасці беларускіх кампазітараў ("Ад вальса да "Гульні ў бісер"); паказаны нашы майстры па вырабе гітар і лютняў; асобна пададзены нарыс пра гітарыста Ваўжынца Жывалеўскага — аднафамільца аўтара і таленавітага суайчынніка з драматычным лёсам.

У кнізе — змястоўны іканаграфічны матэрыял ды ёмісты нотны дадатак: узоры беларускай лютневай і гітарнай музыкі ад старадаўнасці (В.Бакфарк, В. Длугарай, А. Сіхра, М. Сакалоўскі) да нашых дзён (Г. Гарэлава, А. Літвіноўскі, В. Войцік, В.Жывалеўскі).

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: вокладка кнігі, аздобленая эцюдам В. Пакаташкіна "Ліцвінскі краявід"; адна са шматлікіх ілюстрацый — малюнак М. Шагала для французскага гітарнага часопіса (1942).

# Лепшае — па версіі выдаўцоў

Літаральна ўсе выдавецтвы спяшаюцца адкрыць год новымі кнігамі. Ужо за першы месяц 2010 года паліцы кнігарняў папоўніліся самымі рознымі выданнямі. XVII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — выдатная нагода прадставіць чытачу апошнія літаратурныя набыткі. І не дзіўна, што тут можна будзе знайсці і тыя "гарачыя" навінкі, якія яшчэ нават не паступілі ў продаж, а прыйшлі адразу з друкарні на выставачныя стэнды. Але ўсё ж асноўнай экспазіцыяй і таварам выстаўкі-кірмашу стануць лепшыя кнігі, што выйшлі цягам мінулага года. Зусім нядаўна, напрыканцы 2009-га, прэса рабіла традыцыйныя літаратурныя падсумаванні: вызначаліся самыя папулярныя выданні сярод чытачоў, крытыкі складалі свае ўласныя рэйтынгі. Напярэдадні кніжнай выстаўкі-кірмашу мы вырашылі запытацца ў саміх выдаўцоў, якія кнігі з'яўляюцца іх гонарам і галоўным набыткам за мінулы год.

# Ідэй заўжды шмат

## Галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп падсумаваў дасягненні 2009 года:

— Мінулы год прайшоў для выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў творчым плане вельмі добра. Выдадзена 69 найменняў кніг (з іх 12 па "Школьнай бібліятэцы") тыражом больш як 300 000 экземпляраў. Калі меркаваць па тым, што ва ўсім свеце 2009 год характарызаваўся як крызісны, дык гэта нядрэнная лічба.

Амаль што кожны дзень да нас прыходзяць новыя аўтары, прапануюць новыя рукапісы, ідэі. У 2009 годзе было арганізавана і праведзена каля 250 прэзентацый кніг выдавецтва з удзелам аўтараў, а таксама літаратурных вечарын, чытацкіх канферэнцый у навучальных установах, музеях, кнігарнях.

Выдавецтва рэгулярна ўдзельнічае ў тыднях беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах рэспублікі. Выданні "Мастацкай літаратуры" ўдзельнічалі ў міжнародных выставах у Маскве, Франкфурце-на-Майне, Варшаве, Вільнюсе, Ашхабадзе, Адэсе, Кіеве, Екацярынбургу, у штогадовай Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, а таксама на Дні беларускага пісьменства ў Смаргоні.



Сярод лепшых выданняў можна адзначыць і кнігу з серыі "Мастакі Беларусі" — "Народжаны Палессем", прысвечаную Гаўрылу Вашчанку. Яна атрымалася надзвычай цікавая: чытаеш — і бачыш, адкуль гэты талент, як ён рос, мужнеў, як творча развіваўся. Вельмі шмат грунтоўнага і эксклюзіўнага матэрыялу змешчана ў кнізе.

Вылучаецца, безумоўна, і кніга Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок". Уладзімір Сцяпанавіч склаў яе на падставе кароценькіх і цікавых публікацый для часопіса "Вясёлка".

Цудоўная кніга казак Уладзіміра Караткевіча "Лебядзіны скіт". Непаўторная мова, дасканалы стыль, а таксама любоў і прага да жыцця, што нясуць з сабою героі казак пісьменніка, — усё гэта з першых радкоў захапляе і малых, і дарослых.

Яшчэ адно выданне, якое варта ўзгадаць, — "Я хацеў бы спаткацца з вамі…" Гэта мастацка-публіцыстычныя артыкулы пра Максіма Багдановіча. Над кнігай працавалі ўсе супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Яе можна назваць своеасаблівай прыступкай да кнігі, прысвечанай пісьменніку, якая рыхтуецца да выдання ў серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі".

У мінулым годзе мы выпусцілі шэраг адметных зборнікаў. Напрыклад, кніга "З Новым годам". У яе ўвайшлі вершы, песні, п'есы, казкі і загадкі беларускіх аўтараў, прысвечаныя самаму вясёламу і жаданаму для ўсіх святу, якое аднолькава любяць і дарослыя, і дзеці. Разам з гэтай кнігай у кожны дом нібы завітае Новы год. Зборнік вершаў і песень пра маці "Мама — сонейка маё…".

Што тычыцца 2010 года, то ў выдавецтва, як і заўсёды, вельмі шмат ідэй. Працягнем працу над літаратурным праектам "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" (ЖЗЛБ). У гэтай серыі ўжо выйшла больш як 10 кніг. Сёлета плануецца выдаць кнігу, прысвечаную жыццю і творчасці народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Гэта вялікае выданне (каля 35 аркушаў), будзе ўтрымліваць успаміны тых, хто ведаў пісьменніка. Плануем таксама выпусціць першыя тры тамы Поўнага збору твораў пісьменніка. Дадам, што мяркуем зрабіць перавыданне кнігі "Быў. Ёсць. Буду" з серыі ЖЗЛБ, прысвечанай Уладзіміру Караткевічу.

Запісаў
Уладзімір ПАДАЛЯК

# Ад старажытных часоў



**Больш за паўстагоддзя навуковая кніга з выдавецкай маркай "Вышэйшая школа" вытрымлівае паспяховую канкурэнцыю не толькі на кніжным рынку Беларусі, рынках краін садружнасці, але і за мяжой.**

Навуковыя і даведачныя выданні, серыі навукова-папулярных кніг, вытворча-практычныя дапаможнікі ў розных галінах ведаў знаходзяць сваіх спажыўцоў сярод эканамістаў і палітолагаў, мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў, медыкаў, хімікаў, матэматыкаў. Штогадовы аб'ём выданняў дасягае паўмільёна асобнікаў, кнігі "Вышэйшай школы" чакаюць больш як дзвесце сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Асаблівай увагі заслугоўваюць серыі, адрасаваныя абітурыентам: вучэбныя дапаможнікі такога кшталту ахопліваюць як тэарытычную базу многіх дысцыплін, так і практычны аспект прадметаў. Устойлівым попытам карыстаюцца дапаможнікі па замежных мовах, шырока зарэкамендавалі сябе серыі выданняў "Для вышэйшых навучальных устаноў", "Для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў" і "Для прафесійна-тэхнічнай адукацыі". Ужо два гады як "Вышэйшая школа" выдае арыгінальныя электронныя кнігі, мультымедыйнага выканання.

З кніг, прадстаўленых выдавецтвам на XVII Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш, хацелася б адзначыць "Гісторыю Беларусі. Ад старажытных часоў — па 2008 г." (укладальнікі Яўген Новік, Ігар Качалаў і Наталля Новік). У кнізе шырока асвятляюцца праблемы этнагенезу (паходжання) беларусаў, фарміравання нашай народнасці і нацыі, станаўлення беларускай дзяржаўнасці, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця беларускіх земляў у складзе старажытнай Русі, Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Асаблівая ўвага надаецца гісторыі савецкага перыяду, развіццю суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ



Яшчэ ў 1980 годзе выдавецтва "Беларусь" за значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, распаўсюджванне навуковых ведаў і ўмацаванне міжнацыянальных адносін было ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Заснаванае ў студзені 1921 года як Дзяржаўнае выдавецтва БССР, яно адным з першых пачало выдаваць творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага...

# Прэзентабельныя выданні пра Беларусь

Цяпер выдавецтва выпускае штогод каля сотні розных выданняў, сярод якіх — кнігі па гісторыі, краязнаўстве, культуры, мастацтве і архітэктуры, музыцы, эканоміцы, медыцыне і іншых галінах ведаў. Адзін з прыярытэтаў дзейнасці — выпуск альбомаў па выяўленчым мастацтве, выданне фотаальбомаў, у якіх паказваецца ўнікальная прырода Беларусі, яе гарады, славутыя сваёй гісторыяй і архітэктурнай спадчынай.

Павышаным чытацкім попытам карыстаюцца многія кнігі выдавецтва. Асабліва такія, як "Мірскі замак", "Замкі Беларусі", "Беларусь жывапісная", "Беларуская міфалогія", "Лёсы ў гісторыі", а такія выданні, як "Пад небам Беларусі", "Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва XV — XX стст.", "Полацк, які мы любім", "Гародня", "Віцебск", і цяпер упрыгожваюць нацыянальныя экспазіцыі на міжнародных выстаўках-кірмашах. Высокай адзнакай і дыпломамі рэспубліканскіх конкурсаў "Мастацтва кнігі" ўзнагароджваліся выдатна ілюстраваныя навукова-папулярныя выданні, якія знаёмяць чытачоў з помнікамі архітэктуры і мастацтва Беларусі: "Гродзенскі кафедральны сабор", "Камянецкая вежа", "Полацкі Сафійскі сабор", "Мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор", "Нясвіжскі касцёл".

Падчас правядзення кніжнай выстаўкі-кірмашу выдавецтва плануе правесці некалькі прэзентацый сваіх выданняў.

Асаблівай увагі сярод іх заслугоўвае знаёмства з «Белавежскім дзівам» (укладальнікі Ігар Бышнёў і Мікалай Чэркас). Гэта — прыгожы фотаальбом, які выдаваўся дзвюма асобнымі кнігамі з паралельнымі тэкстамі на беларускай і англійскай, на рускай і англійскай мовах. Пры падрыхтоўцы фотаальбома былі выкарыстаны дакументы і фотаздымкі многіх архіваў Беларусі і Расіі.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" на кніжнай выстаўцы-кірмашы ў Мінску прапануе чытачу шэраг грунтоўных выданняў па гісторыі і прыродзе Беларусі.

# Прыярытэт — гістарычнай тэматыцы

Галоўны рэдактар выдавецтва Уладзімір Саламаха найперш адзначае "Гісторыю беларускай кнігі. Том 1", якую напісаў доктар філалагічных навук Мікалай Нікалаеў. Двухтомнае выданне будзе ахопліваць перыяд ад з'яўлення першых рукапісных кніг да канца XX стагоддзя.

Энцыклапедыю "Гарады, мястэчкі і замкі Вялікага княства Літоўскага" можна лічыць працягам "літоўскай" тэматыкі, толькі ўжо іншага плана. Над стварэннем аб'ёмнага тома працаваў цэлы калектыў аўтараў у складзе пяцідзесяці чатырох чалавек. Гэта дазволіла найбольш поўна апісаць паселішчы ВКЛ: шляхі іх узнікнення, заняткі жыхароў, разбурэнні падчас войнаў.

З ВКЛ звязана ўвядзенне запаведнага рэжыму ў Белавежскай пушчы. 600-годдзе гэтай падзеі адзначалася ў 2009-м. Тады пабачыў свет фотаальбом "Зямля сілы. Белавежская пушча". Выданне цудоўна аздоблена. Асабліва звяртаюць на сябе ўвагу каліграфічныя тэксты. Але большая частка кнігі — гэта, зразумела, ілюстрацыі. Яны дазваляюць пагладзець не толькі на сучасны стан адной з самых старых пушчаў Еўропы, але і на пушчу стогадовай даўніны.

Кніга "Археалогія Беларусі" змяшчае навуковыя артыкулы, прысвечаныя матэрыяльным скарбам, знойдзеным падчас шматлікіх раскопак. Гэта і рэчы першабытных людзей на тэрыторыі Беларусі, і зброя. Энцыклапедыя будзе каштоўнай крыніцай інфармацыі як для навукоўцаў, так і для студэнтаў, якія толькі збіраюцца ў вучоны свет.

Выхад кнігі "Беларусь—Масква. Энцыклапедыя Перамогі" прымеркаваны адразу да некалькіх дат: 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі, 65-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і 75-годдзя зацвярджэння звання "Герой Савецкага Саюза". Пад адной вокладкай сабраныя нарысы пра партызанаў, падпольшчыкаў, баявыя аперацыі… Пакольскі выданне энцыклапедычнае, у ім друкуюцца біяграфіі Герояў Савецкага Саюза, што нарадзіліся ў Беларусі ці звязаныя з нашай краінай. Асобна пералічваюцца землякі, якія прымалі ўдзел у абароне Масквы.

Што да бліжэйшых планаў "БелЭН", то чакаецца выданне наступных тамоў "Гісторыі беларускай кнігі", "Археалогіі Беларусі", кнігі "Прырода Беларусі. Зямля і нетры". Але самым адметным, відаць, стане выхад трэцяга тома энцыклапедыі "Вялікае княства Літоўскае". Папярэднія тамы мелі вялікі попыт у кнігарнях. А першую кнігу нават давялося перавыдаваць.

Сяргей МАКАРЭВІЧ

**Як і ўсе нацыянальныя бібліятэкі свету, Нацыянальная бібліятэка Беларусі выконвае ўскладзеную на яе гістарычную місію. Менавіта ёй належыць мемарыяльная функцыя збору з максімальна магчымай паўнатой усіх дакументаў, выдадзеных на тэрыторыі нашай Айчыны з мэтай іх вечнага захоўвання як нацыянальнай памяці, а таксама функцыя стварэння і распаўсюджвання інфармацыі аб гэтых дакументах. Толькі фонд рукапісаў, старадрукаваных і рэдкіх выданняў НББ налічвае каля 80 тысяч адзінак захоўвання.**




# Захаванне і вяртанне — клопат пачэсны

Аднак існуе праблема фізічнага знішчэння помнікаў пісьменнасці і друку: незваротнае ўздзеянне часу, недаўгавечнасць матэрыялу, на якім былі створаны помнікі, нездавальняючыя ўмовы захоўвання, значны попыт на унікальныя дакументы, што захаваліся ў адзінкавых экземплярах (у выніку чаго інтарэсы захоўвання каштоўных фондаў супярэчаць з прынцыпам даступнасці), — усе гэтыя фактары садзейнічаюць пагаршэнню становішча каштоўных фондаў.

Агульнавядома таксама, што для Беларусі гістарычна склалася сітуацыя, калі значная частка нашай спадчыны захоўваецца за мяжой краіны. На жаль, сёння праблема фізічнага вяртання каштоўнасцей практычна амаль невырашальная, нягледзячы на тое, якім шляхам — законным ці не — была страчана тая ці іншая рэч ці калекцыя. Гэтаму шмат прычын, як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных: гістарычныя і палітычныя абставіны, адсутнасць неабходнай прававой базы, нежаданне некаторых цяперашніх уладальнікаў не тое, што весці перамовы, а наогул, па праве моцнага, адмаўляць нават у звестках, псіхалогія ўласніка, якая ўласціва амаль усім захавальнікам фондаў. Таму ў апошні час акцэнт робіцца на вяртанне ў іншым сэнсе — на ўвядзенне помнікаў у навуковы ўжытак, інфармаванне даследчыкаў, стварэнне электроннай інфармацыі і доступ да яе ўсіх ахвотных. Таму ў сучасных умовах найбольш эфектыўным, а ў большасці выпадкаў адзіным спосабам вяртання дакументальных помнікаў на Радзіму з'яўляецца выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій, што пазітыўна ўспрымаецца цяперашнімі ўладальнікамі.

Менавіта такі падыход выратавання на сусветным узроўні рукапісных і друкаваных выданняў, якія знаходзяцца пад найбольшай пагрозай страты, прадугледжвае Праграма "Памяць свету", да рэалізацыі якой у 1992 годзе прыступіла ЮНЕСКА. Дарэчы, у 2006 годзе ў нашай краіне была зацверджана аналагічная праграма "Памяць Беларусі", якая разглядаецца як нацыянальная частка Праграмы ЮНЕСКА "Памяць свету".

Удзельнікамі праграмы з'яўляюцца ўстановы культуры Беларусі, іншыя ўстановы і арганізацыі, якія захоўваюць дакументальную спадчыну. Нацыянальная бібліятэка Беларусі, якая прызначана вядучай арганізацыяй па ажыццяўленні Праграмы, распрацавала і працуе над рэалізацыяй шэрага праектаў, накіраваных на захаванне нацыянальнай культурнай спадчыны. Плённую падтрымку бібліятэцы аказвае ЮНЕСКА. Так, падтрыманы праект, накіраваны на захоўванне унікальнай культурнай спадчыны роду Радзівілаў. У выніку гэтай работы быў створаны прадстаўнічы CD-ROM "Нясвіж — культурны цэнтр Еўропы і нацыянальны помнік".

НББ вядзе работу над праектам "Radziviliana" — бібліяграфічнай рэканструкцыяй апошняга кніжнага збору роду. Рэалізацыя нацыянальнага праекта «Radziviliana» прывяла да разумення неабходнасці стварэння мегапраекта з удзелам краін, у якіх захоўваюцца фрагменты радзівілаўскай культурнай спадчыны. Вынікам праекта павінна стаць стварэнне зводнай электроннай базы даных і электронных паўнатэкставых копій і мультымедыйных CD-ROM.

Вынікам сумеснай працы з Нацыянальнай бібліятэкай Украіны імя У. І. Вярнадскага стала сапраўднае вяртанне на Радзіму знакамітага кнігазбору Храптовічаў са Шчорсаў. Рэалізацыя унікальнага праекта пры падтрымцы ЮНЕСКА дазволілі ўвесці ў навуковы і культурны ўжытак здавалася ўжо страчаныя для краіны каштоўнасці. Электроннае выданне «Кнігазбор роду Храптовічаў» прадстаўляе каталог з электроннымі копіямі тытульных лістоў, паўнатэкставыя копіі найбольш цікавых дакументаў, навуковыя артыкулы, прысвечаныя роду і бібліятэцы.

Наперадзе — планы па віртуальнай рэканструкцыі яшчэ некалькіх знакамітых бібліятэк: бібліятэкі Сапегаў, кнігазбору І. Х. Каладзеева з Нова-Барысава.

Значную дапамогу ў віртуальным вяртанні дакументальнай спадчыны аказвае нам Міністэрства замежных спраў. Дзякуючы пасрэдніцтву нашых пасольстваў у розных краінах мы атрымалі электронныя копіі каштоўных кніг і рукапісаў — «Слуцкага Евангелля» 1539 г., копію унікальнага экземпляра «Евангелля» Васіля Цяпінскага з Архангельскага абласнога музея і інш.

Рэалізацыя Праграмы «Памяць Беларусі» дазволіць стварыць нацыянальную электронную бібліятэку і вырашыць праблемы фізічнага захавання дакументальных помнікаў, увядзення беларускай спадчыны ў сусветны культурны і навуковы ўжытак, доступу да інфармацыі ўсіх жадаючых.

Людміла КІРУХІНА,
намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі








# Гісторыя ў старадруках

**Адной з самых цікавых падзей кніжнай выстаўкі-кірмашу стане прэзентацыя даўно чаканай кнігі загадчыка аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі доктара філалагічных навук Мікалая Віктаравіча Нікалаева "Кніжная культура Вялікага княства Літоўскага". Кніга, якая рыхтавалася да друку 8 гадоў і пасля яшчэ 9 чакала свайго часу, пабачыла свет напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".**



"Кніжная культура Вялікага княства Літоўскага" — гэта першы том энцыклапедычнага выдавецкага праекта. Ужо цяпер вядзецца праца над другім томам — "Гісторыя беларускай кнігі ў XIX—XXI стагоддзях", аўтары якога — супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і выкладчыкі мінскіх ВНУ — ахопяць гісторыю беларускага кнігавыдання ад часоў царскай Расіі да перыяду Савецкай Беларусі. Другі том выйдзе пад рэдакцыяй Мікалая Віктаравіча, зараз ён удзельнічае ў рэдагаванні тэкстаў і падрыхтоўцы ілюстрацый. "У Беларусі да гэтага часу не было такога аб'ёмнага выдання, існуе толькі невялічкая (хаця і добрая) кніга Наталлі Бярозкінай "Гісторыя беларускага кнігадрукавання", — адзначае Мікалай Віктаравіч. — А гэта больш шырокі, агульнанацыянальны праект, з якога беларусы змогуць даведацца практычна ўсё пра сваю кніжную спадчыну."

Новая кніга мае прынцыпова новую канцэпцыю, якая адрознівае яе ад папярэдніх выданняў. "Вацлаў Ластоўскі следам за Яўхімам Карскім пры выданні сваіх вядомых прац улічвалі толькі кірылічныя тэксты. Я лічу гэта несправядлівым ігнараваннем гістарычнага кантэксту і таму ўключыў у кнігу выданні і на польскай, і лацінскай, і літоўскай, і яўрэйскай мовах. Такім чынам, крытэрыем адбору выступала не мова кнігі, а яе рэпертуар. Мне такі падыход і сёння падаецца актуальным, паколькі цяпер мы таксама не можам абмяжоўваць беларускае кнігавыданне толькі беларускамоўнымі кнігамі, інакш карціна будзе няпоўнай. Я намагаўся вытрымліваць, так бы мовіць, моўную прапорцыю, бо гісторыя кнігадрукавання — гэта гісторыя кампрамісаў. Разам з тым, у маёй кнізе прысутнічае палеміка з некаторымі замежнымі выданнямі, якія такой моўнай прапорцыі не ўлічваюць і, у сваю чаргу, у гісторыю кнігадрукавання Вялікага княства Літоўскага не ўключаюць кірылічныя выданні. Ёсць і яшчэ адзін прынцыповы момант. Беларусы амаль ніколі не змагаліся за свае помнікі, і таму многія беларускія кніжныя каштоўнасці часта залічваюцца да бязлікага "агульнарускага кніжнага фонду". Я апісваю і такія выданні, даказваючы іх прыналежнасць да беларускай культуры. Акрамя гэтага, падкрэсліваю унікальную з'яву, пра якую часта забываюць: у гэтай кнізе вядзецца гаворка пра кніжную спадчыну, спадкаемцам якой сёння лічаць сябе некалькі суседніх дзяржаў", — падкрэслівае аўтар.

Кніга ўтрымлівае больш за 300 ілюстрацый і шэраг анатацый на розных мовах — еўрапейскіх, японскай, кітайскай, што таксама павышае аўтарытэт гэтага выдання ў вачах сусветнай супольнасці. Мікалай Віктаравіч перакананы, што выдавецкі праект "Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі" стане новым штуршком вывучэння і спробаў зразумець мінулае і сучаснасць беларускай культуры.

Жанна ЗАПАРТЫКА



Кніжная галіна — па-свойму унікальная. З аднаго боку яна — частка нашай эканомікі. Яе прадстаўляюць выдавецтвы, друкарні і прадпрыемствы-распаўсюджвальнікі друкаванай прадукцыі. Усе яны функцыянуюць, падпарадкоўваючыся эканамічным законам.

Але кніга вельмі важкі фактар фарміравання культурных, духоўна-маральных прыярытэтаў грамадства. Якія яны? У XXI стагоддзі зменшыліся тыражы, але павялічылася колькасць найменняў выдаваемых кніг. Для грамадзян створана магчымасць удумлівага выбару літаратуры для чытання. Што прапануюць выдавецтвы? Якія навінкі прадставяць на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы? "ЛіМ" запрасіў у сваю гасцёўню прадстаўнікоў розных выдавецкіх структур.




# На кірмаш едзем з бестселерам

Дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух знаёміць з кнігамі, якія будуць прадстаўлены на XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. І распавядае пра найбольш значныя праекты 2010 года.

У межах кірмашу выдавецтва запланавала правесці дзве прэзентацыі. Улічваючы, што сёлета ганаровым госцем з'яўляецца Францыя, адно з выданняў — гэта пераклад кнігі французскага аўтара Брыжыт Буціён-Дзюма "Памяць адчуванняў" (перакладчык А. Валадось). Кніга напісана пра фартэпіянную тэхніку, але гэта не дапаможнік, у якім суха і па пунктах падаюцца асновы ігры на інструменце. Аўтар аналізуе нават псіхічны стан піяніста падчас выканання, спрабуе патлумачыць, адкуль узнікае хваляванне, страх і як можна гэтага пазбавіцца.

На прэзентацыі, на жаль, не будзе ні аўтара, ні перакладчыка. Затое прыме ўдзел рэдактар кнігі, кандыдат мастацтвазнаўства Святлана Немагай. А граць і спяваць французскія песні будуць прафесар Васіль Глыбачэнка і студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Цяпер выдавецтва працуе над даведнікам пра сучасных франкафонных пісьменнікаў, рыхтуецца яго пераклад на рускую мову. На стале ў Ліліяны Фёдараўны ляжыць рукапіс Уладзіміра Шчаснага. Сваю кнігу ён прысвяціў мастакам "парыжскай школы" з Беларусі. Гэта Суцін, Шагал, Бакст, Хадасевіч-Лежэ... Аўтар акрамя цікавых аповедаў, грунтоўных бібліяграфій, зрабіў і даведнік, прачытаўшы які, без асаблівых цяжкасцей можна прайсці па Парыжы па мясцінах, звязаных з мастакамі-беларусамі.

На другой прэзентацыі выдавецтва прадставіць зборнік вершаў Андрэя Шаціліна "Троецарствие". Чакаецца, што прыедзе і сам аўтар. Колішні выпускнік філасофскага факультэта БДУ сёння жыве ва Украіне. "Яго таленавітыя творы кранаюць душу і сэрца сваёй чысцінёй, дабрынёй і ўзнёсласцю", — адзначае дырэктар выдавецтва.

Што тычыцца мастацкай літаратуры, то выдавецтва "Чатыры чвэрці" паспрабавала выйсці на выданне жаночага рамана. Людміла Марцін, Вольга Маслюкова... Але самым удалым праектам за мінулы год Ліліяна Анцух лічыць кнігу прозы Ніны Фёдаравай "Сям'я". Гэта сапраўдны бестселер. Аўтар апісала сітуацыю, у якую яна трапіла разам з бацькамі ў 1930-я гады ў Кітаі. Сям'я выжыла ў складаных умовах толькі дзякуючы таму, што хрысціянскія ісціны заўсёды былі ў аснове узаемаадносін і ўнутры асобна ўзятай сям'і. Гэта прыклад і для сённяшняга грамадства, у якога зусім іншыя каштоўнасці. Беларускі выдавец праілюстраваў кнігу рэпрадукцыямі карцін сусветна вядомых мастакоў Вінсента ван Гога, Каміля Каро, якія трапна адлюстроўваюць вобразы герояў.

"Сёлета выйдзе кніга-альбом пра народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага "Рамантык суровага стылю". Адновім выданне кнігі "Нашы духоўныя каштоўнасці", за якую мы ў свой час сталі лаўрэатамі прэміі "За духоўнае адраджэнне". І на чарзе кніга-альбом "Праваслаўныя святыя зямлі беларускай", — дзеліцца планамі на гэты год Ліліяна Фёдараўна. — Але гэтыя выданні пабачаць свет ужо пасля заканчэння кірмашу".

Павел РАДЫНА
На здымку: Ліліяна Анцух.

Да XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу "Выдавецкі дом "Беларуская навука" падрыхтаваў прэзентацыі шэрага цікавых кніг. Пра іх расказвае галоўны рэдактар Георгій Кісялёў:

# ...І новы слоўнік

— "Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы" — кніга Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зімінай адрасавана тым, хто цікавіцца народнымі традыцыямі вышыўкі, ды, магчыма, захоча сваімі рукамі стварыць нацыянальны касцюм па старадаўніх тэхналогіях. Дызайнерам выданне падкажа новыя ідэі ва ўпрыгожванні і аздабленні сучаснага адзення і дэкаратыўнага тэкстылю, а музейшчыкам паслужыць у якасці даведніка па тэхніцы вышыўкі.

Завершаны выпуск 4-томнага выдання ў 6-і кнігах: "Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце", у якім ахопліваецца перыяд з IX па XXI стст. У снежні выйшла апошняя кніга чацвёртага тома "Беларускае народнае дойлідства"; у гэтым жа выданні выйшаў 4-ы том (кніга другая) "Архітэктура XX пачатку XXI ст.". Грунтоўнае даследаванне з ілюстрацыямі прысвечана архітэктуры Беларусі. Аналіз архітэктуры праведзены ў шырокім еўрапейскім і сусветным кантэксце, на фоне глабальных тэндэнцый урбанізацыі і дэзурбанізацыі.

"Беларускі арфаграфічны слоўнік" пабачыў свет пад рэдакцыяй Аляксандра Лукашанца, аб'ёмам каля сямісот старонак. Новы беларускі арфаграфічны слоўнік грунтуецца на правілах, якія ўводзяцца ў дзеянне Законам Рэспублікі Беларусь "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", прынятым у 2008 годзе.

"Беларускія Александрыя, Троя, Трышчан…": перакладная белетрыстыка Беларусі XV — XVII стст.". Вандроўныя сюжэты гістарычнай белетрыстыкі і рыцарскага рамана (XV — XVII стст.) не маглі не заблукаць з Заходняй Еўропы і ў Беларусь, дзе на іх аснове ствараліся беларускія варыянты шырокавядомых твораў, якімі зачытвалася тагачаснае адукаванае грамадства. Дзякуючы гэтай кнізе цяпер з імі можа пазнаёміцца кожны чытач.

Усяго "Выдавецкі дом "Беларуская навука" плануе экспаніраваць на выстаўцы-кірмашы каля 150 найменняў кніг, выдадзеных у 2008 — 2009 гг., у тым ліку тры тамы (7, 8 і 9) 13-томнага збору твораў Максіма Танка і чатыры тамы (6, 7, 8 і 9) 20-томнага збору твораў Якуба Коласа.

Запісаў
Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# 550 000 экземпляраў — нядрэнны вынік!

Расказвае дырэктар «Выдавецкага цэнтра БДУ» Андрэй Карпіловіч:

— 2009 год прайшоў для "Выдавецкага цэнтра БДУ" вельмі плённа і прадуктыўна. Вынікі атрымаліся значна лепшымі, чым летась. За 2009 год выдадзена 234 найменні кніг агульным тыражом каля 550 000 экземпляраў.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Выдавецкі цэнтр БДУ" — адно са структурных падраздзяленняў галоўнай ВНУ краіны — Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сёння яно з'яўляецца выдавецка-паліграфічным прадпрыемствам, дзе працуюць спецыялісты высокага прафесійнага ўзроўню. У асноўным "Выдавецкі цэнтр БДУ" спецыялізуецца на выданні вучэбнай, метадычнай літаратуры для вышэйшай школы, навуковай, навукова-папулярнай і даведачнай літаратуры, а таксама выдае па заказе Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь вучэбныя дапаможнікі для агульнаадукацыйных устаноў краіны. Аўтары кніг — высокакваліфікаваныя выкладчыкі БДУ і рэгіянальных універсітэтаў.

Выданні "Выдавецкага цэнтра БДУ" неаднаразова ўзнагароджваліся дыпломамі на рэспубліканскім конкурсе "Мастацтва кнігі". У 2008 годзе выдавецтва ўпершыню прыняло ўдзел у VI агульнарасійскім конкурсе "Універсітэцкая кніга", дзе стала пераможцам у намінацыі "Лепшае вучэбнае выданне па гуманітарных навуках".

У 2009 годзе падрыхтаваны вучэбныя дапаможнікі для 6-га і 11-га класаў па гісторыі Беларусі і для 11-га класа па сусветнай гісторыі. Дарэчы, пабачыла свет і перавыданне вучэбнага дапаможніка "Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)" для школ з беларускай і рускай мовамі навучання агульным тыражом больш як 50 000 экземпляраў. Таксама перавыдадзены і даведнік па гісторыі Другой сусветнай вайны. Тут у кароткай і зручнай форме прадстаўлены багаты фактычны матэрыял, добра адлюстраваны ход ваенных дзеянняў. Трэба адзначыць, што сярод краін СНД такой пільнай увагай да вывучэння гісторыі Вялікай Айчыннай вайны вызначаюцца толькі беларускія падручнікі.




Адным з лепшых выданняў за мінулы год смела можна лічыць кнігу "Губернатары Мінска". У ёй змястоўна прадстаўлена гісторыя нашай сталіцы, добра адлюстраваны маловядомыя факты пра мінскіх губернатараў.

Як паведаміла карэспандэнту "ЛіМа" галоўны рэдактар "Выдавецкага цэнтра БДУ" Таццяна Янчук, вялікую папулярнасць атрымаў кітайска-беларуска-рускі размоўнік "Кітайска-беларускі бізнес-дыялог". Унікальнасць выдання ў тым, што ўпершыню на постсавецкай прасторы размоўнік суправаджаецца практычнай беларуска-моўнай кірылічнай транскрыпцыяй, якая найбольш дакладна перадае вымаўленне кітайскіх слоў. З такім "памочнікам" і сапраўды не страшна ехаць у Кітай, не ведаючы мовы.

Вылучаецца сваёй арыгінальнасцю і кніга Таццяны Шамякінай "Традыцыйны кітайскі каляндар і славянскія міфалагічныя паралелі". Яна складаецца з 12 нарысаў, аб'яднаных тэмай усходняга народнага календара. У кожным з іх расказваецца аб звярах-сімвалах, прасочваецца своеасаблівая паралель са славянскімі міфамі.

На XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы будзе прадстаўлена каля 200 розных кніг выдавецтва. Дарэчы, адбудуцца і дзве прэзентацыі: 10 лютага — вучэбнага дапаможніка "Кіраванне зменнямі", а 12 лютага — кнігі "Педагагічныя ігратэхнікі. Скарбонка метадаў і практыкаванняў".

Уладзімір ПАДАЛЯК

# Дружба літаратур

Саюз пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" сёлета на XVII Мінскім міжнародным кніжным кірмашы прадстаўляюць выданні, якія адкрываюць шырокую палітру сучаснай беларускай паэзіі і прозы. Так, РВУ «Літаратура і Мастацтва» прадставіць серыю «Лімаўскі фальварак», якая выходзіць у свет з 2007 года.



У тым ліку кнігі членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандра Валковіча "Береза черная, береза белая...", Анатоля Казлова "Горад у нябёсах". Чытачы змогуць азнаёміцца з праектамі, запланаванымі да выдання ў 2010 годзе: дакументальная аповесць Анатоля Сульянава "Василь Быков. Комбат. Писатель. Друг.", "Здані Гарадніцы" Ягора Конева, гістарычныя мініяцюры Алеся Кажадуба "Русь и Литва", з серыі гістарычнага рамана — "Князь Мстиславский" Алега Ждана, "Назаві сына Канстанцінам" Леаніда Дайнекі ды іншыя.

Падчас кніжнага форуму будзе праводзіцца міжнародны "круглы стол", прысвечаны стасункам беларускіх пісьменнікаў з пісьменнікамі і літаратарамі іншых краін пад назвай "Мастацкае слова — шлях да ўзаемаразумення". Пасяджэнне арганізавана Міністэрствам інфармацыі краіны, Саюзам пісьменнікаў Беларусі і РВУ "Літаратура і Мастацтва". У ім возьмуць удзел пісьменнікі з Францыі, Беларусі, Таджыкістана, Латвіі, Літвы, Украіны, Расіі.

У рамках мерапрыемства плануецца прэзентацыя 4 кніг беларускіх аўтараў на таджыкскай мове. У прыватнасці, кніга вершаў Юрыя Сапажкова "Точка невозврата", якую пераклаў вядомы таджыкскі паэт і перакладчык Зіё Абдуло, выдадзеная ў выдавецтве "Ірфон". Будзе прэзентавана новая кніга вершаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколы Мятліцкага "Бессмертник". Нашага творцу перакладалі лаўрэат дзяржаўнай прэміі Таджыкістана Нізом Косім, лаўрэат прэміі імя Турсунзадэ Ато Мірхаджа і вядомы паэт Адзіна Мірак. Наведвальнікі ўбачаць таксама дэтэктыўны раман Сяргея Трахімёнка з бібліятэкі сусветнай літаратуры "Записки черного полковника", калектыўны зборнік сучаснай беларускай літаратуры на таджыкскай мове пад назвай "Гасцінец". У ім — творы Мікалая Чаргінца, Сяргея Трахімёнка, Георгія Марчука, Наталлі Пархімовіч, Алеся Карлюкевіча, Марыі Рудовіч. У Таджыкістане выдадзены таксама кнігі паэзіі і прозы беларускіх літаратараў пад назвай "Вечерний костер", кнігі Георгія Марчука "Голоса и слова", Алеся Карлюкевіча "Сказка дедушки Алеся".

Яшчэ адно мерапрыемства — падчас выставачных дзён будуць прэзентаваны беларуска-расійскія выпускі часопісаў "Нёман" і "Наш современник", выдадзеныя пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы. Такія прэзентацыі — штогадовыя, яны добра вядомыя беларускаму аматару прыгожага пісьменства. Традыцыйна часопіс "Наш современник" прысвячае беларускай літаратуры свой дванаццаты нумар. Расійскаму чытачу прапануюць сваё мастацкае слова беларускія аўтары Раіса Баравікова, Сяргей Трахімёнак, Андрэй Скарынкін, Уладзімір Навумовіч. Літаратурныя сустрэчы маюць адбыцца на Янкі Купалы, 27, (у Нацыянальным выставачным цэнтры БелЭКСПА) і ў Доме дружбы. Плануецца ўдзел у прэзентацыях расійскіх пісьменнікаў — членаў Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Запрошаны Сяргей Куняеў, Аляксандр Казінцаў.

Акрамя таго, чакаюцца аўтограф-сесіі з прадастаўленнем кніг, выдадзеных у РВУ "Літаратура і Мастацтва" — "Огни на воде" Любові Турбіной, Алеся Марціновіча "Исповедь старых замков", Сяргея Давідовіча "Зямлі светлая памяць", Івана Ярашэвіча "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах".

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

# Завітайце на сямейны дзень!

Выдавецтва "Харвест" з'яўляецца буйнейшым вытворцам друкаванай прадукцыі на тэрыторыі Беларусі, а таксама ўваходзіць у склад расійскай выдавецкай групы "АСТ". Пра кніжныя праекты выдавецтваў "АСТ" і "Харвест" і яго ўдзел у выставе-кірмашы чытачоў знаёміць начальнік аддзела рэалізацыі выдавецтва Алена Бобр.

"Плошча на выставе ў нас невялікая, а кніг шмат. Таму будзем выстаўляць толькі самае лепшае", — кажа Алена Міхайлаўна. Найперш гэта падарункавыя дарагія выданні — энцыклапедыі, дзіцячыя і дарослыя, даведнікі, кнігі па гісторыі, па ваеннай тэматыцы, даведнікі. Будзе прадстаўлены вялікі асартымент дзіцячай літаратуры, бо яна заўжды запатрабаваная. Ёсць нават людзі, якія мэтанакіравана прыходзяць на выставу-кірмаш, каб пазнаёміцца з цікавымі і маляўнічымі выданнямі. Безумоўна, будуць і навінкі, выдадзеныя за апошнія два месяцы, а таксама выданні, што маюць попыт ва ўсім свеце. Цяпер у выдавецтве "АСТ" выйшаў пераклад кнігі амерыканскага пісьменніка Дэна Браўна "Страчаны сімвал", вялікі наклад друкаваўся ў нас, у Беларусі. Кніга выклікала вялікую цікавасць у чытача. На кірмашы, між іншым, будуць прысутнічаць усе кнігі гэтага аўтара, якія выйшлі ў нашай краіне.

"Мы робім маленькія кнігі кішэннага фармату. Яны добра разыходзяцца ў якасці падарункаў, хоць і зусім не танныя", — дзеліцца Алена Бобр.

Што тычыцца непасрэдна прэзентацый на выставе-кірмашы, то тут выдавецтва падрыхтавала цэлую праграму. Ні дня без свята, без сустрэчы з аўтарам. Адразу пасля ўрачыстага адкрыцця 10 лютага, на стэндзе выдавецтва пройдзе майстар-клас, падчас якога спецыялісты будуць ствараць макеты кніг. Можна будзе паназіраць за гэтым працэсам, а калі пашанцуе, то і самому да яго спрычыніцца.

Два дні на стэндзе выдавецтва будзе выступаць расійскі пісьменнік Міхаіл Велер. Ён будзе ў Мінску на выставе-кірмашы 10 і 12 лютага. А 11 лютага пісьменнік выступіць у адным з універсітэтаў Мінска, перад супрацоўнікамі "Паліграфкамбіната імя Якуба Коласа", а таксама ў кнігарні "Светач". Там, зразумела, можна будзе пазнаёміцца і з яго кнігамі.

Варта адзначыць сумесны праект выдавецтва і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Заснаваная кніжная серыя, у якой выходзяць творы членаў гэтай арганізацыі, займела вялікі попыт. Што да беларускіх аўтараў, то запрошаны Уладзімір Кулічэнка, Міхаіл Дзеравянка, Аркадзь Груздаў. Гэта празаікі, чые кнігі выйшлі ў новай серыі "Беларуская сучасная фантастыка". Сярод іншых кніг і аўтараў серыі – "Рызыкоўная гульня" Мікалая Чаргінца, "Здабыццё мінулага" Наталлі Новаш, "Скажэнне" Сяргея Цыханскага. Некаторыя з гэтых кніг мы выдавалі асобным накладам для рынку Расіі.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца дзіцячая літаратура, 13 лютага выдавецтва арганізоўвае сямейны дзень. Для самых маленькіх чытачоў рыхтуецца адмысловая праграма з рознымі забавамі, конкурсамі і, вядома ж, падарункамі.

Дзмітрый БЕРАЖНЫ



На здымку: Алена Бобр.

## Кніжніца

### Сабраць выдавецкія цэнтры

Выдавецка-паліграфічны цэнтр Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта ўдзельнічае ў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы другі год. З сучаснаю назваю выдавецкая структура існуе пяць гадоў, а стаж свой адлічвае з 1967 года, калі ў ВНУ быў створаны выдавецкі аддзел. Традыцыі і досвед у цэнтра — багатыя, штогод тут выдаецца каля 200 найменняў кніг! Аўтары досыць актыўна пішуць, у асноўным — кнігі для забеспячэння вучэбна-выхаваўчага працэсу ва ўніверсітэце. Адсюль невялікія наклады — 200, 350 асобнікаў.

На кірмашы 2010 года выдавецка-паліграфічны цэнтр арганізуе прэзентацыі трох сваіх выданняў: манаграфію і два вучэбныя дапаможнікі, якія маюць грыф Міністэрства адукацыі краіны. Аўтары дапаможніка "Предпринимательство и бизнес-планирование" — дацэнт кафедры інавацыйнай эканомікі і педагогікі, кандыдат эканамічных навук Г. М. Налівайка мае больш як 30 навуковых і метадычных прац у галіне менеджменту і маркетынгу і дацэнт гэтай жа кафедры, кандыдат тэхнічных навук І. М. Фурс, на рахунку якога 120 друкаваных прац, у тым ліку дзве манаграфіі, 8 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. У названай кнізе навукоўцы разглядаюць асновы прадпрымальніцкай дзейнасці, а таксама эканамічныя ды метадалагічныя аспекты распрацоўкі бізнес-планаў, асноўныя прычыны страт паліўна-энергетычных рэсурсаў у АПК.

Вучэбны дапаможнік "Диагностика и техническое обслуживание машин для сельского хозяйства" ( пад агульнай рэдакцыяй кандыдата тэхнічных навук, дацэнта А.Новікава) можа быць выкарыстаны спецыялістамі прадпрыемстваў рамонту і тэхнічнага абслугоўвання сельскагаспадарчай тэхнікі, а таксама спецыялістамі гаспадарак, якія эксплуатуюць тэхніку.

Трэцяя кніга — манаграфія загадчыцы кафедры псіхалогіі і педагогікі Т. Ю. Шлыкавай "Осознание подростками причин успехов и неудач" — знаёміць з праблемамі самасвядомасці падлеткаў і адрасуецца вучоным, спецыялістам сістэмы адукацыі, а таксама тым, хто сутыкаецца з праблемамі падлеткавага ўзросту.

Вопыт удзелу ў іншых міжнародных кніжных кірмашах сведчыць: менавіта вучэбная і вучэбна-метадычная беларуская кніга досыць запатрабаваная па-за межамі Беларусі. Начальнік выдавецка-паліграфічнага цэнтра БДАТУ Уладзімір Лістрацэнка пацвярджае: расійскія выдавецтвы выходзілі з прапановамі аб супрацоўніцтве, цяпер прапрацоўваецца пытанне аб рэалізацыі кніг у суседняй краіне.

У выдавецка-паліграфічным цэнтры яшчэ выдаецца часопіс "Агропанорама" (на два месяцы раз) і газета "Агроинженер" (два разы на месяц). Цэнтр мае два кіёскі. Не так даўно набылі сабе лічбавую поўнаколерную машыну — для выпуску рознай друкаванай прадукцыі.

"Ёсць жаданне, — гаворыць Уладзімір Аляксеевіч, — сабраць разам усе выдавецкія цэнтры ВНУ, каб абмяняцца карысным досведам, назапашаным установамі за гады сваёй дзейнасці, і планамі выданняў. Гэта, зрэшты, дазволіла б павялічыць тыражы вучэбна-метадычнай літаратуры, зрабіць іх больш даступнымі для студэнтаў і выкладчыкаў".

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

### Прызнанне і ўзнагароды

Да 65-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Магілёве выйшла з друку кніга нарысаў пісьменніка Аляксандра Балдоўскага "Ветераны. Победили врага и разруху". Яе выданне было ажыццёўлена за сродкі вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Крычаўцэментшыфер". Кніга пра землякоў, якія мужна змагаліся за вызваленне і пасляваеннае адраджэнне Крычаўшчыны, адразу знайшла сваіх удзячных чытачоў. Крычаўскі райвыканкам выдзеліў нават сродкі для друкавання дадатковага тыражу гэтага навукова-папулярнага выдання, увесь ён быў размеркаваны па бібліятэках і працоўных калектывах раёна.

За важкі ўклад у героіка-патрыятычнае выхаванне крачаўлян і ўвекавечанне памяці воінаў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, аўтар кнігі ўзнагароджаны Ганаровай граматай Крычаўскага раённага выканаўчага камітэта. Яму таксама ўручаны знак "За заслугі ў ветэранскім руху" Расійскага камітэта ветэранаў вайны і ваеннай службы.

Уладзімір ДУКТАЎ

№ 5 5 лютага 2010 г.



Графіка Генадзя Грака







# Красамоўства лінарыту

Зімовым вечарам, зняўшы з паліцы стос кніжак, гартаю іх пры святле настольнай лямпы, засяродзіўшыся на прозвішчах мастакоў, якія афармлялі гэтыя добра знаёмыя выданні. “Вянок беларускіх народных песень” у запісе У.Рагойша з кантрапунктам графічных мелодый У. Вішнеўскага; зборнічак навел А. Маруа, перакладзеных Ю.Гаўруком, з адмысловым россыпам буквіц-мініяцюр А. Кашкурэвіча; “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” У. Караткевіча з ілюстрацыямі Г. Грака...





Углядаюся ў сакавітыя чорна-белыя выявы на ўклейках самага, бадай, дзівоснага з Караткевічавых раманаў, выдадзенага без малога чатыры дзесяцігоддзі таму. І ўпершыню задумваюся пра тое, што мастаку Генадзю Граку пашчасціла быць сярод першых чытачоў рукапісу нашага вялікага пісьменніка і асэнсоўваць таемнасць філасофіі, поліфанічную сімволіку яго прозы праз вобразы кніжнай графікі.

І прозу, і паэзію Генадзь Сцяпанавіч чытае ўдумліва і творча. Удумліва і творча ён “учытваецца” ў стан прыроды, у краявіды роднага горада, у парадак рэчаў вакол сябе. І ў псіхалогію навакольных людзей. Ці не ў гэтым пераканала персанальная выстаўка Г. Грака, што ладзілася летась у сталічным Палацы мастацтва? У шматлікіх і разнастайных работах майстра, прадстаўленых там, адлюстравалася мастацкая універсальнасць “мовы” лінарыту. Прыцягвалі позірк ілюстрацыі да паэзіі Максіма Багдановіча і зборніка беларускіх народных замоваў, станковая графіка (лаканічныя нацюрморты, архітэктурныя пейзажы, кампазіцыі на тэмы мінулай вайны) і, вядома ж, — экслібрысы: мініяцюры паводле “Слова пра паход Ігаравы”, з Пушкініяны, ясенінскай серыі, афарыстычныя і дасціпныя характарыстыкі ўладальнікаў кніжных знакаў...

Між тым, старая класічная тэхніка лінагравюры, у якой працуе Генадзь Грак, вымагае ювелірнай адточанасці штрыха. Мяккі лінолеум не заўсёды дазваляе дамагчыся рэзкай, бездакорнай дакладнасці ліній, і мастаку трэба выбраць той адзіны аптымальны варыянт малюнка, праз які дасягаецца пэўная вобразнасць і асаблівая пластычная выразнасць графічнай выявы. Адметна, што Г. Грак, які пару гадоў таму ўжо разменяў восьмы дзесятак, асвоіў тэхніку камп’ютэрнай графікі, якую спалучае са сваёй традыцыйнай. Нездарма падчас вернісажа, сярод гасцей якога былі калегі ды вучні Генадзя Сцяпанавіча, прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, заўзятыя бібліяфілы ды збіральнікі кніжных знакаў, хтосьці прачытаў вясёлую эпіграму, прысвечаную Граку, які “працуе без браку”. Гумар гумарам, а для мастака, які займаецца эстампам і мае справу з паліграфіяй, гэта сур’ёзны прафесійны камплімент. І ўжо без аніякіх жартаў прагучала тады параўнанне творчасці Г. Грака са справаю Дзмітрыя Бісці, віцэ-прэзідэнта Акадэміі мастацтваў СССР, знанага расійскага мастака кнігі, спадкаемцы традыцый У. Фаворскага.



Зрэшты, Г. Грак прайшоў сваю, айчынную школу выяўленчага мастацтва (яму пашчасціла вучыцца ў А. Кашкурэвіча, Л. Асецкага, С. Геруса, С. Каткова, П. Любамудрава, А. Малішэўскага) і вызначыўся як аўтар непаўторных акварэляў, графічных аркушаў (напрыклад,серыі “Па гарадах Беларусі”, “Лагойскі край”) і мініяцюр, кніжных ілюстрацый. Яго работы экспанаваліся ў Англіі, Балгарыі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Інданезіі, Італіі, Латвіі, Літве, Нідэрландах, Польшчы, Расіі, Францыі. Неаднойчы выстаўляў яго работы адзіны на ўвесь свет Музей экслібрыса ў Маскве...

Экслібрыс у пэўным сэнсе з’яўляецца візітоўкай Генадзя Грака. Хтосьці падлічыў: з 1966 па 2009 год майстар, які, дарэчы, 20 гадоў узначальвае Беларускі народны клуб экслібрысістаў, стварыў каля 700 кніжных знакаў! І гэтыя красамоўныя мініяцюры ўспрымаеш як знакі лучнасці ўнутранага свету мастака з вялікім светам літаратуры...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: кніжная графіка і экслібрысы Генадзя Грака.

Фота аўтара

## У наступным нумары

У сапраўднага навукоўца не бывае пенсійнага ўзросту. Прафесару Міхаілу Булахаву — 90 гадоў, а ён і сёння не пакідае думак пра навуковую справу. Міхаіл Гапеевіч — легендарная асоба беларускага і славянскага мовазнаўства, яго імя ведаюць філолагі, педагогі, гісторыкі не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Можна сказаць, што для Беларусі гэта велічыня не меншая, чым акадэмік Дзмітрый Ліхачоў для рускай навукі. Тым больш, што абодва вучоныя доўгія гады даследавалі адзін з самых цікавых старажытных твораў — “Слова пра паход Ігара”. Кароткі энцыклапедычны слоўнік “Слова пра паход Ігара” ў літаратуры, мастацтве, навуцы” Міхаіла Булахава паставіў Беларусь у першы шэраг краін, дзе глыбока вывучаецца гэты твор. Карэспандэнт “ЛіМа” гутарыць з вядомым навукоўцам пра тое, як ствараўся манументальная праца.

Не прамініце

## Будзе танней, чым у кнігарнях!

**На Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы чакаюцца два спецыяльныя дні: дзень ведаў і бібліятэчны.**

У бібліятэчны дзень (11 лютага) збіраюцца спецыялісты кніжных скарбніц з усёй краіны — каб азнаёміцца з навінкамі мастацкай, даведачнай, вучэбнай і іншай літаратуры. Можна будзе адразу заключаць дамовы на яе набыццё.

Запланаваны “круглы стол”, арганізатарам якога выступаюць Міністэрства інфармацыі і Нацыянальная бібліятэка Беларусі, “Электронная кніга — кніга дня сённяшняга і будучага”. У ім возьмуць удзел спецыялісты Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці, Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі, публічных і спецыяльных бібліятэк, прадстаўнікі міністэрстваў інфармацыі, культуры і адукацыі краіны.

Менавіта ў бібліятэчны дзень чакаецца прэзентацыя нацыянальнай экспазіцыі “Кнігі Украіны”, таксама — новай кніжнай серыі “Бібліятэка прапануе” выдавецтва “Красико-Принт”. Свае арыгінальныя навінкі прадставяць чытачу выдавецтвы “Макбел”, “Беларусь”, “Вышэйшая школа”, “Пачатковая школа”, “Выдавецтва Грамадзянскага”. А РВУ “Літаратура і Мастацтва” арганізуе прэзентацыю рамана Мішэля Дэона «Высший круг» з серыі “Бібліятэка сусветнай літаратуры”.

На дзень ведаў (12 лютага) запрашаюцца выкладчыкі і студэнты вышэйшых навучальных устаноў, школьнікі. Для іх чакаюцца спецыяльныя мерапрыемствы, звязаныя з выхаваннем, адукацыяй. Навукоўцы будуць прадстаўляць свае лепшыя творы і праводзіць прэзентацыі, сустрэчы-семінары. Вядучыя выдавецтвы краіны, якія выпускаюць вучэбную і вучэбна-метадычную літаратуру, рыхтуюць прэзентацыі новых кніг. Пра вучэбны працэс і досвед у выданні вучэбнай літаратуры распавядуць госці з краін замежжа.

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 3337
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 4.02.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 479

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6686